# БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ АКАДЭМІЯ: ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ

Частка I

*100 ПЫТАННЯЎ І АДКАЗАЎ*

(1840–1919)

Горкі 2010

УДК 376.663
ББК 63.3(2Б)
Б 43

Рэцэнзент А.А.Герасімовіч, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры гісторыі дзяржавы і права БДСГА.

Мастакі: С.І.Квач, Т.А.Гаўрыленка.

Фотаздымкі з архіва музея Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі, Горацкага раённага гістарычна-этнаграфічнага музея, М.Ляўцова і У.Ліўшыца.

Беларуская дзяржаўная сельскагаспадарчая акадэмія: гісторыя і сучаснасць. Ч.1. / Беларуская дзяржаўная сельскагаспадарчая акадэмія. Горкі, 2010. 148 с. Іл. 43.

Падаюцца адказы на 100 пытанняў пра заснаванне і дзейнасць у 1840–1919 гг. старэйшай вышэйшай навучальнай установы Рэспублікі Беларусь – Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі.

Для шырокага кола чытачоў.

**УДК 376.663**
**ББК63.3(2Б)**

## ПРАДМОВА

Апавядаючы пра гісторыю Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі, мы часта ўжываем словы "першы", "упершыню".

У 1840 годзе ў Горках была адкрыта першая ў Беларусі земляробчая школа, пераўтвораная ў 1848 годзе ў інстытут – першы сельскагаспадарчы інстытут у Расіі, студэнты якога ў 1863 годзе першымі на Магілёўшчыне далучыліся да паўстання К.Каліноўскага.

У інстытуце было закладзена першае ў Еўропе доследнае сельскагаспадарчае поле, пачаліся першыя навуковыя даследаванні ў розных галінах сельскагаспадарчай навукі, быў зроблены першы ў Расіі дрэнаж, створаны першыя ў Беларусі аграхімічная лабараторыя і ветэрынарная клініка.

16 студзеня 1905 года навучэнцы горацкіх вучэбных установ і рамеснікі Горак аднымі з першых у Беларусі выйшлі на палітычную дэманстрацыю.

Новая старонка пачалася ў красавіку 1919 года, калі ў Горках аднавіў работу Горацкі сельскагаспадарчы інстытут – першая вышэйшая навучальная ўстанова ў Савецкай Беларусі.

Гісторыя акадэміі вывучаецца даўно і грунтоўна. Шмат цікавых звестак пра стварэнне і існаванне Горыгорацкага інстытута знайшоў і надрукаваў С.Г.Цітовіч, аўтар фундаментальнага даследавання "Горыгорецкий земледельческий институт – первая в России высшая сельскохозяйственная школа". Гэта праца шырока выкарыстоўвалася аўтарамі пры напісанні гэтай кнігі.

Асабліва актывізавалася вывучэнне гісторыі акадэміі ў сувязі з падрыхтоўкай і святкаваннямі 125- і 150-годдзя акадэміі.

Новым крокам у вывучэнні гісторыі акадэміі стала святкаванне 155-, 160- і 165-гадовых юбілеяў, калі ўпершыню быў складзены "Летапіс Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі" (выйшла ўжо 4 выданні).

У 1996 годзе пачалося выданне брашур у серыі “Выдающиеся педагоги и воспитанники БГСХА”, а ў 2001 годзе выйшла серыя кніг па гісторыі факультэтаў, кафедр і навуковых школ.

Такім чынам, у апошні час з’явілася шмат цікавых кніг па гісторыі акадэміі.

Аднак аўтары лічаць, што ўсё ж недастаткова навукова-папулярных кніг, якія б даступна і папулярна расказалі пра гісторыю вну. Гэта і паслужыла матывам стварэння навука-папулярнага нарыса ў выглядзе пытанняў і адказаў. Пры гэтым аўтары зрабілі спробу як мага больш увагі удзяліць матэрыялам пра выкладчыкаў і выхаванцаў навучальнай установы.

Першая частка кнігі ахоплівае перыяд станаўлення і развіцця акадэміі ў 1840–1919 гг., калі існавала Горыгорацкая земляробчая школа і інстутут, а з 1864 года – сярэднія навучальныя ўстановы.

Толькі чытачы могуць ацаніць, ці ўдалося аўтарам дасягнуць пастаўленай мэты.

Кніга напісана на беларускай мове, аднак многія дакументы пададзены ў ёй на мове арыгінала – рускай мове. Гэта зроблена для таго, каб чытач змог адчуць каларыт таго часу, калі пісаўся дакумент. Як гэта ўдалося? На гэта можа адказаць толькі чытач.

Аўтары выказваюць шчырую падзяку за дапамогу ў выданні кнігі дацэнту кафедры рускай і беларускай моў БДСГА В.П.Зяньковіч, адказнаму сакратару Горацкай раённай газеты “Ленінскі шлях” П.І.Дзетліковічу, галоўнаму спецыялісту аддзела культуры Горацкага райвыканкама М.М.Студневай, навуковым супрацоўнікам Горацкага гістарычнаэтнаграфічнага музея С.С.Скаромнай,Т.А.Караеўскай,С.М.Макеевай, настаўніцам І.А.Туміловіч і А.А. Агейчык.

Аўтары будуць удзячны за заўвагі, прапановы, якія яны ўлічаць пры перавыданні кнігі.

## СПАЧАТКУ БЫЛА ШКОЛА

**1. Чаму ў лістападзе 1833 года на пасяджэнні Камітэта Міністраў Расіі было прынята рашэнне стварыць асобы “Комитет об усовершенствовании земледелия в России”?**



У першай палове XIX ст. на значнай частцы тэрыторыі царскай Расіі былі частыя неўраджаі, лютаваў голад. Сельская гаспадарка знаходзілася ў бядотным стане, айчынных спецыялістаў не хапала. У верасні 1833 года прэзідэнт Санкт-Пецярбургскага “Вольного экономического общества” М.С.Мардвінаў падаў цару Мікалаю I спецыяльную запіску, у якой, аналізуючы стан сельскай гаспадаркі ў краіне, пісаў: “…благосостояние народа возникает от плодов, землею произращаемых, но изобилие и качество плодов зависят от степени просвещения и от науки сельского хозяйства; сия же наука, полезнейшая в составе всех других, мало ещё известна в России...”

У лістападзе 1833 года на пасяджэнні Камітэта Міністраў гэта запіска была разгледжана і было прынята рашэнне стварыць асобы “Комитет об усовершенствовании земледелия в России”.

Новаўтвораны орган вырашыў выдаваць “Земледельческую газету”, друкаваць агранамічную літаратуру і адкрыць земляробчую школу з двума разрадамі – вышэйшым і ніжэйшым.

**2. Хто такі М.С.Мардвінаў, які прапанаваў ідэю стварыць земляробчую школу?**

**М.С.Мардвінаў** (1754–1845) у пачатку кар’еры служыў на флоце камандзірам лінкора “Георгий Победоносец”, а праз год – камандзірам лінкора “Царь Константин”.

У час руска-турэцкай вайны 1787–1791 гг. у чыне контр-адмірала камандаваў Ліманскай флацыліяй. Потым быў прызначаны членам Адміралцейскай калегіі і атрымаў чын адмірала. З узнікненнем у Расіі міністэрстваў (1802) заняў на кароткі час пасаду міністра марскіх сіл.

Калі быў утвораны Дзяржаўны Савет Расіі, Мардвінава прызначылі яго членам і старшынёй Дэпартамента дзяржаўнай эканомікі.

Мардвінаў быў адзіным членам Вярхоўнага суда, які ў 1826 годзе адмовіўся падпісаць смяротны прыгавор дзекабрыстам.

У 1823 годзе ён быў абраны старшынёй "Вольного экономического общества" і кіраваў ім да 1840 года. Аўтар прац па эканоміцы, фінансавай палітыцы, сельскай гаспадарцы, банкаўскай справе. У 1829 годзе быў абраны членам Расійскай акадэміі навук.

М.Рылееў апеў яго ў сваім вершы "Гражданское мужество":

Кто сей, украшенный венком,
С мечом, весами и щитом,
Презрев врагов и горделивость,
Стоит гранитною скалой
И давит сильною пятой
Коварную несправедливость?

Ён служыў пры чатырох царах, але заставаўся верным свайму дэвізу: служыць Айчыне, а не царам. Яшчэ ў 1824 годзе А.С.Пушкін адзначыў у лісце да П.А.Вяземскага: "Мордвинов заключает в себе одном всю русскую оппозицию".

**3. Якія патрабаванні былі да месца, дзе планавалася адкрыць земляробчую школу?**

У снежні 1833 года ў Міністэрстве фінансаў Расіі была пачата справа "О приискании удобного казённого или конфискованного имения, или оброчной статьи для устройства земледельческой школы с опытной запашкой".

Два гады працягвалася бюракратычная перапіска чыноўнікаў, расла колькасць папер у справе "О приискании…", а месца для школы ўсё яшчэ не знайшлі. Хаця вядома, што калі быў створаны "Комитет об усовершествовании земледелия в России", то цар Мікалай І даў указанне міністру фінансаў Расіі Я.Ф.Канкрыну "приступить к сему полезному делу, не отлагая без крайней нужды".

Нарэшце летам 1835 года была створана спецыяльная камісія для абследавання і выбару прыдатных для земляробчай школы маёнткаў.

У склад камісіі ўваходзілі калежскі асэсар фон Штэйнэр, на якога ўскладаліся агранамічныя назіранні, і калежскі асэсар Завадоўскі, спецыяліст па будаўнічай частцы.

Гісторык Л.Чарняўская знайшла ў Нацыянальным гістарычным архіве Рэспублікі Беларусь цікавыя дакументы, якія тычацца будаўніцтва ў Горках земляробчай школы. З іх бачна, што па рэкамендацыі міністра фінансаў для размяшчэння земляробчай школы былі абраны Магілёўская і Кіеўская губерні, прычым перавага аддавалася Магілёўскай губер-

ні: “што яна будзе зблiжана з губернямi Беларускiмi, Смаленскай, Чарнi-гаўскай, дзе асаблiва патрэбна ўдасканаленне хлебаробства, а таксама не вельмi аддалена ад Палтаўскай.

У Магiлёўскай губернi звярнуць асаблiвую ўвагу на казённыя маёнткi Горы-Горацкi i Быхаўскi”.

Звяртаюць на сябе ўвагу таксама некаторыя рэкамендацыi, дадзеныя членам камiсii па выбары месца: “Зблiжэнне з вялiкай ракой, зручнае месцазнаходжанне, дастатковасць вады ..., каб паблiзу самой установы не было продажу моцных напояў, якi казна не ў стане адмянiць, увогуле надта блiзкае суседства яўрэяў непажадана. Па частцы ўласна агранамiчнай трэба мець на ўвазе, цi добрая глеба для такой установы i для авечкагадоўлi... Патрэбна, каб была суразмерная частка натуральных лугоў i дастаткова добрага лесу..., каб паблiзу самой установы магло быць дастаткова фальваркавай зямлi”.

У Магiлёўскай губернi былi даследаваны маёнткi Горы-Горацкi, Старабыхаўскi, Барсукi, Бышлякi, Фашчэўка i 5 маёнткаў у Кiеўскай губернi. Цiкава, што ў некаторых маёнтках, якiя наведалi царскiя чыноўнiкi, потым былi адкрыты сельскагаспадарчыя вучэбныя цi навуковадаследчыя ўстановы.

Вядома, што з усiх агледжаных камiсiя спынiлася на дзяржаўным Горы-Горацкiм маёнтку.

**4. Чаму камiсiя спынiлася на Горы-Горацкiм маёнтку?**

Па-першае, царскi ўрад быў зацiкаўлены ў найменшай траце сродкаў на будаўнiцтва школы, а казённы маёнтак ужо меў некаторыя гаспадарчыя пабудовы i працоўную сiлу. Па-другое, царскiя чыноўнiкi лiчылi, што студэнцкая моладзь, адарваная ад вялiкiх прамысловых цэнтраў, у невялiкiм мястэчку заўсёды будзе пад кантролем палiцыi. А гэта выключыць распаўсюджванне ў яе асяроддзi рэвалюцыйных iдэй.

Па-трэцяе, царскi ўрад хацеў мець школу ў тым месцы, куды было б зручна дабiрацца вучням з Прыбалтыкi, Украiны i Расii. I Горкi адпавядалi гэтаму патрабаванню.

Да ўсяго гэтага трэба яшчэ дадаць, што ў гэты час быў закрыты Вiленскi унiверсiтэт. А ўлiчваючы, што другi разрад Горыгорацкай земляробчай школы быў вышэйшай навучальнай установай, гэта была “кампенсацыя” Заходняму краю.

Адзначым, што Горкi адпавядалi амаль усiм патрабаванням, якiя ставiла перад камiсiяй Мiнiстэрства фiнансаў. Не выканана было толькi адно: у мястэчку, якое было якраз на мяжы аседласцi яўрэйскага насельнiцтва, жыло ў той час 2528 чалавек, а з iх яўрэяў было 790 чалавек.

**5. Калі ўзніклі Горкі і чаму населены пункт так называўся?**

Горкі як вёска ўпершыню ўзгадваецца ў 1544 годзе ў “Литовской метрике”. У той час яна ўваходзіла ў склад Аршанскага павета Віцебскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага.

Прафесар В.Жучкевіч лічыць, што такая назва звязана з гарыстай мясцовасцю, на якой размешчаны Горкі.

Пісьменнік У.Юрэвіч піша, што назва “Горкі” ад слова “Горы” дало назву паселішчу, размешчанаму на некалькіх горках, гэта значыць “узвышшах”. Яно гэтак і звалася – Горы-Горкі.

Больш цікавую версію ў свой час выказаў археолаг Ш.Бекцінееў, які рабіў археалагічныя раскопкі ў вёсцы Горы нашага раёна. Ён лічыў, што ў пачатку XVI стагоддзя частка жыхароў старажытнага горада Горы перасялілася на месца цяперашняга горада Горкі, бо тут было перасячэнне двух гандлёвых шляхоў: Орша–Мсціслаў і Магілёў–Раманава і далей Смаленск. Спачатку новае паселішча мела назву Горы Малыя, а старое паселішча – Горы Вялікія. С цягам часу Горы Малыя сталі Горкамі, а Горы Вялікія – проста Гарамі.

Ёсць і цікавае паданне, якое склаў і запісаў доктар філалагічных навук А.Ненадавец. Коратка яго змест такі: на тэрыторыі Горацкай зямлі жыў князь Гардзей, які меў вельмі прыгожую жонку і двух дачок – Проню і Парасіцу. Жылі вельмі шчасліва і добра, пакуль не здарылася бяда: жонка князя дужа спадабалася валадару падземнага і падводнага царства.

І вось аднойчы, калі князя Гардзея не было дома, ён захапіў княгіню і яе дачок.

“Будзеш маёй жонкай”, – сказаў ён жанчыне-прыгажуні.

Тая адказала коратка: “Я маю мужа і не здраджу яму”.

Раззлаваўся валадар і шабляй пасек княгіню і яе дачок. І там, дзе ўпалі пасечаныя грудзі прыгажуні, выбіліся з зямлі дзве крынічкі, і пабеглі з іх рэчкі. Іх людзі назвалі Проня і Парасіца.

А князь Гардзей адпомсціў за жонку і дачок. Ён пачаў кідаць у раку вялізныя каменні і забіў валадара. З цягам часу тыя камяні абраслі зям-лёй і сталі на іх сяліцца людзі, а паселішча назвалі Горы-Горкі.

**6. Чаму Горы-Горацкі маёнтак быў адабраны ў графа Л.Салагуба?**

Калі было вырашана будаваць земляробчую школу ў Горках, маёнтак ўжо не належаў графу Л.Салагубу. У пачатку 1812 года ён падпісаў дагавор на пастаўку харчавання ў расійскую армію, але падрад не выканаў.

14 ліпеня 1812 года французскія войскі захапілі Горкі, а рускім войскам на чале з атаманам М.І.Платавым прыйшлося спешна адступаць з горада.

У выніку ваенных дзеянняў і ў час акупацыі французскае войска разрабавала Горацкі замак, Горкі і Горы, фальваркі Наталін, Сенькава, Сава, Рудкаўшчына, Анігоф і шмат іншых вёсак графства.

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захоўваецца цікавы дакумент "Апісанне ўрону, які панеслі жыхары Горы-Горацкага графства падчас нашэсця напалеонаўскіх войск у 1812 годзе". З яго вядома, што ў Горы-Горацкім маёнтку было забіта і памерла ад пабояў 2070 чалавек, а 34 жыхары былі захоплены ў палон. 303 чалавекі пакінулі свае дамы і збеглі ў лясы. Матэрыяльныя страты склалі больш за 3 млн. руб. У гэтыя лічбы ўваходзяць і страты жывёлы, збожжа і прадуктаў харчавання. Да таго ж у Горках з ліпеня па лістапад 1812 года знаходзіўся французскі вайсковы магазін для збору харчавання і фуражу. Зразумела, што рабіўся гэты "збор" сілаю.

У пачатку лістапада 1812 года французскія войскі пачалі адступленне з горацкай зямлі. Вядома, што 8 лістапада стаўка Галоўнага камандавання на чале з М.І.Кутузавым размясцілася ў мястэчку Раманава. Пасланыя адтуль рускія войскі 12 лістапада пад камандаваннем генерала А.П.Ажароўскага вызвалілі Горкі.

"Пустые дома крестьян, умерших от голода, бледные, высохшие лица ещё живущих наполняют душу страхом", – так апісвае Горкі сучаснік пасля вызвалення іх ад французаў.

У 1813 гаду маёнтак быў закладзены ў банку за 2 мільёны рублёў. Праз некалькі гадоў доўг узрос да 4,5 мільёнаў рублёў.

Цяжкае становішча жыхароў Горак і сялян маёнтка пагаршалася таксама з-за безгаспадарчасці апошняга ўладальніка маёнтка графа Л.Салагуба, які праводзіў жыццё ў балях і маскарадах. Для гэтага ён меў асабісты тэатр і аркестр.

З "Гісторыі беларускага тэатра" (Мінск, 1983. Т.1) можна даведацца, што толькі музыкантаў было 29 чалавек. Эканоміка мястэчка Горкі яшчэ больш заняпала, калі ўладальнік маёнтка граф Салагуб вырашыў выгнаць з Горак яўрэйскае насельніцтва. Як пісаў М.М.Сраговіч у артыкуле "Яўрэйскае насельніцтва Горацкага раёну. Мінулае і сучаснае" (Апісанне Горацкага раёну. Праца навуковага таварыства па вывучэнню Беларусі пры БДСГА з удзелам Горацкага раённага таварыства. Т.3. Горкі, 1927), яго мэтай было павысіць арэндную плату. Аднак

яўрэйскаму насельніцтву такія ўмовы былі не пад сілу, і частка з іх з'ехала ў другія мясціны. І толькі ў 1822 годзе граф адмяніў свой загад.

Такім чынам, разлічыцца з даўгамі ён не змог, і ў 1829 годзе царскі ўрад вырашыў канфіскаваць Горы-Горацкі маёнтак у казну (15 фальваркаў, 2770 прыгонных сялян і 1760 дзес. зямлі).

**7. Калі цар Мікалай І выдаў указ Сенату аб адкрыцці Горыгорацкай школы?**

24 красавіка 1836 года. Гэты дзень і прынята лічыць датай заснавання навучальнай установы.

Ва ўказе цара пісалася: "Шукаючы спосабы да паступовага ўдасканальвання земляробства ў Імперыі Нашай, як галоўнейшага вытоку багацця ўласнага і агульнага, вырашылі Мы, для адкрыцця бліжэйшых да гэтага сродкаў, стварыць асобы Камітэт, паводле заключэння якога розныя мерапалажэнні прыведзены ўжо ў дзеянне, але ж як галоўнейшы сродак для дасягнення жаданай мэты заключаецца ў распаўсюджванні патрэбных звестак і падрыхтоўцы практычных людзей для ўвядзення лепшых метадаў сельскай гаспадаркі, паводле прадпісання таго Камітэта загадалі мы міністру фінансаў заняцца земляробчай школай з узорнай сельскай гаспадаркай і карэннай аўчарняй".

Адзначым, што "Земледельческая газета" у чэрвені 1836 года растлумачвала, што "…Образцовая запашка учреждается при сей школе не для одних только опытов в малом виде, которые не убеждают привыкших к старому порядку, а для совершенного примера полного улучшения сельского хозяйства в пространном размере".

У канцы 1836 года была створана будаўнічая камісія па ўзвядзенні школьных будынкаў. Узначаліў яе чыноўнік Міністэрства фінансаў калежскі саветнік Кадзьян, членамі былі прызначаны калежскі асэсар барон дэ Рыдэль, аграном, калежскі асэсар барон фон Штэйнэр, упраўляючы маёнткам, калежскі асэсар Станкевіч.

У яе, акрамя царскіх чыноўнікаў, уваходзіў архітэктар-будаўнік, італьянец, калежскі сакратар Анжэла Кампіоні.

**8. Што вядома пра архітэктара-будаўніка А. Кампіоні?**

З архіўных дакументаў бачна, што **Анжэла Кампіоні** быў скульптурным майстрам, у 1835 годзе прызначаны памочнікам майстра-муляра для завяршэння будынкаў на Біржавай плошчы ў Санкт-Пецярбургу. Выконваў абавязкі майстра-муляра на будаўніцтве дома прысутнасці Санкт-Пецярбургскай мытні. За выдатную працу і стараннасць пасля заканчэння будаўніцтва Уваскрэсенскага сабора пры Смольным манастыры быў накіраваны архітэктарам у Горкі. У той час А.Кампіоні

было 47 гадоў. Ён быў жанаты і меў 8 сыноў і 5 дачок. 6 снежня 1840 года за выдатную і старанную службу і асаблівую працавітасць у Горы-Горацкай будаўнічай камісіі быў узнагароджаны ордэнам св. Станіслава III ступені. А. Кампіоні працаваў у якасці выкладчыка і школьнага архітэктара да 1846 года, затым атрымаў новае прызначэнне. У Горках выйшлі замуж дзве яго дачкі: Наталля – за агранома і выкладчыка школы Б.А.Міхельсона, Марыя – за школьнага доктара фон Вількена.

Цікава, што сын А.Кампіоні стаў вядомым у Расіі архітэктарам.

У лістападзе 1836 года ў Горках будаўнічая камісія пачала сваю дзейнасць. Сядзібныя будынкі, якія некалі належалі ўладальніку горацкага маёнтка графу Салагубу, былі старыя і не зусім прыгодныя для школы. Даводзілася асноўныя школьныя будынкі ўзводзіць нанава.

Зімой 1836–1837 года складаўся план будаўніцтва, нарыхтоўваліся будаўнічыя матэрыялы.

**9. Калі адбылася ўрачыстая закладка падмурка галоўнага вучэбнага корпуса?**

30 мая 1837 года. Тады ў падмурак корпуса была закладзена скрыня з залатымі, сярэбранымі і бронзавымі манетамі і медная дошка з надпісам: “Лета от рождения Христова 1837 года мая 30 дня в 12 год благополучного царствования Николая I по распоряжению министра финансов генерала от инфантерии Егора Францевича Канкрина, под руководством Высочайше утвержденной строительной комиссии, положено основание здания Горыгорецкой земледельческой школы”.

**10. Хто будаваў школу?**

Для будаўніцтва школы былі прыцягнуты сяляне Горы-Горацкага маёнтка, а таксама будаўнікі з многіх губерняў Расіі. Працавалі на будаўніцтве і жыхары мястэчка Горкі. І, відаць, добра зараблялі, бо яшчэ доўгі час месца, дзе вялося будаўніцтва школы, жыхары называлі “будаванні”. Аб гэтым успамінае ў кнізе “Шляхам ад пачатку стагоддзя” былы вучань Горацкага земляробчага вучылішча М.М.Ганчарык, які потым стаў доктарам біялагічных навук, член-карэспандэнтам АН БССР.

**11. Калі было скончана будаўніцтва і якія будаўнічыя матэрыялы выкарыстоўваліся?**

Вядома, што да 1840 года было ўзведзена 35 пабудоў: 3 каменныя трохпавярховыя карпусы, майстэрні, аранжарэя, жылыя дамы для выкладчыкаў, лазарэт, лазня і іншыя гаспадарчыя пабудовы.

Будынкі будаваліся з цэлы. Яе рабілі з гліны, якую здабывалі ў наваколлі Горак. Частка дамоў будавалася з саману.

**12. Ці захаваліся апісанні тых пабудоў?**

Гісторык Л.Чарняўская знайшла ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі падрабязнае апісанне галоўных будынкаў школы. Яно дае ўяўленне аб стане і выглядзе гэтых пабудоў. Галоўны корпус характарызаваўся наступным чынам. "Оный корпус каменный, крытый листовым железом, трёхэтажный, и с одной стороны подвальный этаж под сводами. Длиною 29 сажень, шириною 10 саж. 1/4 аршина и вышиною 7 саж. Корпусной карниз, фриз, пояски и все оконные впадины и притолки по наружности оштукатурены, поясок покрыт железом, и у всякого окна подоконники тоже покрыты листовым железом. Для входа в подвалы имеются два каменных крыльца с четырьмя дубовыми ступеньками. Для входа в кухни такое же крыльцо с таковыми ж восьмью дубовыми ступеньками и два крыльца для входа на лестницы, из коих главный с тремя, а боковой с десятью дубовыми ступеньками... Над сими последними тремя крыльцами железные зонтики на кронштейнах, крытые листовым железом, и при каждом по две водосточные трубы из листового железа..."

З архіўных матэрыялаў бачна, што на першым паверсе знаходзіліся аўдыторыя, бібліятэка, сталовая, буфет, пакой для назіральнікаў, амунічная, кухня, пякарня. На другім паверсе – рэкрэацыйныя залы 1-га і 2-га разрадаў, 7 класных пакояў і пакой для унтэр-афіцэраў. На трэцім паверсе знаходзіліся 5 спальных пакояў, 3 умывальні. На кожным паверсе былі туалеты. У пакоях меліся галандскія печы, абліцаваныя чырвонай кафляй, падлогі былі драўляныя, столі і сцены атынкаваныя і пафарбаваныя. У калідорах былі венецыянскія вокны.

Правы флігель "каменный, крытый листовым железом, трехэтажный, и с одной стороны подвальный этаж длиною 15 саж. 10 вершков, шириною 8 саж. 3/4 аршина и высотою 7 саж. Коронный карниз, фриз, оконные впадины и притолки штукатурные". У падвальным паверсе налічвалася 4 простыя пакоі. На ўваходзе ў флігель быў ганак на 12 дубовых прыступак. Над ганкам жалезны брыль на жалезных кранштэйнах. На першым паверсе размяшчаліся кватэра галоўнага назіральніка, кватэра сакратара і кватэра эканома.

На другім паверсе размяшчаліся кватэры геадэзіста, памочніка галоўнага назіральніка і доктара. На трэцім паверсе 2 пакоі займаў лазарэт для рабочых, 5 пакояў было таксама адведзена пад лазарэт, у адным пакоі размяшчалася аптэка, 2 пакоі прызначаліся для фельчара,

меліся кухня, калідор і агульная прыхожая. На кожным паверсе былі туалеты. У пакоях стаялі галандскія печы з чырвонай кафлі.

Левы флігель "каменный, крытый листовым железом, трехэтажный, длиной 15 саж. 10 вершков, шириной 8 саж. 3/4 арш. и вышиной до 6 саж. 1 арш.". Мяркуючы па апісанні, па архітэктуры ён быў падобны да правага флігеля. "Для входа во флигель главное крыльцо каменное с дубовыми шестью ступенями... Для входа на лестницу с боковой стороны такое же крыльцо с пятью дубовыми ступенями. Над сими двумя крыльцами железные зонтики на кронштейнах... Лестница и площадка оной на каменных сводах, площадки настланы дубовыми досками. От нижнего до верхнего этажа 52 ступени". На першым паверсе знаходзілася кватэра дырэктара, якая складалася з 7 пакояў, кухні, пярэдняй, калідора.

Тут жа, на першым паверсе, была кантора з пакоем для прысутных. На другім паверсе размяшчаліся кватэра для тых, хто прыязджаў у школу, кватэра прафесара аграноміі. Трэці паверх таксама быў жылы. Тут знаходзіліся кватэра ад'юнкт-прафесара і кватэра для двух настаўнікаў. На ўсіх паверхах у пакоях былі драўляныя падлогі, пафарбаваныя жоўтай фарбай, столі і сцены атынкаваныя, галандскія печы з чырвонай кафлі.

Галоўны корпус з двума флігелямі быў злучаны мураванай агароджай, даўжынёй з кожнага боку па 15 саж. і 2/3 арш., вышынёй ад 4 да 5 арш. Агароджа была пакрыта жалезам, сцены і слупы з абодвух бакоў атынкаваныя, пабеленыя і пафарбаваныя жоўтай фарбай, цокаль – шэрай. У агароджы былі зроблены 2 брамы і 4 драўляныя веснічкі.

Далей у дакументах апісаны "погребной флигель деревянный (цяпер жылы дом па вул. Ціміразева, 2/1) двухэтажный, из коих нижний каменный, а верхний деревянный, длиной 28 саж. 1 арш., шириной 6 саж. 1 арш., покрытый гонтом, покрашен краской масляной красною. Стены второго этажа обшиты снаружи чисто строганными досками, карнизы и фриз тоже окрашены: карниз – белой, а стены – желтой красками. Оный флигель с тремя поперечными коридорами, которые имеют на заднем фоне сообщение с необходимыми местами, и перед каждым коридором деревянных крылец 3. В этих трех коридорах лестницы, ведущие на вторые этажи, обшиты вроде чуланов досками".

На першым паверсе былі размешчаны кватэра для наглядчыцы за малаком, пакой для служанкі, адзін малочны пакой, пакой для трох жанатых сялян, кватэра повара і пекара. На другім паверсе размяшчаліся кватэра практычнага агранома і "людская". У другім

пад'ездзе на пер-шым паверсе знаходзіліся 2 пакоі для жанатых сялян, 2 пакоі з кухняй кастэлянкі, кладоўка для бялізны, пакой для прасавання бялізны, пакой прачкі. На другім паверсе былі кватэры памочніка па справаводству, практычнага агранома, пакоі для халастых сялян і назіральнікаў. У трэцім пад'ездзе на першым паверсе знаходзілася пральня, на другім – пакоі для 12 назіральнікаў.

З архіўных дакументаў бачна, што былы сядзібны дом быў перанесены і перабудаваны для галоўнага ўпраўляючага маёнткам і эканамічнай канторы. Пад старым сядзібным домам захаваліся мураваныя склепавыя сутарэнні на 3 аддзяленні. Вядома, што яны захаваліся да гэтага часу і выкарыстоўваюцца для патрэб паркавай гаспадаркі акадэміі.

Гісторык архітэктуры С.Сергачоў у артыкуле "Архитектура первых сооружений Горы-Горецкой земледельческой школы" таксама апісвае некаторыя жылыя і гаспадарчыя пабудовы школы (гэтыя будынкі былі знесены на тэрыторыі акадэміі ў 1957–1963 гг.): "… стены многих строений были сооружены из самана. То есть из материала, который не стоил практически ничего: основные затраты составляла доставка. Кроме того, работа с глиной не требовала особой квалификации работников, выгода была и в быстроте такого строительства.

Жилой дом по ул. Мичурина, 17 (гэта былая вуліца Прафесарская – У.Л.) имел три окна на торцевом, выходившем на улицу фасаде. Оштукатуренные глиной стены завершались развитым профилированным карнизом.

Жилой дом по ул. Мичурина, 21 имел два окна на торцевом фасаде. Опавшая местами штукатурка выявила структуру кладки стен из крупных саманных кирпичей. Карниза, завершающего стены, не было. Зато вокруг каждого окна штукатурка создавала своеобразный декор в виде плоской рамки, обрамлявшей проём.

У этих стоявших рядом домов много общего – объемная форма, размеры, назначение – для проживания учащихся и служащих. Но были и различия: оба щита двускатной крыши дома № 17 имели полукруглые, характерные для классицизма окна. А щиты дома № 21 – высокие прямоугольные оконные проемы.

Столярная мастерская по ул. Мичурина – весьма простое протяженное здание с двускатной крышей. Размеры и ритм оконных проемов подсказывают, что оно делилось на две части. Скорее всего, мастерская размещалась в большей половине, а в меньшей, приближенной к улице, учебный класс (именно здесь находилась и единственная в здании печь).

Окна в мастерской заметны больше, чем в классе. Четырехскатная крыша по торцам получала мезонины, которые для жилья не использовались. Но их активные формы, а также большое окно с полукруглым завершением, прорезанным в дощатой обшивке, придавали зданию выразительность.

Жилые дома по ул. Мичурина, 15 и 19 достаточно крупные, с широким корпусом здания. Предназначались для проживания преподавателей. Фасады характеризуются четкой осевой композицией. Протяженный, идущий вглубь двора фасад получил ярко выраженный центр в виде сложного тройного окна. Саманные стены были облицованы в полкирпича, что содействовало созданию развитой пластики фасадов: венчающий карниз, угловые и рядовые пилястры, выступающие обрамления окон и сандрики над ними. На всех четырех фасадах применены бленды – ниши в стенах, имитирующие оконный проем. Они имеют такие же, как окна, размеры, обрамления и поддерживают ритмичность фасадов и регулярность размещения оконных проемов. Это достаточно редкий декоративный прием.

… "скотный двор", который на фотографиях 1957 года назван "старинный коровник с аудиторией кафедры зоотехники". Крупное, пэобразное в плане здание впоследствии по центру получило двухэтажную аудиторию и дополнительно обросло пристройками. Но заметно, что это сооружение было обращено к главной улице торцами, имевшими треугольные фронтоны с большими полукруглыми окнами. Выразительность архитектуры усиливали крупномасштабные рустованные угловые пилястры, белый, завершавший кирпичные стены карниз, выявленные кладкой перемычки над окнами. Это кирпичное здание было построено, возможно, немного позднее, чем первые сооружения школы".

"Подобные архитектурные решения, – адзначаў С. Сергачоў, – не укладывались в привычные рамки традиционных приемов строительства. Но ведь и основная цель создания земледельческой школы заключалась не просто в подготовке специалистов, а в поиске и пропаганде новых, экспериментально проверенных, оптимальных приемов эффективного ведения сельского хозяйства. Значит, и строительство – одна из составляющих этого процесса, также не могло обойтись без новаторских моментов.

Архитектура зданий Горыгорецкой школы была сразу же отмечена как опыт, заслуживающий поддержки. Так, секретарь Императорского московского общества сельского хозяйства С. Маслов, побывавший в Горках в 1857 году, положительно оценил их, отметив, что "…почти все

постройки произведены разным способом. Так, один дом по способу Герарда, с промежутками в стенах, наполненных древесным углем, другой по способу Крюковского, из битой глины и покрыт бумажною крышей (так в те времена называли пропитанный картон. – С.С.), третий сделан из воздушного, т.е нежженого кирпича.

Надо полагать, создатели земледельческой школы, оказавшись в условиях жесткой нехватки средств, нашли решения, не только позволившие им осуществить поставленные задачи, но и придать среде учебного заведения особые качества. Использованные приемы организации пространства, архитектурные формы и конструкции должны были воспитывать, подсказывать направления принятия обоснованных решений, формировать у учащихся любознательность. Отсюда многообразие решений. Что же касается основных, трехэтажных кирпичных корпусов академии, то их архитектура в полной мере соответствовала идеям классицизма”.

Захаваліся супрацьлеглыя ўспаміны сучаснікаў: адны сведчылі што “институтские здания, покрашенные в красный цвет, с желтыми карнизами импонируют своей величественностью, но их стиль не свидетельствует про эстетический вкус строителя”.

Іншае сведчанне: “Здание главного корпуса, воздвигнутое на горе, освещенное многоразличными огнями, представляло величественное зрелище”.

Аднак вядома, што царскі ўрад лічыў, што ў мястэчку Горкі будынкі належыць узводзіць у казарменным стылі і без усялякіх упрыгожванняў. І ён выдзеліў на будаўніцтва ўсяго 296 тысяч рублёў.

Дрэннай была і якасць работ. І ўжо ў першы год існавання школы ў многіх будынках прыйшлося поўнасцю перарабляць печы, перасцілаць і перафарбоўваць падлогі.

**13. Калі была адкрыта школа і як гэта адбывалася**?

15 жніўня 1840 года Горкі выглядалі вельмі святочна. На ўрачыстае адкрыццё школы было запрошана шмат гасцей: губернскае начальства, купецтва. Працытуем на мове арыгінала архіўны дакумент з апісаннем урачыстасці, каб лепш перадаць атмасферу свята: “Утром в торжественный праздник Успения Пресвятой Богородицы директор школы вместе с профессорами, учителями, агрономами и воспитанниками в парадных мундирах собрались в библиотечную залу, оттуда церемониально отправились в церковь Успения Пресвятой Богородицы, сооруженную в местечке, где в присутствии могилевского гражданского губернатора, вице-губернатора, представителей палат и др. была

совершена торжественная литургия ректором Могилевской семинарии.

По окончании литургии все духовенство с крестным ходом, сопровождаемое вышеозначенными лицами и толпою крестьян и торжественным колокольным звоном прибыло в школу. В огромном зале, украшенном разноцветными гирляндами натуральных цветов, величественно красовался портрет Государя-императора, и так в присутствии монарха совершено было торжественное молебствие и последовало освящение зданий школы...

За сим царствовала тишина. Все посетители и духовенство заняли в зале сей места. Тогда старшим адъюнктом профессора агрономии Семеном Федоровым с устроенной нарочито кафедры, украшенной цветами, оранжерейными деревьями, зеленью и колосьями всех родов хлеба, над коею возвышались знаменитые вензеля виновников торжества сего и покровителей земледелия их сиятельств господ министров финансов и государственных имуществ, а также непосредственного начальника Горыгорецкой земледельческой школы директора 3-го Департамента государственных имуществ, действительного статского советника О.Ф. фон Братке произнесена была речь о цели учреждения Горыгорецкой земледельческой школы.

Избранные из среды крестьян лучшие хозяева с их женами до 300 человек были угощаемы во дворе зданий школы в присутствии всех знаменитых посетителей обедом.

За сим последовал великолепный обед для знаменитых посетителей числом до 100 человек.

В 8 часов вечера уединенное местечко Горки внезапно осветилось великолепной иллюминацией, разноцветные огни повсюду сверкали – и на возвышенном месте с аллей, идущих по саду от главного корпуса, красовался вензель Великого монарха в большой блестящей звезде. Здание главного корпуса, воздвигнутое на горе и освещенное иллюминацией и украшенное вензелем министра финансов и государственных имуществ, представляло величественное зрелище”.

**14. Чаму на ўрачыстасцях адкрыцця школы не прысутнічалі першыя вучні?**

Пры апісанні ўрачыстасцей была дапушчана памылка. Вучняў школы не было на адкрыцці школы.

Іх набралася ўсяго 7 чалавек. Выхадцы з бедных сялянскіх сем’яў былі апрануты так дрэнна, што іх нельга было дапусціць на гэта мерапрыемства. А іх парадныя мундзіры, відаць, пашыць не паспелі.

**15. У чым была прычына недабору вучняў у першыя гады?**

Яна была ў недаверы сялян да царскага цыркуляра аб накіраванні дзяцей у Горкі. Гэтым і карысталіся царскія чыноўнікі. Пісьменнік П.І.Мельнікаў у апавяданні "Поярков" апісвае, як прыстаў Паяркаў, атрымаўшы царскі Указ "Об отдаче малолетних крестьянских детей в Горыгорецкую земледельческую школу Могилёвской губернии", запалохваў сялян, тлумачыўшы размяшчэнне і прызначэнне школы: "Гэта губерня за Сібір'ю, на самым краі свету. І ўся яна стаіць у магілах. А на тых магілах гара, і на той гары школу завялі. Сялянскіх дзяцей там да ўсякага гора прывучаюць: таму і празвана "на гары Горацкая школа". Зразумела, што сяляне адкупліваліся як маглі.

Высокай таксама была плата за навучанне (120 рублёў у год).

**16. Што было галоўнай задачай школы?**

Трэба адзначыць, што царскі ўрад стараўся прыстасаваць сельскагаспадарчую адукацыю і навуку да ўмоў прыгоннага ладу. Таму галоўнай задачай новай навучальнай установы, як адзначалася ў "Положении Горыгорецкой земледельческой школы", было "… приготовить людей для ведения и распространения усовершенствованных методов сельского хозяйства как в виде распорядительном, так и исполнительном".

**17. Колькі разрадаў мела школа?**

Школа складалася з двух разрадаў: першага – ніжэйшага і другога – вышэйшага.

Першы разрад быў прызначаны рыхтаваць "земледельческих учеников" і даваў ім асновы аграноміі. Камплектаваўся ён у асноўным з дзяцей дзяржаўных і прыгонных сялян 16-20-гадовага ўзросту. Яны павінны былі ўмець пісаць, чытаць і ведаць чатыры дзеянні арыфметыкі.

На працягу трох гадоў вучні вывучалі падрыхтоўчыя і спецыяльныя сельскагаспадарчыя прадметы, на доследных палях і ферме выконвалі практычныя работы. Тыя, хто скончылі першы разрад, за выключэннем сялян, мелі доступ у другі. У штогадовых справаздачах школы неаднаразова адзначалася, што "выпускнікі курсаў першага разраду, як прыгоннага стану людзі, вернуты памешчыку". Ім не выдавалі і дыпломаў.

Другі разрад рыхтаваў аграномаў-практыкаў, і паступаць туды маглі дзеці толькі "свабоднага стану". Прыгонным доступ быў закрыты. На-вучэнцы вывучалі хімію, заалогію, батаніку, са спецыяльных сельска-гаспадарчых навук – аграномію, лесаводства, гісторыю і статыстыку сельскай гаспадаркі, іншыя сельскагаспадарчыя навукі.

Вытворчая практыка ў школе насіла таксама саслоўна-класавы характар. Вучні першага разраду працавалі, як і сяляне школьнага маёнтка, – вучні другога выкарыстоўваліся на лёгкіх работах, каб "падтрымаць свае сілы і здароўе". Было розным і харчаванне вучняў.

Усе навучэнцы жылі ў пансіёне. За імі назіралі інспектары і наглядчыкі з унтэр-афіцэраў. Апошнія пільна сачылі за паводзінамі, не дазвалялі чытаць кнігі "коих чтение могло иметь вредное влияние на нравственность". Усе пісьмы праходзілі праз рукі наглядчыкаў. Навучэнцаў каралі розгамі і саджалі ў карцэр. На працягу трох гадоў не адпускалі дадому, нават на канікулы. Такім чынам, у земляробчай школе ўсталёўваўся аракчэеўскі рэжым, блізкі да рэжыму ваенных пасяленняў.

**18. Што вядома пра першых кіраўнікоў і выкладчыкаў школы?**

Спачатку падбор кіраўнікоў быў не вельмі ўдалы. Так, першым дырэктарам школы быў доктар філасофіі **Ф.Ф.Стэндэр,** выхаванец Дэрптскага універсітэта, які не ведаў рускай мовы і карыстаўся перакладчыкамі з выкладчыкаў школы. Практычны аграном **Р.Р.Штэйнэр** не меў сельскагаспадарчай адукацыі і таксама дрэнна ведаў рускую мову, а галоўны наглядчык **Ф.Ф.Гінтлінг** быў нячысты на руку. І праз некалькі месяцаў пасля прыезду ў Горкі супраць яго была ўзбуджана крымінальная справа аб спагнанні даўгоў, зробленых у час службы гараднічым у горадзе Ізмаіл.

У кастрычніку 1844 года дырэктарам земляробчай школы быў прызначаны **М.І.Пейкер** (1809–1894), які пачаў ваенную кар'еру і служыў у лейб-гвардыі Сямёнаўскага палка да 1844 года. Яшчэ ў час ваеннай службы пачаў цікавіцца сельскай гаспадаркай і надрукаваў кнігу "Карманная книжка для сельских хозяев, содержащая в себе полное собрание главнейших правил сельского хозяйства и разных систем разделения полей, со всеми исчислениями, относящимися до полевых работ... переделанной из агрономического сочинения г. Шнэ и примененной к российскому полеводству" (1835), а таксама пераклаў з нямецкай мовы кнігу В.А.Крэйсіха "Советы о средствах против убытков в сельском хозяйстве, причиняемых влиянием неблагоприятной погодой" (1840).

Ён быў дырэктарам да 1849 года, а потым цэнзарам Пецярбургскага цэнзурного камітэта і членам Савета дзяржаўных крэдытных устанаў (1857–1865 гг.). Вядома, што ён рэцэнзаваў "Записки Горыгорецкого земледельческого иститута".

З 1866 года ўваходзіў у склад заснавальнікаў рускага сельскагаспадарчага таварыства “Работник”.

Сярод выкладчыкаў трэба адзначыць **С.Ф.Фёдарава**, які быў выхаванцам Маскоўскай земляробчай школы, адной з першых сельскаспадарчых навучальных устаноў Расіі. Ён быў вучнем вядомага ў галіне сельскай гаспадаркі прафесара Маскоўскага універсітэта, а потым дырэктара Маскоўскай земляробчай школы М.Г.Паўлава, аўтара першай капітальнай працы па аграноміі на русскай мове “Курс сельского хозяйства” (Т.1-2.1837). Пасля заканчэння Маскоўскай земляробчай школы С.Ф.Фёдараў выкладаў у ёй бухгалтэрыю і лясную гаспадарку, а потым працаваў у Міністэрстве дзяржаўных маёмасцяў.

У 1840 годзе ён быў прызначаны выкладчыкам у Горкі. І вядома, што ў жніўні 1840 года пры адкрыцці школы выступіў з прамовай “О цели, высочайше назначенной для Горыгорецкой земледельческой школы”, у якой паказаў значэнне школы для падрыхтоўкі спецыялістаў сельскай гаспадаркі Расіі, а таксама растлумачыў прысутным некаторыя пункты “Положения…” Горыгорацкай земляробчай школы.

Звяртае на сябе ўвагу думка С.Ф.Федарава, якую ён выказаў у прамове аб тым, што “…желать постепенного возрастающего увеличения народного и государственного богатства, а вместе с тем постоянного и прочного благоденствия, нужно, прежде всего, пожелать быстрого распространения благотворного света науки сельского хозяйства во все многообразные его отрасли…”

У земляробчай школе С.Ф.Федараў выкладаў энцыклапедыю сельскай гаспадаркі. Прытрымліваючыся традыцый Маскоўскай земляробчай школы і свайго настаўніка М.Г.Паўлава, ён лічыў, што, выкладаючы гэту навуку, трэба ва ўступе да курса даваць агульныя паняцці вучням аб прыродзе. Асноўны курс ён падзяліў на тры часткі: земляробства, раслінаводства і жывёлагадоўлю.

У сваю чару земляробства ён разглядаў па такіх аддзелах, як землязнаўства, землеўгнаенне, землеапрацоўка. Асобна вылучаў вучэнне аб земляробчых прыладах.

Аналізуючы праблему распаўсюджавання сельскагаспадарчых ведаў сярод сялян, ён бачыў, што яна сутыкаецца з цяжкасцямі, звязаны-мі перш за ўсё з іх непісьменнасцю, амаль поўнай адсутнасцю школ для сялян, недастатковай колькасцю настаўнікаў. Па яго прапанове Міні-стэрства дзяржаўных маёмасцяў Расіі вырашыла адкрыць “особое центральное заведение для образования приходских учителей” пры Горыгорацкай земляробчай школе.

Праект “Училища для образования сельских народных учителей” было даручана распрацаваць С.Ф.Фёдараву. Згодна з дакументам, “целью училища была подготовка учителей, которые наряду с общеобразовательными предметами могли бы обучать крестьян основным правилам практического сельского хозяйства”. Палажэнне прадугледжвала чатырохгадовы курс навучання: на першых двух курсах павінны былі вывучацца прадметы такія ж, як і ў першым разрадзе Горыгорацкай земляробчай школы, трэці год навучання ўключаў дадатковыя дысцыпліны педагагічнага цыклу, чацвёрты – у педагагічную практыку. Такое вучылішча працавала пры земляробчай школе з 1841 па 1845 год.

У Горыгорацкай земляробчай школе С.Ф.Федараў працаваў да 1843 года, а затым быў прызначаны кіраўніком ферм пры Міністэрстве дзяржаўных маёмасцяў Расіі. На жаль, далейшы лёс яго невядомы.

**Б.А.Міхельсон** (1812–1887) скончыў Дэрптскі універсітэт, а потым Алькустгофскі земляробчы інстытут. У 1837–1838 гадах быў камандзіраваны ў Германію ў Тарандскую земляробчую акадэмію для падрыхтоўкі да выкладчыцкай дзейнасці. У 1839–1840 гадах працаваў пры навуковым камітэце Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў. Быў адным з заснавальнікаў часопіса “Журнал сельского хозяйства”.

У 1840 годзе быў накіраваны ў Горкі. Працаваў больш за 20 гадоў спачатку выкладчыкам, а потым ад'юнкт-прафесарам. Акрамя выкладчыцкай дзейнасці, кіраваў вучэбнай фермай школы, а потым інстытута.

Ён загадваў у Горках таксама доследным полем, праводзіў практычныя заняткі па сельскай гаспадарцы.

Аўтар справаздач аб стане і дзейнасці вучэбнай фермы па вучэбнай, гаспадарчай і доследнай частках, якія, паводле водгукаў “Журнала сельского хозяйства”, былі “…справочным листком для сельских хозяев и самым надёжным руководителем в деле ведения хозяйства”.

Б.А.Міхельсон у сваіх працах адзначаў, што прыгоннае земляробства перашкаджае развіццю сельскай гаспадаркі. Ён бачыў выйсце з гэтага становішча расійскага земляробства ў адмаўленні ад прыгоннай працы і пераходзе да вольнанаёмнай, прадукцыйнасць якой ён вызначыў у два разы вышэй, чым прыгоннай. З агранамічнага пункту гледжання ён рэкамендаваў увядзенне ў земляробства выгонных севазваротаў як часовай меры, якая паляпшае глебы і падрыхтоўвае да ўзвядзення плодазменнай сістэмы.

Б.А.Міхельсон аказаў вялікі ўплыў на студэнтаў А.В.Саветава і І.А.Сцебута. Апошні потым пісаў: “Я мог вполне извлечь ту пользу в своём теоретическом и практическом образовании, которую

представляло руководство такого выдающегося в то время практика и теоретика, каким был Б.А.Михельсон. Ему я был обязан главным основанием моих специальных по сельскому хозяйству сведений. Это не есть моё исключительное мнение об этом наставнике, но его разделяло со мной большинство воспитанников Горыгорецкого земледельческого института”.

З 1860 па 1874 год кіраваў маёнткам у Кіеўскай губерні, а потым пераехаў у Маскву.

Б.А.Міхельсон быў абраны членам “Вольного экономического общества”, а з 1875 года – ганаровым сябрам “Московского общества сельского хозяйства”.

Настаўнікам школы быў архітэктар школы **А.Кампіоні,** які выкладаў курс “Сельская архитектура” (па 2 лекцыі ў тыдзень на другім курсе). Ён жа праводзіў практычныя заняткі на 3-м курсе па абпальванні цэглы.

Настаўнікамі школы працавалі таксама **А.А.Цэханоўскі і Л.Г.Берасцянаў** і інш. На жаль, пра іх лёс нічога невядома.

Дарэчы, не паспеў скончыцца першы навучальны год, як школа перайшла ў падпарадкаванне новаму ведамству – Міністэрству дзяржаўных маёмасцяў. Яго кіраўніцтва летам 1841 года наведала школу, і ў выніку ўзнікла справа “О расследовании злоупотреблений по управлению Горыгорецкой земледельческой школой, об устранении от должности директора школы Стендера, агронома Штейнера и др.”. У выніку дырэктар школы і агранам былі вызвалены ад пасад за тое, што займаліся прыпіскамі і эксплуатавалі сялян маёнтка.

**19. Які статус атрымаў другі разрад школы згодна з “Дадатковай пастановай” ад 19 студзеня 1842 года?**

У гэты дзень было зацверджана “Дадатковая пастанова” да становішча Горыгорацкай земляробчай школы 1836 года, мэтай якой было значнае павышэнне ролі другога разраду школы. Ён быў пераўтвораны ў самастойную вышэйшую навучальную ўстанову. Прымалі туды толькі дзяцей дваран і разначынцаў, якія скончылі гімназіі ці вытрымалі ўступныя экзамены.

У вучэбны план дадаткова ўводзілася вывучэнне рускага заканадаўства, механікі, мінералогіі, рускай славеснасці, нямецкай мовы і іншых прадметаў.

**20. Хто з вядомых вучоных працаваў у Горках пасля 1842 года?**

У той час у Горкі прыязджаюць і пачынаюць працаваць выкладчыкі, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё школы.

Гэта **Б.А.Цалінскі** (1812–1866), прафесар, вядомы педагог і аграном, які адпрацаваў у Горках 23 гады. Ён паходзіў з латвійских сялян, у 1835 годзе скончыў філасофскі факультэт Дэрптскага універсітэта, потым вучыўся ў Альткустгофскім інстытуце. У 1837 годзе быў накірава-ны ў Германію "…для усовершенствования в агрономических и лесных науках и для ознакомления на практике с заграничным хозяйством". Там вучыўся у Тарандскім агранамічным інстытуце, абараніў магістэрс-кую дысертацыю і быў накіраваны ў Горкі.

У 1840 годзе быў прыняты на працу ў Горыгорацкі земляробчы інстытут, дзе працаваў прафесарам і дэканам. У 1841 годзе абараніў у Дэрптскім універсітэце магістэрскую дысертацыю на тэму: "Некоторые соображения по поводу освещения нового налога на недвижимость в Королевстве Саксония".

Працуючы ў Горках, напісаў "Руководство для преподавания земледелия в духовных семинариях" (1860).

Вядома, што яму было даручана распрацаваць вучэбны план другога разраду Горыгорацкай школы. З гэтым ён паспяхова справіўся, і гэты план быў зацверджаны.

У ім, як лічыць большасць гісторыкаў сельскагаспадарчай адукацыі, ён адным з першых у Расіі распрацаваў канцэпцыю сельскагаспадарчай адукацыі, вызначыў яе мэты і задачы, якія ён бачыў у падрыхтоўцы рознабаковага спецыяліста.

Што тычыцца метадаў навучання, то ён лічыў, што ў сельскагаспадарчай адукацыі Расіі "…невозможно догматическое изложение предмета по организации хозяйства", што трэба больш часу ўдзяляць практычнаму навучанню.

Ён лічыў, што выкладчыкі навучальных устаноў павінны не толькі займацца выкладаннем навук, але і навуковай дзейнасцю. І трэба ствараць умовы, каб іх дасягненні ўкараняліся ў вытворчасць. "Науке сельского хозяйства, – пісаў ён, – дабы она могла быть плодотворною, необходимо жить на почве практики, дышать атмосферой опыта".

У 1863 годзе ён стаў лаўрэтам Дзямідаўскай прэміі – "награды за лучшее по разным частям сочинения в России".

Пасля 1863 года працаваў у Санкт-Пецярбургскім земляробчым інстытуце. У 1886 годзе выйшаў у адстаўку.

**П.А.Раздольскі** (1815–1881) скончыў Маскоўскую медыка-хірургічную акадэмію і ў 1841 годзе быў накіраваны ў земляробчую школу ветэрынарным урачом і выкладчыкам заалогіі і ветэрынарыі. Акрамя выкладання ў Горках, тут пачаў і свае навуковыя даследаванні ў галіне

ветэрынарнай медыцыны. Так, у артыкуле "Наблюдения над болезнями домашнего скота в 1846 году в Горыгорецкой земледельческой школе" П.А.Раздольскі апісаў больш за 40 захворванняў коней, буйной рагатай жывёлы, авечак і свіней.

Ён аўтар артыкула "Очерк истории ветеринарной медицины" (1854), які быў адным з першых прац у Расіі па гісторыі ветэрынарнай навукі.

Доктар медыцыны, прафесар заалогіі і ветэрынарыі, ён арганізаваў у Горках у 1853 годзе першую ў Беларусі ветэрынарную клініку. Кіраваў і конным заводам.

Працуючы выкладчыкам, ён праводзіў навуковыя даследаванні па ўстанаўленні аптымальных рацыёнаў кармлення авечак. Адным з першых ён пачаў вывучаць эфектыўнасць прышчэпак жывёл супраць чумы і напісаў артыкул па гэтым пытанні ў працах "Общества сельского хозяйства Южной России".

За поспехі ў галіне ветэрынарыі быў узнагароджаны сярэбраным медалём Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў.

У 1864 годзе за ўдзел у паўстанні 1863 года быў звольнены з інстытута, і далейшы лёс яго невядомы.

**К.Д.Шміт** (1817–1872) пасля абароны магістэрскай дысертацыі ў 1843 годзе быў прызначаны ў земляробчую школу, дзе стварыў добра абсталяваную вучэбную лабараторыю, якая дазваляла праводзіць дэманстрацыйныя эксперыменты на занятках і неабходныя хімічныя даследаванні. Як адзначаецца ў кнізе "Очерки истории науки и культуры Беларуси", ён быў заснавальнікам адной з першых навукова-даследчых хімічных лабараторый у Расіі. Вядома, што такая лабараторыя ў Санкт-Пецярбургу была створана толькі ў 1860 годзе.

Ім былі праведзены першыя ў Беларусі хімічныя і біяхімічныя даследаванні.

К.Д.Шміт быў аўтарам некалькіх кніг, якія адыгралі вялікую ролю ў развіцці выкладання хіміі ў Расіі і Беларусі. Ён аказаў вялікі ўплыў на станаўленне навуковых поглядаў А.В.Саветава і І.А.Сцебута ў галіне аграхіміі.

З імем **Э.Ф.Рэго** звязана стварэнне ў 1841 годзе на базе аранжарэі Горыгорацкага землясробчага вучылішча старэйшага ў Беларусі батанічнага сада, а ў 1847 годзе – дэндрарыя. Рэго адзін з першых пачаў навуковыя даследаванні па дэндралогіі, вывучаў асаблівасці цвіцення і плоданашэння драўнінных раслін, магчымасці інтрадукцыі і культуры разнастайных драўнінных раслін ва ўмовах Беларусі, быў ініцыятарам

закладкі лесапрамысловых насаджэнняў. Ім было сабрана каля 900 відаў і форм драўнінна-хмызняковых раслін, створаны вялікі батанічны гербарый мясцовых раслін. Э.Ф.Рэго ўдзельнічаў у стварэнні ўнікальнай па колькасці відаў і гатункаў калекцыі сельскагаспадарчых культур: яравой пшаніцы, аўса, гароху. У 1860 годзе Э.Ф.Рэго надрукаваў "Естественную историю растительного царства, преимущественно в применении к русской флоре средних губерний" (1860), прызначаную ў якасці вызначальніка, які ўключаў больш за 1000 апісанняў відаў раслін. Яго кніга "Руководство к улучшению садоводства и огородничества" вытрымала 4 выданні.

Ім была напісана адна з першых прац па памалогіі "Изложение систем и важнейших правил к определению плодов" і фітапаталогіі "О повреждениях и разных болезнях фруктовых деревьев". Ён першым зрабіў спробу прасачыць паходжанне садавіна-агароднінных культур з дзікарослых, вызначыў значэнне селекцыйнага адбору.

З 1843 года курс сельскагаспадарчай тэхналогіі і лесаводства пачаў праводзіць ад'юнкт-прафессар **Р.Е.Кнюпфер.** Да гэтага ён працаваў чыноўнікам корпуса грамадзянскіх тапографаў. Актыўна займаўся навуковай працай. Надрукаваў у часопісе "Журнал Министерства государственных имуществ" (1846) цікавы артыкул "Обозрение некоторых имений Минской и Могилевской губерний в 1845 г.".

**21. Чаму рэзка ўзрасла колькасць навучэнцаў пасля 1844 года?**

У школе ў першыя гады вучылася не вельмі шмат навучэнцаў: ад 7 у 1840 да 38 чалавек у 1843 годзе. А вось з 1844 года іх колькасць узрасла да 116 чалавек. Гэта было звязана з тым, што Сінодам Расіі было вырашана рыхтаваць у Горках выхаванцаў духоўных семінарый для таго, каб потым яны выкладалі аграномію ў семінарыях.

**22. Калі ў Горках была адкрыта вучэбная ферма і школа аўчароў і каго яны рыхтавалі?**

Вучэбная ферма, якой былі перададзены зямля і асноўныя гаспадарчыя пабудовы школы, была адкрыта ў 1844 годзе. На ферме, дзе набіралі штогод па 40 чалавек, вучылі вядзенню гаспадаркі і рыхтавалі вучняў для паступлення ў ніжэйшы разрад земляробчай школы. Тэрмін навучання складаў 4 гады.

Такім чынам, да 1845 года ў Горках існавалі ўжо тры сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы: вышэйшы і ніжэйшы разрады земляробчай школы і вучэбная ферма.

Акрамя таго дзейнічала невялікая школа аўчароў, дзе штогод навучалася 2–4 вучні. З 1841 па 1845 год працавала таксама вучылішча, якое рыхтавала настаўнікаў для сялянскіх школ.

### 23. Ці працягвалася ў Горках будаўніцтва ў 1840–1848 гг.?

У гэтыя гады на тэрыторыі земляробчай школы працягвалася актыўнае будаўніцтва. Яно было звязана з дзейнасцю камандзіраванага ў 1841 годзе ў земляробчую школу інжынера-механіка **Дыга** "для соображения на месте об устройстве при школе разных механических и технических заведений". Як сведчыць гісторык Л.Чарняўская, меркавалася, што з дапамогай гэтых устаноў выхаванцы азнаёмяцца з усімі галінамі прамысловасці і рамёствамі, звязанымі з сельскай гаспадаркай. У падрыхтаванай запісцы інжынер-механік выказаўся за стварэнне пры школе вадзянога млына, сукнавальні, вінакурні, плаціны, гарбарні па апрацоўцы аўчын і іншых устаноў, якія маглі б быць карыснымі для школы. Да запіскі было прыкладзена абгрунтаванне і неабходныя распараджэнні па іх арганізацыі.

У 1844 годзе у адпаведнасці з прадпісаннем Канторы Горыгорацкай школы архітэктар А.Кампіоні склаў праект механіка-тэхнічнай установы – двухпавярховага мураванага будынка з двума драўлянымі флігелямі. Паводле іншых архіўных дакументаў, праект тэхнічных устаноў пры земляробчай школе быў зацверджаны Дэпартаментам сельскай гаспадаркі ў 1849 годзе. Будынак размяшчаўся ў паўночна-ўсходняй частцы тэрыторыі школы, на беразе ручая. У 1872 годзе ў ім было арганізавана рамеснае вучылішча.

З 1859 года кіраваў тэхнічнымі ўстановамі, а затым і рамесным вучылішчам баварскі інжынер-механік **Георг Брокі.**

За перыяд 1840–1850 гг. пры земляробчай школе былі пабудаваны пральня з сушыльняй (праект зацверджаны ў 1845 г.), млын (1844), пчальнік (1843), лазарэт для сялян (1844), корчмы *(*1843), дом для чыноўнікаў вучылішча (1844), гасціны двор, жывёльны двор, малочнік, плаціны на р. Капылцы (1845), вароты пры ўездзе ў парк, пешаходны мосцік з батанічнага сада ў гадавальнік (1846), шэраг гаспадарчых пабудоў (1844–1847); у фальварках былі пабудаваны вінакурня (1844), скляпы для бульбы (1845, 1847), аўчарня і дом для школы аўчароў (1843), цагельні (1843), імшанік, рыгі, лядоўні, конны завод, на вучэбнай ферме жылыя дамы і г.д.

У 1840–1842 гг. з удзелам А.Кампіоні былі таксама адрамантаваны старыя аранжарэі. А ў 1846–1847 гг. аранжарэі былі ўвогуле

перабудаваны, таму што старыя ўжо не адпавядалі сваёй мэце.

У 1848 годзе была выканана пафарбоўка правага флігеля: "наружные кирпичные стены покрыты цементом, составленным из извести и толченого кирпича... Коронный карниз, поясок и все притолоки с отметками исправлены и выбелены известью".

**24. Калі пачалося будаўніцтва ў школе царквы і як гэта адбывалася?**

Яшчэ ў 1839 годзе, калі будаўнічыя работы па ўзвядзенні школьных будынкаў ужо завяршаліся, паўстала пытанне аб будаўніцтве мураванай царквы ўласна для школы. Некаторыя спрэчкі ўзніклі адносна выбару месца для будучай царквы. Архітэктар А.Кампіоні спачатку прапанаваў узводзіць царкву на рыначнай плошчы на месцы старых драўляных лавак. Дэпартамент дзяржаўных маёмасцяў параіў больш уважліва падысці да выбару месца, улічыўшы інтарэсы школы. Тады А. Кампіоні прапанаваў для царквы месца ў садзе на рагу вуліцы насупраць левага флігеля. Выбар месца быў абумоўлены тым, што па плане добраўпарадкавання мястэчка Горкі планавалася пракласці гэтую вуліцу прама на плошчу да гасцінага двара. Кантора школы таксама пагадзілася, што гэта месца найбольш выгоднае. У сваю чаргу духоўнае начальства меркавала будаваць царкву на месцы старой уніяцкай Мікалаеўскай царквы (на жаль, устанавіць месца, дзе яна існавала, да гэтага часу не ўдалося ), якое, на думку Канторы школы, было цеснае і "невидное".

Нарэшце міністр дзяржаўных маёмасцяў падчас наведвання Горыгорацкай земляробчай школы вызначыў месца для царквы ў новым парку (зараз тут акадэмічная бібліятэка).

План школьнай царквы быў распрацаваны ў Галоўным упраўленні шляхоў зносін і грамадскіх будынкаў на аснове тыпавога праекта архітэктара Тона для заходніх губерняў, быў зацверджаны імператарам Расіі 25 лістапада 1843 г. Архітэктарам Кавосам, згодна з планам, быў складзены каштарыс на будаўніцтва. Ён складаў 74639 рублёў. Спачатку будаўніцтва царквы было запланавана на 1845–1846 гг. Пры гэтым хацелася б адзначыць такі факт. Загадзя Кантора земляробчай школы прасіла на час устройства купала камандзіраваць з Санкт-Пецярбурга "искусного архитектора, хотя причин сомневаться в прочном и правильном возведении сей церкви г. Кампиони не находит, но во всяком случае полагало бы полезным".

Як вядома, з 1844 года рэзка ўзрасла колькасць навучэнцаў, і таму было вырашана перагледзець і план храма. Пад часовую школьную царкву прыстасавалі два прасторныя пакоі, аб'яднаныя аркай, на ніжнім

паверсе галоўнага корпуса. Іканастас быў перанесены з закрытай па старасці драўлянай Мікалаеўскай царквы і пастаўлены да ўсходняй сцяны.

Будаўніцтва новай мураванай царквы планавалася распачаць вясной 1848 года і завяршыць на працягу трох год. У дагаворах (кандыцыях) на выкананне работ асаблівая ўвага звярталася на якасць: "При кладке стен и столбов каждый кирпич смачивать, для сводов погружать его на некоторое время в воду в ушатах или особых ящиках. Каждый ряд кладки хорошо щебенить и заливать известковым прыском, снаружи известковые швы углублять для лучшей связи штукатурки с кирпичом". Цэгла для царквы выраблялася на цагельні ў фальварку Іванава.

Для царквы планавалася заказаць 5 крыжоў з "сібірскага" чатырохграннага жалеза і 6 званоў ад 1 да 45 пудоў. Вядома, што ў выніку былі ўстаноўлены 6 драўляных крыжоў, акаваных жалезам. Драўляныя іканастас, прастол, ахвярнік і два кліpасы па дагавору пастаўляў маскоўскі купец І.Р.Котаў. 17 абразоў для іканастаса, якія павінны быць скапіраваны з лепшых карцін вядомых мастакоў, браўся выканаць вучань Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтваў Васіль Ягораў.

Закладка падмуркаў будучага храма адбывалася пад наглядам архітэктара Маркава, які неўзабаве быў камандзіраваны ў Кіеў. У 1850 годзе для нагляду за будаўніцтвам Дэпартамент сельскай гаспадаркі накіраваў у Горкі архітэктара Бонч-Бруевіча. Аднак у сувязі з яго хваробай абавязкі гэтыя былі ўскладзены на грамадзянскага інжынера Віцебскай палаты дзяржаўных маёмасцяў Івана Восіпава.

Трэба сказаць, што будаўніцтва царквы ішло марудна па шматлікіх прычынах: не ў тэрмін нарыхтоўваўся будаўнічы матэрыял, марудна выраблялася цэгла, даводзілася па некалькі разоў аб'яўляць таргі на будаўнічыя работы і пастаўкі матэрыялаў, бо не адразу знаходзіліся зацікаўленыя падрадчыкі, карэкціраваліся праект і каштарыс у адпаведнасці з мясцовымі ўмовамі. Будынак царквы ў асноўным быў узведзены ў канцы 1851 года. У наступным годзе працягвалася аздабленне храма. Паводле архіўнага дакумента, 12 снежня 1851 года яшчэ быў заключаны кантракт з селянінам Калужскай губерні П. Крыловым на выкананне тынковачных работ унутры і звонку: гладкай тынкоўкі сцен, тынкоўкі пілястраў, пры вокнах і дзвярах выцягванне пояскоў карнізаў і ліштваў, выраб ляпных упрыгожванняў з сандрыкамі. Тынкоўка сцен і купала выконвалася вапнай з пяском без алебастру.

Калі пачала працаваць новая царква, паводле архіўных дадзеных, нельга дакладна ўстанавіць. Хутчэй за ўсё ў 1852 годзе. Ва ўсякім разе,

у спісе будынкаў, што належалі Горыгорацкаму земляробчаму інстытуту, які быў складзены ў 1854 годзе, было пазначана: “Каменная Свято-Николаевская церковь”.

Гэта царква была ўпрыгожваннем Горак. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ёсць дакумент аб нашым горадзе, які датуецца 1894 годам: “…Это крайне бедный, заброшенный город в стороне от рек, железных и шоссейных дорог…Его красит училище с прекрасной церковью…”

**25. Ці вядомы лёс першых выхаванцаў школы?**

З 1840 па 1848 год Горыгорацкія навучальныя сельскагаспадарчыя ўстановы скончылі 162 навучэнцы. З іх вышэйшы разрад – 70 чалавек.

Многія з іх сталі славутымі на ўсю Расію. Гэта сябар М.Г.Чарнышэўскага па Саратаўскай гімназіі **П.У.Палімпсестаў** (1818–1902), які стаў потым прафесарам Адэскага універсітэта. Ён у свой час, падкрэсліваючы практычную накіраванасць сельскагаспадарчай навукі, пісаў, што “...помрачится свет теории, если лучи его не пройдут сквозь многоразличные призмы практики и если изучающий науку сельского хозяйства не будет следить за этими лучами”.

Вядомы ён і як аўтар прац па многіх пытаннях сельскай гаспадаркі, надрукаваных у працах “Общества сельского хозяйства Южной России”, “Вольного экономического общества” і “Московского общества сельского хозяйства“, шматлікіх часопісах. З гэтых прац ім быў састаўлены “Сборник статей о сельском хозяйстве России”. Ён таксама аўтар “Словаря сельскохозяйственных растений” (1855), дзе апісаў амаль усе сельскагаспадарчыя культуры, якія можна было вырошчваць на тэрыторыі Еўропы. Як лічыць гісторык Г.Зленка, “…подготовленный им словарь даёт право считать его основоположником сельскохозяйственной библиографии и отраслевого справочного словарства на Украине”.

Былы выхаванец у 1853 годзе прыязджаў у Горкі на першы сельскагаспадарчы з‘езд, а ў 1854 годзе быў абраны ганаровым членам Савета Горыгорацкага земляробчага інстытута.

**І.М.Чарнапятаў** (1822–1879) скончыў Горыгорацкую земляробчую школу ў 1846 годзе і быў камандзіраваны за мяжу, а з 1851 года працаваў намеснікам упраўляючага Казанскай вучэбнай фермы. У гэтым жа годзе вытрымаў іспыты ў Горыгорацкім земляробчым інстытуце на званне агранома. Потым працаваў прафесарам Лясного інстытута ў Пецярбургу і Пятроўскай земляробчай і лясной акадэміі (у апошняй кіраваў кафедрай жывёлагадоўлі і вучэбнай фермай).

Спачатку ён цікавіўся меліярацыяй і надрукаваў працу “Руководство к торфяному хозяйству” (1857). Яна была адзначана ў навуковым свеце. Так, часопіс “Сельское хозяйство” (1857, №7) пісаў, што гэта “есть доселе лучшее сочинение в этом роде на русском языке”.

У 1861 годзе надрукаваў кнігу ”Руководство к орошению разных земельных угодий” (1861). Гэта была адна з першых прац у Расіі па арашальнаму земляробству.

Аднак праславіўся наш выхаванец як вучоны і аўтар шматлікіх прац па жывёлагадоўлі, такіх як: “Исторический очерк развития тонкошерстного овцеводства в России и обозрение нынешнего положения его” (1863), “Скотоводство в северных и средних губерниях России и меры к его улучшению” (1872).

Ён быў абраны членам “Московского общества сельского хозяйства”, ”Вольного экономического общества”, “Российского общества садоводства”, член-карэспандэнтам “Учёного комитета Министерства государственных имуществ”. Быў узнагароджаны малым залатым медалём Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў, залатым медалём “Московского общества сельского хозяйства”. Складзеная ім калекцыя воўны атрымала залаты медаль на Венскай міжнароднай выставе ў 1873 годзе.

**М.І.Сібірцаў** (1824–1912) працаваў 32 гады выкладчыкам Архангельскай семінарыі. Ён надрукаваў падручнік “Опыт библейско-естественной истории, или описательное изложение библейской геологии, ботаники и зоологии” (1867), які быў прызнаны лепшым і рэкамендаваны для духоўных семінарый Расіі. Гэта пра яго міністр народнай адукацыі Расіі Д.А.Талстой сказаў: “...вот если бы везде в России были такие преподаватели!”.

Праводзячы навуковыя даследаванні, ён надрукаваў некалькі артыкулаў пра сельскую гаспадарку Поўначы ў працах “Вольного экономического общества”. Быў абраны член-карэспандэнтам “Вольного экономического общества” і ўзнагароджаны сярэбраным медалём.

**М.Я.Дубенскі** (1822–1892) пасля заканчэння Горыгорацкай земляробчай школы выкладаў ва Уладзімірскай семінарыі. Пачаў актыўна займацца вывучэннем Уладзімірскага краю і ў 1859 годзе надрукаваў даследаванне “О производительности, доходности и ценности земель Владимирской губернии”, дзе даказваў, што больш паловы селянскіх гаспадарак знаходзяцца на мяжы разарэння. Потым пераехаў у Санкт-Пецярбург, дзе працаваў помочнікам А.В.Саветава – рэдактара “Трудов Вольного экономического общества” (выхаванца Горыгорацкага

інстытута). Затым пачаў працаваць у Дэпартаменце ўдзелаў і выкладаць у земляробчым удзельным вучылішчы.

У 1864 годзе быў камандзіраваны у Беларусь і ў Магілёве працаваў сакратаром статыстычнага камітэта па ўсталяванні сялян Заходняга краю, а таксама рэдактарам газеты "Могилевские губернские ведомости".

**А.Б.Думашэўскі** нарадзіўся ў Магілеве ў 1836 годзе ў сям'і беднага яўрэя. У 1845 годзе паступіў у Горыгорацкае земляробчае вучылішча. Пасля яго заканчэння служыў у канцылярыі Камітэта па замежных пасяленцах Паўночнага краю. У 1859 годзе паступіў у Рышыльеўскі ліцей, а праз год перайшоў на юрыдычны факультэт Санкт-Пецярбурскага універсітэта, дзе атрымаў ступень кандыдата права.

Быў пакінуты ва універсітэце і накіраваны за мяжу для падрыхтоўкі да прафесарскага звання. У 1865 годзе вярнуўся ў Расію, працаваў у Міністэрстве юстыцыі, а затым обер-сакратаром 3-га Дэпартамента Сената, але ў 1871 году пакінуў гэтую пасаду і пачаў працаваць рэдактарам-выдаўцом газеты "Судебный Вестник" (пачынаючы з № 66 за 1871 г. і па № 258 за 1876 г.). У гэтай газеце ён змясціў цэлы шэраг артыкулаў па самых разнастайных пытаннях юрыспрудэнцыі. Аўтар-складальнік кнігі "Систематический свод решений кассационных департаментов Сената 1866–1871 гг.: решения гражданского кассационного департамента, разъясняющие Т.Х Ч.І Свода законов с прибавлением решений, относящихся ко всем другим томам свода законов, за исключением уложения о наказаниях. С подлинными текстами решений, извлеченными из них тезисами и критическим разбором их. Т.1" (1872).

У канцы жыцця ён устанавіў стыпендыю на юрыдычным факультэце Санкт-Пецярбурскага універсітэта, якая называлася "Стипендыя еврея Думашевского", якая павінна была выдавацца "нуждающимся студентам без различия вероисповедания". Сваю бібліятэку, у якой налічвалася больш за 600 кніг па праву і філасофіі, таксама ахвяраваў універсітэту.

**Х.І.Гербаноўскі** (1821–1850) быў накіраваны ў Горкі з Херсонскай духоўнай семінарыі. Пасля заканчэння навучання ў 1846 годзе быў прызначаны выкладчыкам у Рышыльеўскі ліцей у Адэсе. Яшчэ вучнем ён зацікаваўся батанікай, вывучаў расліны Горак і павета і ў 1848 годзе надрукаваў у "Журнале Министерства государственных имуществ" цікавы артыкул "Хозяйственно-ботанический очерк окрестностей Горыгорецкой земледельческой школы". Потым вывучаў флору і агародніцтва Адэскай губерні, друкуючы артыкулы у "Трудах Вольного экономи-

ческого общества", "Записках общества сельского хозяйства юга России". Быў абраны членам "Рижского общества естествоиспытателей". Біяграфічная даведка пра нашых выхаванцаў змешчана ў кнізе С.Ю. Ліпшыца "Русские ботаники: Биографо-библиографический словарь" (М.,1947. Т.2).

**Л.І.Сахараў** (1822–1887), ураджэнец горада Ардатава Ніжагародскай губерні. У 1846 годзе скончыў земляробчае вучылішча і адразу пачаў працаваць у Ніжагародскай семінарыі выкладчыкам аграноміі і прыродазнаўчай гісторыі. Вядома, што Сахараў вельмі любіў свае прадметы і прымяняў разнастайныя метады іх выкладання. Так, ён праводзіў разам з вучнямі экскурсіі на суседнія палі сялян і памешчыкаў. Пры гэтым выкарыстоўваў вопыт агрападарожжаў, у якіх удзельнічаў, калі вучыўся ў Горках.

Запрашаў семінарыстаў і да сябе дадому, дзе размаўляў з імі пра жыццё, пра будучыню. Такі настаўнік прыцягнуў да сябе таленавітага вучня Мікалая Дабралюбава. Б.Я.Ягораў у кнізе "Николай Алексадрович Добролюбов" пісаў: "…Николай делился со своим учителем планами, часто брал у него книги". Вядома, што, дзякуючы свайму настаўніку, М.Дабралюбаў вырашыў адмовіцца ад кар'еры святара і паступаць у Санкт-Пецярбурскі універсітэт.

Л.І.Сахараў актыўна займаўся і навуковай працай. Яго абралі член-карэспандэнтам Ніжагародскага статыстычнага губернскага камітэта, а за працу "О хозяйственных промыслах села Качанзина Нижегородской губернии", якую ён надрукаваў у "Трудах Вольного экономического общества", Л.І.Сахараў быў узнагароджаны медалём таварыства.

Выхаванец земляробчай школы **К.А.Чалоўскі** быў выкладчыкам Магілеўскай семінарыі. Таксама займаўся навуковай працай і зрабіў першае апісанне флоры Магілёўскай губерні.

**П.Сокалаў** пасля заканчэння земляробчай школы выкладаў у Разанскай семінарыі. Ён быў адным з нямногіх выханцаў вышэйшага разраду земляробчай школы, які здаў экзамены ў Горыгорацкім земляробчым інстытуце і атрымаў званне агранома.

Быў вельмі таленавітым настаўнікам. Вядома, што здолеў зацікавіць сваіх вучняў выкладаннем сельскай гаспадаркі і аказаў вялікі уплыў на І.П.Паўлава, які стаў вядомым вучоным-фізіёлагам, акадэмікам Расійскай акадэміі навук, лаўрэатам Нобелеўскай прэміі ў галіне медыцыны і фізіялогіі (1904).

У 1855 годзе П.Сакалоў быў абраны Ганаровым членам Савета Горыгорацкага земляробчага інстытута.

Вельмі здольным выкладчыкам стаў выхаванец земляробчай школы **Д.Разумоўскі**, які выкладаў у Фіфанскай семінарыі. Дзякуючы его намаганням, зарадзілася цікавасць да сельскай гаспадаркі ў А.В.Саветава, які паступіў на вучобу ў Горкі і стаў потым першым доктарам сельскагаспадарчых навук.

### 26. Якія навуковыя даследаванні праводзіліся ў земляробчай школе?

Адначасова з вучэбнымі заняткамі ў Горыгорацкай земляробчай школе вяліся і навуковыя даследаванні. Для гэтага выкарыстоўвалася асобнае доследнае поле ў дваццаць дзесяцін зямлі ў Горацкім фальварку і ўчастак у батанічным садзе.

Заснаванае ў 1840 годзе, яно было першым доследным полем у Еўропе. Як лічыў прафесар В.В.Вінер, "…первое русское опытное учреждение возникло уже в 1840 г. вместе с первой агрономической школой в Горках".

У галіне раслінаводства вывучаўся ўплыў розных угнаенняў на ўрадлівасць пшаніцы, ячменю, аўса, бульбы, ільну. За 1841–1847 гады было выпрабавана 47 гатункаў бульбы, 23 гатункі пшаніцы, ячменю, аўса і канюшыны.

У жывёлагадоўлі даследавалася эфектыўнасць кармоў розных відаў. Праводзіліся выпрабаванні сельскагаспадарчых машын і прылад, спосабы захоўвання сельскагаспадарчых прадуктаў.

Як правіла, доследы праводзіліся па ўказанні Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў на працягу 1–2 гадоў. Імі кіравалі прафесар Б.А.Цалінскі і ад'юнкт-прафесар Б.А.Міхельсон.

У правядзенні доследаў удзельнічалі не толькі выкладчыкі, але і навучэнцы школы.

Вынікі даследаванняў, якія праводзіліся на доследным поле і вучэбнай ферме, друкаваліся ў выглядзе справаздач. Частка з іх была надрукавана ў часопісе "Журнал Министерства государственных имуществ". У 1843 годзе справаздача Горыгорацкай фермы была надрукавана ў адным з нямецкіх навуковых часопісаў. І, прадстаўляючы гэты матэрыял, рэдакцыя часопіса пісала: "Отчёт школы показывает, что здесь на дело смотрят с самой настоящей практической точки. Производимые в школе опыты над разными удобрениями, над последствиями глубокой и легкой вспашки, над кормлением коров разными веществами доказвают это практическое направление".

Гэта быў адзін з першых навуковых кантактаў Горыгорацкай земляробчай школы з замежнымі навуковымі коламі.

**27. Што прадстаўлялі сабой агранамічныя падарожжы, якія практыкаваліся ў школе?**

Навучэнцы прымалі ўдзел у такой цікавай навукова-даследчай працы, як агранамічныя падарожжы, калі некалькі навучэнцаў пад кіраўніцтвам выкладчыка ў час летніх канікул адпраўляліся ў падарожжа па губернях. Іх мэтай было вывучэнне маёнткаў і сялянскіх гаспадарак. Справаздачы аб гэтых падарожжах друкаваліся ў навуковых часопісах.

Першае падарожжа было праведзена ў 1844 годзе пад кіраўніцтвам Б.А.Цалінскага. Тады трое вучняў накіраваліся ў падарожжа па Магілеўскай і Віцебскай губернях.

**28. Ці захаваліся водгукі сучаснікаў пра дзейнасць школы?**

Дасягненні школы не засталіся без увагі навуковай грамадскасці і кіраўнікоў міністэрстваў. Так, прафесар Я.А.Ліноўскі ў артыкуле “Характер и цель учения в разных земледельческих школах, институтах и университетах в Европе”, надрукаваным у часопісе “Московитянин” у 1845 годзе, пісаў, што ў Горыгорацкай земляробчай школе сельская гаспадарка выкладаецца лепш і падрабязней, чым у іншых школах Расіі. А міністр дзяржаўных маёмасцяў Расіі П.Д.Кісялёў у сваёй справаздачы за 1845 год адзначыў, што “... земледельческая школа занимает в России первое место среди учреждений по распространению улучшений в сельском хозяйстве”.

Такім чынам, дастаткова высокі ўзровень выкладання, навуковая работа, папулярнасць Горыгорацкіх земляробчых устаноў стварылі перадумовы для пераўтварэння вышэйшага разраду земляробчай школы ў інстытут.

## П Е Р Ш Ы  Ў  Р А С І І



**29. Чаму царскія чыноўнікі выступалі супраць адкрыцця Горыгорацкага земляробчага інстытута ў Горках?**

Пераўтварэнне вышэйшага разраду Горыгорацкай земляробчай школы ў інстытут праходзіла ў той перыяд, калі феадальна-прыгонніцкія адносіны ў Расіі дажывалі свой век, калі пытанні аб спосабе вызвалення сялян, аб адносінах паміж памешчыцкім і сялянскім

землеўладаннем пачалі набываць асаблівае значэнне ў грамадска-палітычнай барацьбе.

Гэта барацьба праявілася і ў вырашэнні пытання аб адкрыцці ў Горках земляробчага інстытута. Супраць адкрыцця інстытута выступалі царскія чыноўнікі, якія выстаўлялі ў якасці прычыны аддаленасць Горак ад буйных гарадоў, цяжкасці ў падборы выкладчыкаў і наборы студэнтаў, беднасць сялянскіх гаспадарак Магілёўскай губерні. Асабліва пярэчылі чыноўнікі Міністэрства народнай асветы, якія стаялі на ахове прыгонніцкага ладу. Яны палохалі, што “возрастающее повсюду стремление к образованию может  поколебать порядок гражданских сословий”.

У той жа час прагрэсіўны дзеяч, прафесар сельскай гаспадаркі Маскоўскага універсітэта Я.А.Ліноўскі лічыў, што “нельзя было выбрать места более приличного для рассадника улучшенного хозяйства, как Белоруссию, страну, известную у нас своими песками, бесплодностью, лесами и бедностью, страну, где … от распространения между ним (народам) правильного, хорошо обдуманного хозяйства можно было ожидать средств к умножению его довольства и благосостояния”.

У рашэнні спрэчкі вырашальную ролю адыгралі эканамічныя фактары. Дырэктар 3-га Дэпартамента Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў А.І.Леўшын лічыў, што “…оба заведения уже существуют там 7 лет; на здания и заведения употреблено более миллиона рублей; профессора есть; лаборатории, кабинеты и прочие пособия учреждены; следовательно, теперь не время рассуждать о месте”.

**30. Калі было прынята Палажэнне  аб Горыгорацкім земляробчым інстытуце і яго штаце?**

У маі 1847 года міністр дзяржаўных маёмасцяў разгледзеў і зацвердзіў падрыхтаванае Вучоным камітэтам палажэнне  аб Горыгорацкім земляробчым інстытуце. Але толькі праз год, 30 чэрвеня 1848 года, у выніку процідзеяння бюракратам Міністэрства народнай асветы было зацверджана “Положение о Горыгорецком земледельчеком институте и состоящих при нем земледельческом училище и учебной ферме”, згодна з якім вышэйшы разрад Горыгорацкай земляробчай школы пераўтвораны ў земляробчы інстытут – першы ў Расіі “с правом университета”.

У земляробчы інстытут прымаліся без экзаменаў асобы, якія скончылі курс гімназіі, а якія не скончылі, – здавалі экзамен за гімназічны курс. Студэнты насілі форму, якая была прынята ва універсітэтах: толькі з зялёным аздабленнем на каўнеры і абшлагах.

На працягу чатырох гадоў студэнты вывучалі спецыяльныя прадметы: паляводства, лугаводства, жывёлагадоўлю, лесаводства. Вывучалі таксама дамаводства, сельскую бухгалтэрыю, сельскагаспадарчую тэхналогію і механіку, архітэктуру і геадэзію. У праграму ўваходзілі і прыкладныя навукі: матэматыка, фізіка з метэаралогіяй, мінералогія, кліматалогія, хімія, батаніка, заалогія. Адзін раз у тыдзень праводзіліся літаратурныя гутаркі. Апошнія павінны былі знаёміць студэнтаў "с лучшими произведениями отечественной литературы, с духом сих произведений, сравнительными красотами и оборотами русской речи".

Пасля заканчэння інстытута студэнты атрымлівалі дыплом са званнем "агронома" ці "действительного студента агрономии". Першы выдаваўся тым, хто пісаў "развагі" (дыпломную працу) па адной са спецыяльных дысцыплін і здаваў на "выдатна" усе экзамены.

У "Положении…" адзначалася, што "звание агронома соответствует званию университетского кандидата, а потому и могут агрономы Горыгорецкого института на одинаковых основаниях быть с кандидатами допущены к выдерживанию экзамена в магистры по сельскому хозяйству и садоводству или по технологии". "Как Горыгорецкий земледельческий институт, – адзначалася ў "Положении…", – составляет ныне единственное в России специальное высшего разряда училище сельскохозяйственных наук, то в институте разрешалось сдавать экзамены экстерном за полный курс на звание "действительного студента". Тых, хто паспяхова скончыў інстытут, узнагароджвалі залатымі і сярэбранымі медалямі. На іх быў адлюстраваны плуг і подпіс "От Горыгорецкого земледельческого института".

Паводле новага "Положения…", навучанне заставалася платным. За вучэбны год студэнты інстытута, якія жылі ў пансіянаце, павінны былі плаціць 125 рублеў. Прычым плату трэба было ўносіць за паўгода наперад. Казённакоштных студэнтаў, г.зн. тых, хто навучаўся за кошт дзяржавы, было 25 чалавек.

**31. Што адбылося з ніжэйшым разрадам школы?**

Рэформа закранула не толькі вышэйшы, але і ніжэйшы разрад, які быў пераўтвораны ў Горыгорацкае земляробчае вучылішча з чатырохгадовым тэрмінам навучання. Тыя, хто скончыў яго, атрымлівалі званне вучонага памочніка эканома, а праз шэсць гадоў працы па спецыяльнасці – атэстат на званне вучонага эканома.

**32. Калі былі адкрыты і што ўяўлялі сабой класы прыватных каморнікаў і таксатараў?**

У 1858 годзе пры інстытуце была адкрыта новая навучальная ўстанова У яе прымаліся шаснаццацігадовыя падлеткі "всех свободных состояний", але перавага аддавалася дзецям дваран. Навучанне ў вучылішчы вялося два гады. За гэты час навучэнцы вывучалі ніжэйшую геадэзію, нівеліраванне, таксацыю, чарчэнне і іншыя спецыяльныя навукі.

Вучні класаў былі ў больш прывілейным становішчы, чым студэнты інстытута і навучэнцы земляробчага вучылішча, таму што ўсе былі вольнапрыходзячымі, г.зн. жылі на прыватных кватэрах і атрымлівалі стыпендыю, хадзілі без формы. Класамі кіравала ўпраўленне інстытута. У хуткім часе для іх быў пабудаваны спецыяльны будынак.

Калі ацэньваць у цэлым "Положение …" аб земляробчым інстытуце, то, як лічыў С.Г.Цітовіч, варта прызнаць "...направленность Положения о Горыгорецком земледельческом институте 1848 года антикрепостнической. Институт по "Положению…" должен был подготовить молодежь к умению устраивать хозяйство при раскрепощенном крестьянине".

**33. Хто быў першым дырэктарам інстытута?**

У ходзе рэформы Горацкіх земляробчых навучальных устаноў адбылася змена кіраўніцтва. У красавіку 1848 года дырэктарам Горыгорацкага земляробчага інстытута быў прызначаны **А.А.Война-Курынскі** (1800–1865).

У 1825 годзе ён скончыў Маскоўскі універсітэт і абараніў дысертацыю на ступень доктара медыцыны. Добра валодаючы нямецкай мовай, ён разам з Ф.Графам пераклаў на рускую мову кнігу нямецкага прафесара А. Генке "Руководство к познанию и лечению младенческих болезней" (М., 1827).

У 1827 годзе вярнуўся ў свой маёнтак у вёску Успенскае Холмскага павета Пскоўскай губерні. У 1838–1845 гг. абіраўся ў Халме і Тарапце кіраўніком дваранства. Быў вельмі разнастайна развітым чалавекам: іграў у самадзейных спекталях, добра спяваў, разбіраўся ў выяўленчым мастацтве. Так, у 1841 годзе надрукаў артыкул пра першага холмскага мастака С.Л. Захарава. Займаўся яшчэ вывучэннем гісторыі краю.

Цікава, што на яго артыкул "Что у кого болит, тот о том и говорит", надрукаваным у другой кнізе "Сельские чтения", звярнуў увагу вядомы літаратурны крытык В.Р.Бялінскі (Статьи и рецензии (1843–1845). Пол. собр. соч. в 13 томах. Том 8. М., 1955).

У гэты час ён перамяніў медыцынскую спецыяльнасць на сельскагаспадарчую. Надрукаваў некалькі прац у "Журнале Министерства государственных имуществ" і газеце "Псковские губернские ведомости".

Ён звярнуў на сябе ўвагу чыноўнікаў Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў, надрукаваўшы артыкул "О местных хозяйственных условиях Холмского уезда Псковской губернии" ("Журнал Министерства государственных имуществ"), дзе разглядаў пытанні сялянскай практыкі ў сельскай гаспадарцы.

З яго надрукаваных прац найбольш вядомы "Статистическое описание города Холма", а таксама яго артыкул "К преобразованию земледелия", надрукаваны у часопісе "Труды Вольного экономического общества", дзе ён пісаў: "Еще утвердительнее сказать можно, что в руках крестьян-земледельцев денежных капиталов нет вовсе. Исключений очень мало". І зрабіў вывад, што перабольшваць колькасць багатых сялян у прыгонны час не варта. Побач з адзінкамі заможных сялян усё больш узрастала маса бедных сялян. Адзначым, што пісаў гэта чалавек, які сам меў зямлю і прыгонных сялян. Цікава, што яго вывад быў выкарыстаны гісторыкамі ўжо ў савецкі час у кнізе І.В.Кузняцова і В.І.Лебядзева "Пособие для учителей. История СССР. XVIII – середина XIX вв" (М., 1958).

У 1842 годзе быў абраны член-карэспандэнтам Вучонага камітэта Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў і пачынае працаваць там у 3-м дэпартаменце, які кіраваў сельскагаспадарчай адукацыяй і навукай.

На працягу 12 гадоў А.А. Война-Курынскі кіраваў інстытутам. Пры ім узрасла колькасць студэнтаў і навучэнцаў у інстытуце, вучылішчы і ферме, былі адкрыты каморніцка-таксаторскія класы. На працу былі запрошаны вядомыя прафесары ў галіне сельскай гаспадаркі, якія не толькі вялі заняткі, але і актыўна займаліся навуковай працай.

Вынікі іх даследаванняў друкаваліся ў "Записках Горыгорецкого земледельческого института", якія выдаваліся з 1852 года. Вядома, што менавіта ён распрацаваў структуру часопіса і прыклаў шмат намаганняў, каб часопіс пачаў выходзіць.

Чалавек высокаадукаваны, ён садзейнічаў пошуку разнастайных метадаў выкладання: семінараў-гутарак, агрападарожжаў, навуковай працы сярод студэнтаў. Раз на тыдзень, па пятніцах, па вечарах, студэнты выпускных курсаў збіраліся на кватэры А.А.Война-Курынскага на "агрономические беседы" і разбіралі студэнцкія творы, часопісныя сельскагаспадарчыя артыкулы.

Дырэктарам інстытута, а таксама начальнікам земляробчага вучылішча і вучэбнай фермы, а з 1859 года і каморніцка-таксатарскіх класаў ён працаваў да 1860 года. У 1862–1864 гадах абіраўся Тарапецкім павятовым кіраўнікам дваранства. Стварыў у Тарапце “Общество сельских хозяев”, якое і ўзначаліў. Памёр у 1865 годзе.

**34. Якія прафесары пачалі працаваць у інстытуце?**

Са стварэннем земляробчага інстытута папоўніўся штат выкладчыкаў. Былі прыняты на работу прафесары А.А.Гінцэль, І.А.Цютчаў, В.П.Аляксееў, Э.Э.Баліён, Ю.Э.Янсан, магістр матэматыкі П.М.Каралёў і інш.

Прафесар **А.А.Гінцэль** быў родам з Ліфляндскай губерні (зараз Латвія). Скончыў Кіеўскі універсітэт. У 1853–1864 гг. выкладаў у земляробчым інстытуце, у тым ліку і па ўласных “запісках” такія прадметы, як “кадастр и люстрация”, дзе разглядаліся некаторыя пытанні з прадмета палітэканомія – аб зямельным даходзе, рабочай сіле, капітале.

Вынікам даследаванняў А.А.Гінцэля ў галіне палітычнай эканоміі быў яго даклад “Об условиях, имеющих влияние на поземельную ренту”, дзе ён своечасова ўказваў, што “…цена земли есть не что иное, как капитализированная рента…”

Карыстаўся вялікай павагай у студэнтаў. Менавіта А.А.Гінцэль быў абраны кіраўнікам студэнцка-выкладчыцкага клуба Горыгорацкага земляробчага інстытута.

**І.А.Цютчаў** (1834–1862) атрымаў ступень кандыдата прыродазнаўчых навук у 1856 у Санкт-Пецярбурскім універсітэце. Потым займаўся ў прыватнай хімічнай лабараторыі М.М.Сакалова і А.М.Энгельгарта. Там ім было зроблена першае даследаванне, якое паслужыла яму магістэрскай дысертацыяй: “О гликолях вообще и о вновь полученном соединении бензойно-кислом кюмоле” (СПб., 1856).

У 1857 годзе быў накіраваны ў Горыгорацкі земляробчы інстытут. Спачатку працаваў малодшым прафесарам, праз год быў абраны старэйшым прафесарам, а неўзабаве і дэканам. Акрамя выкладання, І.А.Цютчаў працягваў работу па арганізацыі хімічнай лабараторыі, пачатак якой быў пакладзены К.Д.Шмітам.

У 1860 годзе быў камандзіраваны ў Германію, Францыю і Бельгію. З яго імем звязаны пачатак хімічных даследаванняў у Беларусі, а таксама станаўленне хімічнай навукі на Украіне. У 1862 годзе быў абраны прафесарам кафедры хіміі ў Кіеўскім універсітэце.

У 1865 годзе зноў быў камандзіраваны за мяжу. У 1866 годзе за дысертацыю “Об химической формуле везувиана” удастоены ступені

доктара хіміі. У 1869 годзе быў прызначаны дырэктарам Інстытута сельскай гаспадаркі і лесаводства ў Новай Александрыі, а ў 1875 годзе перайшоў працаваць дырэктарам выпраўленчай калоніі каля Санкт-Пецярбурга.

Аўтар шматлікіх артыкулаў, надрукаваных у працах "Вольнага экономического общества". У 1862 годзе ён надрукаваў фундаментальную працу "Введение к изучению кристаллографии", падрыхтаваную ў Горках, якая атрымала станоўчы водгук у навукоўцаў.

Аўтар прац "Об успехах земледельческой химии до конца прошлого столетия" (1860), "Несколько фактов, относящихся до петиловых соединений" (1860), "Jeher benzo ë saures Athylmercaptan" (1862), "Введение к изучению кристаллографии" (1882), "Гониометр с диоптрами" (1863), "Zur Kenntniss der Titans ä ure" (1866), "Начальные основания минеральной химии" (1868), "Значение Либиха для сельского хозяйства" (1875) і іншых.

У 1854–1858 гг. выкладчыкам сельскагаспадарчай механікі і тэхнікі ў інстытуце працаваў **П.М.Каралёў** (1821–1894). Ён скончыў фізіка-матэматычны факультэт Харкаўскага універсітэта і абараніў дысертацыю па механіцы на ступень магістра. Быў абраны ад'юнкт-прафесарам матэматыкі, прыкладной механікі і сельскай архітэктуры.

Як бачна з матэрыялаў, змешчаных у "Записках Горыгорецкого земледельческого института" (кн.6, 1857), ён актыўна займаецца не толькі выкладчыцкай дзейнасцю, але і навукова-даследчай працай. Так, у гэтым выданні быў надрукаваны яго артыкул "Об извести как строительном материале, и преимущественно об оршанской", у якім ён разглядае склад розных вапнавых матэрыялаў у прымяненні да будаўніцтва. Па словах А.В.Саветава, П.М. Каралёў зацікавіўся будаўнічай справай, удзельнічаў у будаўніцтве новых аб'ектаў у інстытуце.

У 1858 годзе ён пераязджае ў Маскву, загадвае сіроцкім домам, кіруе жаночымі сельскагаспадарчымі курсамі. А з 1870 па 1876 год узначальвае Пятроўскую (цяпер Ціміразеўскую) сельскагаспадарчую акадэмію. Цікава, што пра гэты перыяд жыцця П.М.Каралёва ўспамінаецца ў кнізе пісьменніка У.Г.Караленкі "История моего современника" (М., 1976).

Потым ён пераязджае ў Санкт-Пецярбург, дзе працуе старшынёй тэхнічнага аддзела "Вольного экономического общества".

**Э.Э. Баліён** (нар. у 1816 г.) скончыў Казанскі універсітэт і працаваў настаўнікам у 2-й Казанскай гімназіі, актыўна займаўся навуковай

дзейнасцю і надрукаваў працы “Краткая ботаника” (ч. I, Казань, 1857), “Опыт исследования о русских названиях простонародных и книжных млекопитающих животных, водящихся в пределах Российской Империи” (Казань,1858).

У 1860 годзе быў абраны ад’юнкт-прафесарам Горыгорацкага земляробчага інстытута, дзе выкладаў энтамалогію.

З 1865 года працуе ў Санкт-Пецярбургскім земляробчым інстытуце. Там актыўна займаўся даследаваннямі па энтамалогіі. Іх вынікі друкаваліся у “Bulletin de la soc. Imp. des naturalistes de Moscou” (1805–1888).

**Ю.Э.Янсан** (1835–1893) вучыўся на медыцынскім факультэце Кіеўскага універсітэта, а затым перайшоў на гісторыка-філалагічны, які скончыў у 1855 годзе з залатым медалём.

Працаваў настаўнікам у Першай Кіеўскай гімназіі, а ў 1861 годзе быў запрошаны ад’юнктам у Горыгорацкі земляробчы інстытут.

У гэты час ён актыўна займаўся навуковай працай. З 1861 па 1864 год збіраў матэрыл для працы “Пинск и его район” (1869).

Калі інстытут у Горках быў закрыты, ён прызначаецца прафесарам інстытута інжынераў шляхоў зносін у Санкт-Пецярбургу. У гэтым жа годзе абараніў магістэрскую дысертацыю на тэму “О значении теории ренты Рикардо”.

З 1868 года – дацэнт Санкт-Пецярбурскага універсітэта, з 1871 года – доктар палітычнай эканомікі і статыстыкі, з 1873 па 1880 год – загадчык кафедры палітычнай эканомікі і статыстыкі. З 1876 года амаль 12 год быў дэканам юрыдычнага факультэта.

У 1867 годзе “Вольное экономическое общество” камандзіравала яго для вывучэння стану хлебнага гандлю ў розных рэгёнах Расіі. У выніку ён надрукаваў некалькі прац: “Статистическое исследование о хлебной торговле и производительности в Одесском районе”, “Хлебная торговля в Волыни”, “Крым, его хлебопашество и хлебная торговля”. За іх “Географическое общество России” узнагародзіла яго залатым медалём.

У 1877 годзе ён надрукаваў манаграфію “Опыт статистического исследования о крестьянских наделах и платежах”. Яна вытрымала два выданні. А праз год ён выдае капітальную працу “Сравнительная статистика”, прысвечаную статыстыцы насельніцтва. Праз два гады выйшаў другі том “Статистика сельского хозяйства”.

Чарговая кніга “Теория статистики", надрукаваная ў 1891 годзе у трох выданнях была ўзнагароджана Акадэміяй навук Расіі прэміяй і залатым медалём.

Прафесар І.І.Геаргіеўскі, успамінаючы пра яго, пісаў: “Как ученый-специалист по статистике, он занимает одно из первых мест во всем ученом мире. Для того чтобы быть хорошим статистиком, надо любить цифры, надо уметь обращаться с ними, надо понимать их своеобразный язык, – все эти признаки в высокой степени соединялись в его лице. Ему открывались немые уста цифр, замкнутые для других; в его руках они послушно ложились в графы и рамки, и ему доверяли они свои заветные тайны, скрытые от других; зато и он платил им взаимностью: около 30 лет, как он отдал свои богатые силы Статистике, ей верил, ею радовался, ею жил...”.

У 1892 годзе ён быў абраны член-карэспандэнтам Расійскай акадэміі навук. Выбіраўся членам Статыстычнага савета Міністэрства ўнутраных спраў, старшынёй статыстычнай секцыі “Русского Общества охранения народного здравия”, членам “Географического и Вольного экономического обществ”, членам “Международного статистического института”, член-карэспандэнтам “Статистического общества в Париже”. Яго памятаюць і зараз. У 1995 годзе ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная 160-годдзю з дня нараджэння Ю.Э. Янсана.

У наступныя гады ў інстытуце сталі выкладаць прафесары, якія былі вырашчаны самім інстытутам. Сярод іх А.М.Бажанаў, С.С.Касовіч, Ю.Ю.Жабенка, А.М.Казлоўскі, А.В.Саветаў, І.А.Сцебут (пра іх мы раскажам далей).

Выпускнік інстытута І.А.Сцебут, калі ўспамінаў прафесароў і выкладчыкаў інстытута, пісаў: “...несомненно самым талантливым был Б.А.Целинский, преподававший земледелие и домоводство (сельскохозяйственную экономию)... Очень добросовестным был преподаватель химии К.Д.Шмидт, усердным и добрым Э.Ф.Рего. Большая польза в моем теоретическом и практическом сельскохозяйственном образовании была в руководстве такого выдающегося практика-теоретика, каким был Б.А.Михельсон”.

**35. Ці працягвалася ў гэты час будаўніцтва?**

У 50-я гады на тэрыторыі Горыгорацкіх навучальных устаноў працягвалася далейшае будаўніцтва. Быў пабудаваны корпус сельскагаспадарчай тэхналогіі, завод па вырабу цэглы і дрэнажных труб, майстэрня сельскагаспадарчых машын, чыгуналіцейны завод, сыраварня і вучэбны

пчальнік.

Адначасова з будаўніцтвам царквы на тэрыторыі школы ўзводзілася і мураваная лазня. Старая драўляная лазня была ў дрэнным стане, да таго ж знаходзілася яна далёка ад вады, таму Дэпартамент сельскай гаспадаркі палічыў немэтазгодным яе капітальна рамантаваць. Было вырашана будаваць новы мураваны будынак лазні на р. Капылка. У мэтах эканоміі сродкаў рэкамендавалася новую лазню будаваць такіх жа памераў, каб можна было перанесці стары дах. Праект лазні быў зроблены ў Дэпартаменце сельскай гаспадаркі. Будынак быў прамавугольны ў плане, складаўся з двух аддзяленняў. Уваход знаходзіўся ў цэнтры падоўжанага фасада. Справа ад уваходу было вялікае аддзяленне для студэнтаў і чыноўнікаў, якое складалася з распранальні, умывальні і ўласна лазні, злева – для выхаванцаў фермы і земляробчага вучылішча. Будаўніцтва лазні было завершана ў лістападзе 1851 года. Як вядома, яна працуе і зараз.

**36. Ці захаваўся пералік усіх будынкаў, якія належалі інстытуту?**

Калі вышэйшы разрад Горыгорацкай земляробчай школы быў рэарганізаваны ў земляробчы інстытут, то быў складзены пералік усіх будынкаў, якія належалі інстытуту.

Усіх будынкаў і іншых збудаванняў у рэестры пералічана: 1. Галоўны корпус; 2. Правы флігель; 3. Левы флігель; 4. Флігель на галоўным двары; 5. “Погребной” флігель; 6. Дом земляробчага вучылішча (будуецца); 7. Флігель пры вучылішчы; 8. Дом тэхнічных устаноў; 9. Мураваная Свята-Мікалаеўская царква; 10. Дом святара пры ёй; 11. Павець; 12. Вартоўня пры шашы; 13. Вартоўня пры браме інстытута; 14. Мураваная лазня; 15. Кузня; 16. Пральня з сушыльняй; 17. Мураваная павець з пчальнікам; 18. Драўляная павець пры правым флігелі; 19. Драўляная павець са стайняй, кладовай, лядоўняй пры левым флігелі; 20. Домік для адхожых месц; 21. Скляпы на галоўным двары; 22. Пажарная павець; 23. Стайні на двары “погребного" флігеля; 24. Агароджа, якая злучае флігелі з галоўным корпусам; 25. Агароджа, якая злучае левы флігель з “погребным”; 26. Рашэцістая агароджа пры смаленскай дарозе з такой жа брамай і веснічкамі на чыгунных тумбах; 27. Частаколы, якія з'яўляюцца працягам апошняй агароджы; 28. Частакол пры царкоўнай дарозе; 29. Частакол пры р. Капылка за агародам; 30. Валы ў розных месцах інстытута; 31. Вал пры тэхнічнай установе; 32. Аранжарэя верхняя; 33. Аранжарэя ніжняя; 34. Цяпліца; 35. Пчальнік у садзе; 36. Кітайская альтанка; 37. Альтанка ў драўнінным

расадніку; 38. Альтанка-грыб; 39. Хлеў для глебы; 40. Гімнастычныя гульні з арэлямі і каруселлю; 41. Альтанка з памостам для гульні ў кеглі; 42. Рашэцістыя вароты; 43. Вароты ў батанічны сад; 44. Вароты з мастом пры тэхнічнай установе; 45. Мост на шашы; 46. Мост пешаходны праз Капылку; 47. Дамба пры тэхнічнай установе на левым беразе Капылкі; 48. Мураваная з кантфорсамі калітка пры земляробчым вучылішчы; 49. Плаціна праз Капылку; 50. Шаша паміж інстытутам і царквой з працягам яе за царквой, а таксама розныя дробныя мосцікі і драўляныя трубы ў валах.

Для Горацкіх навучальных устаноў было мала вучэбных памяшканняў. Таму ўзнікла неабходнасць будаўніцтва новага вучэбнага корпуса для земляробчага вучылішча. Спачатку інжынеру І.Осіпаву было даручана скласці праект перабудовы правага флігеля. Затым Дэпартамент сельскай гаспадаркі прызнаў мэтазгодным пабудаваць для вучылішча новы двухпавярховы будынак. Нагляд за будаўніцтвам ажыццяўляў І. Осіпаў. Як вынікае з архіўных дакументаў, у 1854 годзе ўжо вяліся будаўнічыя работы. Планавалася скончыць будаўніцтва ў жніўні 1855 года.

У архівах ДНГА Беларусі гісторыкам Л.Чарняўскай быў выяўлены вопіс запраектаванага дома: “Мураваны двухпавярховы з падвалам пад трэцяй часткай будынка, крыты жалезам. На франтоне круглае акно з пераплётам. Пры будынку мураваны тамбур, крыты жалезам. Драўляных тамбураў 2. У падвале пяць пакояў з двума вокнамі”. Паводле архіўнага дакумента, у працэсе будаўніцтва інжынер І. Осіпаў уносіў нека-торыя карэктывы ў праект. Так, быў павышаны цокаль будынка, столі зроблены падшыўныя на “польскі манер”, зроблены ўваход у падвал, які адсутнічаў па праекту, у класе пастаўлены печы, выканана цэментоўка вонкавых сцен”. У 1872 годзе ў гэтым будынку размясцілася Горацкае рамеснае вучылішча. У час Вялікай Айчыннай вайны гэты будынак быў разбураны.

Вучэбныя заняткі для студэнтаў інстытута праводзіліся ў галоўным корпусе, дзе былі створаны фізічны, мінералагічны кабінеты і хімічная лабараторыя.

**37. Што вядома пра створаныя ў гэтыя гады батанічны сад, музей і бібліятэку?**

Гісторыя стварэння аднаго са старэйшых батанічных садоў Беларусі звязана з імем прафесара **Э.Ф.Рэго**.

Пад яго кіраўніцтвам ў 1848 годзе быў заснаваны дэндрарый пад першапачатковай назвай “драўнінны гадавальнік”, які ўвайшоў як адна з

галоўных частак Горацкага батанічнага сада. Цікава, што праект заклад-кі дэндрарыя быў распрацаваны архітэктарам А.Кампіоні. Галоўная частка дэндрарыя была спраектавана ў строгім, геаметрычным стылі з характэрным круглым партэрам, ад якога разыходзіліся радыяльныя і колавыя алеі.

Э.Ф.Рэго стварыў 12 унікальных паркавых ландшафтаў, сабраў вялікую калекцыю драўнінна-хмызняковых раслін. Напрыклад, калекцыя бэзу складалася з 87 відаў і гатункаў.

У батанічным садзе была сабрана таксама ўнікальная калекцыя сельскагаспадарчых культур. Напрыклад, яравой пшаніцы – 56 гатункаў, азімага жыта – 20, аўса –33, гароху – 25, а ўсяго 749 сартоў.

Меліся фруктовы і лясны гадавальнікі. Апошні быў разбіты на 3 ярусы. На першым раслі высокаствольныя дрэвы, на сярэднім – кусты, на трэцім – нізкія кусты. На ўсіх ярусах знаходзіліся 254 правільныя чатырохвугольныя ўчасткі, на якіх былі пасаджаны розныя віды драўнінных раслін.

Былі створаны музеі: заалагічны, анатамічны і сельскагаспадарчых машын. У апошнім была сабрана вялікая калекцыя замежных і айчынных машын і прылад (141 плуг, 12 сеялак, 16 малатарняў, жняяркі і г.д.).

Інстытуцкая бібліятэка да канца 50-х гадоў налічвала больш за 7 тысяч кніг айчыннай і замежнай літаратуры, мела таксама творы А.С.Пушкіна, А.С.Грыбаедава, М.Ю.Лермантава, выпісвала “Отечественные записки” і “Современник”, “Земледельческую газету” з моманту яе выдання (1834). Вядома, што ў час Вялікай Айчыннай вайны гэту газету фашысты вывезлі ў Германію, і пасля вайны знайсці яе не ўдалося.

Была ў студэнтаў і свая бібліятэка на грамадскіх пачатках.

**38. Прадстаўнікі якіх сацыяльных слаёў вучыліся ў навучальных установах?**

У 50-я гады значна павялічылася колькасць студэнтаў і навучэнцаў у Горыгорацкіх навучальных установах. Найвялікшая колькасць студэнтаў прыходзілася на 1852–1854 гады. Затым у сувязі з Крымскай вайной 1853–1856 гадоў колькасць іх пачала падаць.

У інстытуце мелі перавагу выхадцы з дваранства, у вучылішчы – дзеці сялян і мяшчан. Напрыклад, у 1857–1858 навучальным годзе са 153 студэнтаў інстытута 85 былі з дваран і толькі два – выхадцы з сялян, у вучылішчы з 71 навучэнца 57 – выхадцы з сялян і мяшчан і толькі 7 – з дваран.

Як мы бачым, прадстаўнікам сялянства, дробных слаёў горада шлях да вышэйшай сельскагаспадарчай адукацыі быў фактычна закрыты. Не было сярод студэнтаў і навучэнцаў дзяўчат.

Матэрыяльнае становішча шматлікіх студэнтаў і навучэнцаў, выхадцаў з народных мас, было цяжкім. Для іх студэнты арганізоўвалі сталовыя, касы ўзаемадапамогі, а каб зарабіць грошы, давалі канцэрты. Але ж, нягледзячы на гэта, многія кідалі вучобу або вучыліся па 6–7 гадоў. На нізкім узроўні было і медыцынскае абслугоўванне. Студэнты і навучэнцы часта хварэлі, а ў 1862 годзе аж 5 чалавек памерла.

**39. Ці вучыліся ў Горках замежныя студэнты?**

У Горыгорацкіх земляробчых навучальных установах навучаліся студэнты амаль з усіх губерняў Расіі, а таксама з Германіі і Францыі. Былы студэнт інстытута С.Акуліч, калі ўспамінаў пра гады, якія былі праведзены ў Горках, пісаў: “Попал сразу в тот омут, в ту человеческую суету с разных сторон: из Литвы и Белой Руси, с Королевства и Подолии, с Волыни и Украины – представителей разных краев, разных миров, понятий, суждений, обычаев и привычек и однако сплавленных тут в одну амальгаму, имя которой было: студент Горыгорецкого института...”.

У вершы “Рэч Старавойтава” так было напісана пра студэнта Горыгорацкага земляробчага інстытута:

Як пра што стане гаварыць,
Дык быццам які прэзідэнт.
Ужо не патрапіць яго збіць
І Горыгорацкі студэнт.

**40. Ці прымалі ў земляробчыя навучальныя ўстановы яўрэяў?**

Нягледзячы на тое, што Горкі і інстытут знаходзіліся ў так званай “черте оседлости” яўрэйскага насельніцтва, яўрэйскую моладзь спачатку ў вучылішча і інстытут не прымалі. Толькі ў 60-я гады такое становішча змянілася. Гэтаму садзейнічала кампанія па надзяленні яўрэяў зямлёй. І тады міністр дзяржаўных маёмасцяў Расіі П.Кісялёў загадаў выдзяліць для яўрэяў у земляробчым вучылішчы 6 вакансій.

Вядомы лёс некаторых выхаванцаў. Так, І.Фрафон быў накіраваны ў Херсонскую губерню для дапамогі яўрэям-земляробам. У гэтай губерні была арганізавана Велікаанадольская ферма, куды накіравалі яшчэ двух выхаванцаў. Сярод іх быў А.Б.Думашэўскі – будучы вядомы юрыст і публіцыст Расіі (інфармацыя пра яго была пададзена раней).

**41. Па якіх праграмах і вучэбных дапаможніках вялося навучанне?**

Выкладанне прадметаў у інстытуце вялося па праграмах і вучэбных дапаможніках, зацверджаных Вучэбным камітэтам Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў. Большасць выкладчыкаў пры чытанні лекцый кіравалася выданымі падручнікамі, некаторыя, такія як Э.Ф.Рэго, К.Д.Шміт, А.В.Саветаў, І.А.Сцебут, Б.А.Цалінскі, распрацавалі ўласныя курсы. Так, апошні чытаў курс арганізацыі гаспадаркі.

У справаздачы за 1855–1856 навучальны год ён пісаў, што навука гэта ў перавазе “кемлівая”, развівае здольнасць і ўменне меркаваць разнастайныя гаспадарчыя адносіны, што дасягаецца гэта не дагматычным выкладаннем, а практыкаваннямі са студэнтамі па складанні гаспадарчых планаў і падлікаў севазваротаў і г.д.

Па падручніках выкладчыкаў Горыгорацкага земляробчага інстытута і яго выхаванцаў С.С.Касовіча (батаніка), К.Д.Шміта (хімія), Э.Ф.Рэго (садоўніцтва і агародніцтва), А.М.Бажанава (жывёлагадоўля), А.П.Людагоўскага (эканоміка) навучаліся шматлікія пакаленні студэнтаў земляробчых вышэйшых навучальных устаноў Расіі.

**42. Якія цікавыя метады навучання выкарыстоўвалі выкладчыкі?**

Адной з форм навучання былі “агранамічныя гутаркі”. Іх мэта заключалася ў тым, каб “…доставить возможные средства к развитию способностей учащихся…”. Яны, як мы ўжо адзначалі, адбываліся на кватэры дырэктара інстытута.

Для студэнтаў першых двух курсаў былі “…установлены подобные же беседы по части отечественной словесности, для чтения и разбора образцовых наших писателей”.

У інстытуце практыкаваліся і агранамічныя падарожжы, пачатыя яшчэ ў вышэйшым разрадзе школы. Яны арганізоўваліся кожны год пад кіраўніцтвам выкладчыка пры ўдзеле 5–7 студэнтаў і імкнуліся да азнаямлення з сельскагаспадарчымі ўмовамі ў розных губернях Расіі. Так, у 1849 годзе Б.А.Цалінскі разам з сямю студэнтамі, у тым ліку і з будучым прафесарам А.В.Саветавым, зрабілі падарожжа па Кіеўскай, Чарнігаўскай, Палтаўскай і іншых губернях Украіны.

У прыродных палявых умовах будучыя аграномы знаёміліся з прыроднымі зонамі, асаблівасцямі глеб і расліннасці. Усё гэта абуджала творчую думку, пашырала кругагляд. “Теоретическое изучение какой бы то ни было отрасли сельского хозяйства, – пісаў у справаздачы аб вандраванні па дзевяці губернях Расіі ад'юнкт-прафесар Э.Ф.Рэго, – в соединении даже с самыми тщательными опытами, не может принести

той пользы, какую приносит наглядное знакомство с образцовыми хозяйствами, столь различными в разных местностях”.

Разам з тым будучым спецыялістам кідаліся ў вочы недапушчальныя неадпаведнасці паміж магчымым і рэальным: пры вялікіх пасяўных плошчах Расіі беззямельныя сяляне вялі паўгалоднае існаванне.

За перыяд з 1844 па 1860 год было праведзена 14 агранамічных падарожжаў. Справаздачы па пяці з іх былі надрукаваны ў “Записках Горыгорецкого земледельческого института”, іншыя – у “Журнале Министерства государственных имуществ”. Спачатку іх пісалі толькі кіраўнікі, а затым павінны былі прадстаўляць і студэнты.

Цікавай формай навучання і своеасаблівым відам навукова-даследчай працы была пастаноўка перад студэнтамі так званых конкурсных задач, за лепшае рашэнне якіх яны ўзнагароджваліся залатым медалём. На кожны навучальны год Савет інстытута даваў адну задачу. Напрыклад, у 1851–1852 навучальным годзе давалася наступная задача: “Какими выгодами для хозяйства сопровождается травосеяние на полях? Какие по этой части сделаны улучшения в новейшее время? В каком виде и с помощью каких мер и средств травосеяние могло бы быть введено в русских хозяйствах?” Адказы на конкурсную задачу, зробленыя ананімна ў выглядзе сачыненняў і прадстаўленыя пад дэвізам, былі разгледжаны ў 1852 годзе Саветам інстытута, і залатым медалем быў узнагароджаны студэнт М.Савініч.

Усё гэта спрыяла паляпшэнню падрыхтоўкі будучых спецыялістаў, значна павышала іх інтэлектуальны ўзровень.

**43. Як у інстытуце праходзілі практычныя заняткі студэнтаў?**

Вывучэнне тэарэтычных навук вялося ў цеснай сувязі з практычнымі заняткамі. Практыка ў інстытуце праходзіла ў два летнія месяцы (з 15 чэрвеня па 15 жніўня). У справаздачы па інстытуце за 1853–1854 год адзначана: “При изложении наук преподаватели наши постоянно руководствуются мыслью и желанием сблизить науку с нуждами и потребностями практической жизни”.

Студэнты практыкаваліся на вучэбнай ферме і прымалі ўдзел ва ўсіх сельскагаспадарчых працах. Займаліся прыгатаваннем кампостаў, аралі, сеялі, даглядалі пасевы. На лугах рабілі дрэніраванне забалочаных глеб.

У аранжарэі займаліся вырошчваннем ранняй агародніны, самі гатавалі расаду. На практычных занятках па жывёлагадоўлі яны знаёміліся з прыёмамі даення кароў, спосабам утрымання і ўладкавання жывёльнага двара. “При всех практических занятиях, – пісалася ў спра-

ваздачы за 1854–1855 гады, – молодые поборники науки земледелия с охотой и любовью вникали во все подробности дела и сами искали случаи усвоить себе практические приемы по всем отраслям науки”.

Але так ставіліся да практычных заняткаў далёка не ўсе. Шмат студэнтаў, выхадцаў з дваран, прыходзілі на заняткі ў белых пальчатках.

У канцы навучальнага года ў інстытуце праходзілі гадавыя выпрабаванні (г.зн. экзамены). Так, у 1852–1853 навучальным годзе ў інстытуце налічвалася на першым курсе 52 студэнты: з іх па асабістаму жаданню шэсць студэнтаў засталося на паўторны курс, а 46 студэнтаў здавалі экзамены. У гадавой справаздачы за гэты навучальны год адзначалася, што чатыры студэнты не здалі экзамены, а астатнія пераводзяцца на другі курс “в следующем по старшинству (г.зн. па поспехах) порядке”.

**44. Якія званні атрымлівалі выпускнікі інстытута, вучылішча і фермы?**

У 1852–1853 навучальным годзе інстытут з прысваеннем звання “действительного студента агрономии” скончыла 26 чалавек. У справаздачы адзначаецца, што прозвішча выпускніка Скварцова, які атрымаў на выпускных экзаменах 93/4 балы, было выбіта на мармуровай дошцы. Але ж нічога не ўзгадвалася пра размеркаванне выпускнікоў. Толькі “казённакоштныя” выпускнікі, г.зн. тыя, хто ў час вучобы атрымлівалі дзяржаўную стыпендыю, мелі магчымасць размеркавацца на працу, астатнія шукалі сабе месца самастойна.

Частка выпускнікоў інстытута абараняла дысертацыйныя работы і атрымлівала “ступень агранома”. Вось якія тэмы прапаноўваліся для “разважання”, г.зн. для дысертацый: “Об употреблении чернозема в Белоруссии как удобрительного средства”, “О возделывании табака”, “О возделывании картофеля”, “О ближайших мерах, доступных русскому хозяину к улучшению своих лугов”, “Дренаж” і г.д.

У першыя гады існавання інстытута са ступенню агранома заканчвалі толькі адзінкі. Але ўжо ў 1855–1856 навучальным годзе з 37 выпускнікоў быў удастоены ступені агранома 21 чалавек.

Выпускнікам земляробчага вучылішча давалася магчымасць працаваць у якасці “управительских помощников”. Прозвішчы лепшых выбіваліся на меднай дошцы, іх узнагароджвалі таксама пахвальнымі граматамі, кнігамі, грашыма і нават невялікімі земляробчымі прыладамі, дробнай жывёлай і насеннем.

Не атрымлівалі атэстата і не мелі ніякіх правоў толькі дзеці прыгонных сялян. У справаздачы за 1855–1856 навучальны год адзначалася, што “вернуты ўладальнікам: Абрамаў, Галічанка і Башмачнікаў”.

На вучэбнай ферме навучанне вялося чатыры гады. У другую палову дня, са студзеня па красавік і з кастрычніка да снежня, навучэнцы займаліся ў класах. Астатні час быў прысвечаны практычным работам: вырабу розных сельскагаспадарчых прылад, бандарнаму, рымарскаму і цяслярскаму промыслам. Вучыліся таксама дубленню аўчын, прыгатаванню сыроў і масла, апрацоўцы льну.

У выглядзе заахвочвання аднаго-двух выпускнікоў фермы прымалі ў земляробчае вучылішча, а астатніх накіроўвалі дадому ў маёнткі памешчыкаў. Ніякіх атэстатаў ім не выдавалі.

**45. Якія змены адбыліся ў навучальных установах паводле Палажэння 1859 года?**

У канцы 50-х гадоў Горыгорацкія навучальныя ўстановы наведалі з рэвізіяй міністр і чыноўнікі Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў. У прадстаўленых справаздачах яны адзначылі добрую пастаноўку вучэбнай працы, але выказалі шмат заўваг па арганізацыі практычных заняткаў. Напрыклад, яны лічылі, што задача інстытута павінна заключацца “преимущественно в образовании высшего разряда промышленников, которые бы умели с помощью научных соображений и основанных на опыте расчетов дать сельским занятиям выгодное направление и устройство”.

8 снежня 1859 года было зацверджана новае “Положение...” аб земляробчым інстытуце. “Положением...” палягчаўся прыем у інстытут і, акрамя выпускнікоў гімназіі, прымаліся выпускнікі каморніцка-таксатарскіх класаў. Дазвалялася вучыцца вольным слухачам без усялякай платы за навучанне. Была павялічана стыпендыя са 110 да 150 рублёў у год, і толькі стыпендыяты павінны былі жыць у пансіянаце, астатнія студэнты маглі жыць на прыватных кватэрах.

Замест чатырохгадовага тэарэтычнага навучання было ўведзена трохгадовае. Чацвёрты год адводзіўся практыцы, але замест практычных заняткаў на ферме інстытута пад кіраўніцтвам выкладчыкаў і прафесараў “Положение...” 1859 года ўвяло правіла, згодна з якім студэнты пасля заканчэння імі тэарэтычнага курса павінны былі накіроўвацца ў прыватныя гаспадаркі, працаваць там адзін год у якасці практыкантаў і за гэты час скласці апісанне гэтых маёнткаў. Толькі пасля гэтага ім давалі званне, якое раней яны атрымлівалі паводле Статута 1848 года.

Згодна з новым “ Положением....” пасля першага курса студэнт павінен быў выбраць адну з чатырох спецыяльнасцяў: землязробства, жывёлагадоўля, эканоміка і лесаводства. Шэраг такіх прадметаў, як логіка, энцыклапедыя, камеральныя навукі, механіка і іншыя, былі скасаваны. Амаль на 50% скараціліся курсы батанікі, заалогіі і мінералогіі, замежнай мовы, чарчэння і фізікі. Але былі ўведзены два новыя прадметы: практыкаванні па складанні сельскагаспадарчых планаў (праектаў) і палітычная эканоміка. Была павялічана колькасць гадзін на вывучэнне вышэйшай матэматыкі. Павялічваўся штат выкладчыкаў інстытута і асігнаванні на яго.

У цэлым рэформа 1859 года па сутнасці змяніла ўнутраны лад інстытута – становішча студэнтаў і вучэбны працэс. Навізна “ Положения...” 1859 года, якая тычылася становішча студэнтаў, адлюстроўвала, з аднаго боку, вызваленчыя грамадскія настроі, а з другога – страх перад студэнцкім рухам.

У ходзе рэформы ў маі 1860 года быў прызначаны новы дырэктар інстытута прафесар батанікі Р.Э. Траўтфэтэр.

**46. Што вядома пра новага дырэктара інстытута?**

**Р.Э.Траўтфэтэр** (1809–1898) скончыў з залатым медалём Дэрптскі універсітэт, дзе зацікавіўся батанікай у прафесара К.Ледэбура. З 1831 года займаў пост помочніка дырэктара універсітэтскага сада і выкладаў батаніку.

У 1835 годзе ён быў прызначаны памочнікам дырэктара Санкт-Пецярбурскага батанічнага сада. У 1837 годзе друкуе на нямецкай мове сваю першую працу па гісторыі батанікі ў Расіі.

З 1842 года ён абіраецца прафесарам Кіеўскага універсітэта, загадвае агранамічным і мінералагічным кабінетам. Ва універсітэце тры разы выбіраўся дырэктарам, двойчы дэканам, надрукаваў больш за 20 навуковых прац, выбіраўся членам 8 навуковых таварыстваў у Расіі і за мяжой. Быў адным з арганізатараў батанічнага сада універсітэта.

У 1860 годзе быў прызначаны дырэктарам Горыгорацкага земляробчага інстытута. Вядома, што ў час яго работы змяніўся накірунак вучэбнай і навуковай дзейнасці інстытута, якая стала насіць больш практычны, прыкладны характар.

У час паўстання 1863 года, дзякуючы яго рашучам дзеянням, будынкі і маёмаць інстытута не былі знішчаны. А калі пачалося следства аб удзеле выкладчыкаў і студэнтаў інстытута ў паўстанні, выступіў у іх абарону.

У 1864 годзе быў прызначаны дырэктарам Санкт-Пецярбурскага батанічнага сада, дзе працаваў да канца жыцця. Яго імем названа некалькі відаў раслін.

Быў абраны член-карэспандэнтам Расійскай акадэміі навук і 1885 годзе ўзнагароджаны залатым медалём.

“Окруженный садами, в сообществе со своею библиотекой и огромными ботаническими коллекциями, он и окончил свою долгую, трудную и в высшей степени полезную жизнь”, – пісаў у некралогу на яго смерць вядомы батанік А.Бекетаў.

**47. Чаму ў 60-я гады XIX стагоддзя значна павялічылася колькасць студэнтаў і навучэнцаў у Горацкіх земляробчых навучальных установах?**

Калі ў 1859 годзе вучылася 315 навучэнцаў, то ўжо ў 1862 годзе – 542. Гэта тлумачыцца тым, што быў спрошчаны прыём у навучальныя ўстановы і, акрамя таго, у сувязі з рэформай 1861 года ўзмацнілася цікавасць да сельскагаспадарчых ведаў.

У гадавой справаздачы Горацкіх навучальных установў адзначалася: “Русский земледелец сделался свободным, и вместе с уничтожением крепостного права пала одна из огромных вековых преград к развитию у нас земледелия ..., интересы земледельческого заведения не могут идти врозь с интересами земледельческого населения”.

У гэтыя гады інстытут быў адным з лепшых не толькі Расіі, але і Еўропы. Пра гэта паведамляў вандроўнік, чые карэспандэнцыі “Из Могилевской губернии” былі змешчаны ў газеце “Курьер Виленский“ за 1861 год. “Раньше, – адзначаў аўтар, – когда тут царили немцы, преподавание было оторвано от повседневных потребностей края. Теперь пришли молодые, преимущественно местные силы: профессор химии Тютчев, профессор архитектуры и механики Козловский, профессор земледелия Стебут, преподаватель геометрии Лесневский…Они начали исследовать местные почвы, растения и животный мир. Институтская ферма овечек стала одной из лучших в империи и получила первенство на всех прошедших европейских выставках”.

**48. Якія былі дасягненні ў навуковай дзейнасці ў гэтыя гады?**

Трэба адзначыць, што значныя поспехі былі дасягнуты ў навуковай дзейнасці. Так, у галіне раслінаводства навуковыя даследаванні актыўна праводзілі К.Д.Шміт, Э.Ф.Рэго, С.С.Касовіч, Б.А.Цалінскі, А.В.Саветаў, І.А. Сцебут і іншыя. Яны вялі доследы па развядзенні шматстцябловага льну, кітайскай масляністай рэпы, салодкага гарбуза, канюшыны і

турнэпсу, куставога жыта і шэрагу іншых культур. Рабіліся доследы з угнаеннямі, правяралася эфектыўнасць розных тыпаў севазваротаў.

Вялікія поспехі былі дасягнуты ў авечкагадоўлі. Былі праведзены доследы па вывядзенні такой пароды тонкарунных авечак, якія б былі добра прыстасаваны да мясцовых кліматычных умоў і давалі воўну добрай якасці. І такая воўна была атрымана на вучэбнай ферме інстытута. У Горках быў пакладзены пачатак навуковай распрацоўкі сельскагаспадарчага машынабудавання. Гэтымі даследаваннямі займаўся ад'юнкт-прафесар П.М.Каралёў. Цікавыя сельскагаспадарчыя машыны былі сканструяваны механікам інстытута К.Адынскім і яго памагатым М.Усавым.

А выхаванец земляробчага вучылішча А.Р.Уласенка ў 1868 годзе зрабіў доследны ўзор "конной зерноуборки на корню". Гэта машына стала адным з першых у свеце зернеўборачных камбайнаў.

Пад кіраўніцтвам прафесара А.М.Казлоўскага ўпершыню ў Беларусі былі праведзены даследаванні па вывучэнні закрытага дрэнажу. Для вырабу дрэнажных керамічных трубак быў пабудаваны спецыяльны завод, дзе была ўстаноўлена машына, прывезеная з Англіі.

Б.А.Цалінскі, Б.А.Міхельсон, І.А.Гінцэль, Ю.Э.Янсан займаліся эканамічнымі даследаваннямі. У сваіх працах яны даказвалі, што баршчынная праца менш эфектыўная, чым праца вольнанаёмных.

Першыя ў Беларусі хімічныя і біяхімічныя даследаванні былі праведзены прафесарам К.Д.Шмітам у першай у краіне хімічнай лабараторыі. Ён зрабіў хімічныя аналізы земляробчай прадукцыі, правёў аграхімічныя даследаванні ўплыву гіпсавання на якасць глебы.

Асабліва вялікі ўклад у развіццё сельскагаспадарчай навукі належыць выхаванцу інстытута А.В.Саветаву, які быў першым доктарам аграноміі ў Расіі.

І.А.Сцебут падрыхтаваў у Горках дысертацыю "Известкование почвы", якую абараніў у 1865 годзе. Гэта была першая праца па аграхімічных асновах земляробства.

Пра ўклад другіх выхаванцаў і выкладчыкаў інстытута ў развіццё навукі можна даведацца з кнігі "Горыгорецкий земледельческий институт. Выдающиеся учёные и профессора" (Горки, 1999, аўт. У.М.Ліўшыц, А.Р.Цыганаў, В.У.Нямыкін).

**49. Якія навуковыя перыядычная працы выдаваліся ў інстытуце?**

У сярэдзіне XIX ст. для распаўсюджвання і папулярызацыі сельскагаспадарчай навукі і адукацыі ўзнікла неабходнасць у стварэнні спе-

цыяльных друкаваных прац сельскагаспадарчай школы. Гэтымі працамі сталі “Записки Горыгорецкого земледельческого института” – першае ў Расійскай імперыі перыядычнае выданне сельскагаспадарчай школы. У 1850 годзе Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў дазволіла Горыгорацкаму земляробчаму інстытуту выдаваць свае працы па адной кніжцы ў год, і ў 1852 годзе выйшаў у свет першы том. Усяго з 1852 па 1857 год выйшла шэсць тамоў “Записок”, аднак з 1858 года іх выданне было спынена з-за выдавецкіх цяжкасцей і прыдзірак цэнзуры.

Нягледзячы на тое, што “Записки” выходзілі толькі шэсць гадоў, яны адыгралі значную ролю ў развіцці тэорыі і практыкі сельскай гаспадаркі, прапагандзе сельскагаспадарчай навукі, паказалі Горыгорацкі земляробчы інстытут як сапраўды вышэйшую школу. Ва ўмовах царскай цэнзуры яны адлюстравалі перадавыя дэмакратычныя погляды, якія ў 60-х гадах мінулага стагоддзя ярка праявіліся ў дзейнасці Горыгорацкага земляробчага інстытута.

Кожны том “Записок“ складаўся з двух раздзелаў: справаздачнага і спецыяльнага, дзе былі змешчаны навуковыя артыкулы і актавыя прамовы выкладчыкаў інстытута, у ліку якіх былі выдатныя вучоныя А.В.Саветаў і І.А.Сцебут. Справаздачны аддзел складаўся з афіцыйных дакументаў, асноўнай мэтай якіх была прапаганда навукова-педагагічнай дзейнасці інстытута як цэнтра сельскагаспадарчай адукацыі Расійскай імперыі.

**50. Якую ролю адыгралі першыя ў Расіі сельскагаспадарчыя з’езды і выставы, што адбываліся ў Горках?**

Пры Горыгорацкім інстытуце ў 1853–1856 гадах былі праведзены чатыры сельскагаспадарчыя з’езды, першыя на тэрыторыі Расійскай імперыі. У рабоце з’ездаў, якія “имели целью посредством совещаний и обмена мыслей между хозяевами способствовать развитию и улучшению сельского хозяйства”, прымалі ўдзел памешчыкі і сельскія гаспадары, у асноўным з Магілёўскай губерні, выкладчыкі і супрацоўнікі Горыгорацкага інстытута, дзякуючы якім гэтыя з’езды сталі эфектыўным сродкам уздзеяння на мясцовую сельскую гаспадарку.

Кола пытанняў, якія абмяркоўваліся на сельскагаспадарчых з’ездах, было разнастайным: земляробства і жывёлагадоўля, меліярацыя і эканоміка, вялікая ўвага ўдзялялася развіццю сялянскіх гаспадарак. “Журнал Министерства государственных имуществ” адзначаў, што “в числе 19 вопросов, предложенных членами съезда (1853) на разрешение, многие важны не только для белорусского края, но и для всей средней полосы”.

У час з’ездаў адбываліся сельскагаспадарчыя выставы, і за лепшыя экспанаты ўдзельнікі ўзнагароджваліся залатымі і сярэбранымі медалямі, граматамі і прэміямі. Усяго было праведзена тры выставы: у 1850, 1853 і 1857 гадах. Найбольш буйной была другая выстава. У 1854 годзе у “Записках Горыгорецкого земледельческого института” была змешчана справаздача аб гэтай выставе, на якой былі 1432 экспанаты з 11 губерняў Расіі (у тым ліку з Магілёўскай губерні – 555) сельскагаспадарчай прадукцыі, земляробчых прылад і машын, саматужных вырабаў, сярод якіх значнае месца займалі экспанаты з сялянскіх гаспадарак.

Удзельнічалі ў ёй і студэнты з Горак. Вядома, што вучань вучылішча А.Саблін быў узнагароджаны дыпломам за вырашчаны лён, зробленыя ім вагі і “кирпичедельный” станок.

**51. Ці ўдзельнічаў Горыгорацкі земляробчы інстытут у міжнародных і ўсерасійскіх сельскагаспадарчых выставах?**

Вядома, што навучальныя ўстановы дэманстравалі свае дасягненні на многіх міжнародных і ўсерасійскіх выставах. Так, мануфактурная выстава 1849 года ў Санкт-Пецярбургу стала дэбютам, і вельмі ўдалым. Воўна, вырашчаная на горацкай ферме, аказалася лепшай. Яна атрымала залатыя медалі таксама ў Маскве (1852), Пецярбургу (1860), бронзавыя – на міжнародных выставах у Лондане (1857,1862).

Удзельнічалі ў выставах пераважна выкладчыкі і студэнты інстытута. Так, на першай выставе, арганізаванай “Вольным экономическим обществом” у 1850 годзе, малым сярэбраным медалём быў узнагароджаны прафесар Э.Ф.Рэго. Прафесар П.А.Раздольскі на выставе 1860 года дэманстраваў “инструменты для холощения коров”, загадчык вучэбнай фермы Максімаў – жыта, пшаніцу, лён і валакно, апрацаванае па бельгійскаму спосабу, тарфяную цэглу, дрэнажныя трубы, а студэнт В.Федаровіч – мадэль вулля.

Прафесары Горыгорацкага інстытута былі таксама членамі экспертных журы на міжнародных выставах. Так, І.А.Сцебут у 1862 годзе на выставе ў Лондане быў членам журы. Там ён закупіў сельскагаспадарчую тэхніку, інструменты, прылады і навуковыя прыборы. Вядома, што агульная вага прывезенага склала 359 пудоў.

**52. Што вядома пра лёс выхаванцаў Горыгорацкага земляробчага інстытута?**

Прафесар В.Сабічэўскі ў артыкуле “Горыгорецкий земледельческий институт”, надрукаваным у “Энциклопедическом словаре Брокгауза и Ефрона”, прыводзіць дадзеныя, што з 1848 па 1864 год інстытут скон-

чыла 499 выхаванцаў і амаль 90% з іх працавалі ў сельскай ці лясной гаспадарцы.

Самымі славутымі выхаванцамі інстытута былі А.В.Саветаў і І.А.Сцебут.

**А.В.Саветаў** (1826–1901) вучыўся ў Віфанскай духоўнай семінарыі. У 1846 годзе быў прыняты ў вышэйшы разрад Горыгорацкай земляробчай школы. У час яго навучання вышэйшы разрад быў пераўтвораны ў інстытут. Вучоны Савет Горыгорацкага інстытута вырашыў пакінуць яго ў інстытуце для падрыхтоўкі да выкладчыцкай дзейнасці.

Ён быў камандзіраваны для вывучэння стану сельскай гаспадаркі ў Расіі, а потым за мяжу – у Германію і Бельгію. Некаторы час вучыўся ў Гогенгеймскай земляробчай акадэміі. Потым выкладаў у Горыгорацкім земляробчым інстытуце сельскагаспадарчую тэхналогію. У Горках ён падрыхтаваў магістэрскую дысертацыю "О разведении кормовых трав на полях", якую абараніў у 1859 годзе ў Маскоўскім універсітэце. Яна была выдадзена асобнай кнігай і за 20 гадоў вытрымала чатыры выданні.

У гэтай працы А.В.Саветаў адзін з першых рускіх аграномаў, атрымаўшых вышэйшую адукацыю ў Расіі, падышоў да аналізу земляробства з грамадска-палітычнага пункту гледжання. Ён пісаў, што яго задача – "проследить, насколько возможно постепенное развитие форм нашего земледелия под влиянием тех или иных других исторических обстоятельств показанием относительного достоинства разных форм земледелия".

У гэтым жа годзе стаў працаваць у Санкт-Пецярбургскім універсітэце на кафедры сельскай гаспадаркі прафесарам, а потым загадчыкам кафедры. Тут у 1867 годзе абараніў доктарскую дысертацыю "О системах земледелия" і 16 студзеня 1867 года атрымаў дыплом доктара сельскагаспадарчых навук – першы ў Расіі.

З 1888 па 1900 год абіраўся дэканам фізіка-матэматычнага факультэта універсітэта.

Яго грамадская дзейнасць адбывался ў Санкт-Пецярбургскім аддзя-ленні "Вольного экономического общества", дзе ён на працягу 30 год абіраўся старшынёй сельскагаспадарчай секцыі. З 1860 года і на праця-гу 26 гадоў быў рэдактарам "Трудов…" таварыства. Ён быў членам на-вуковага камітэта Міністэрства земляробства і дзяржаўных маёмасцяў, Маскоўскага таварыства сельскай гаспадаркі, Новаалександрыйскага інстытута сельскай гаспадаркі.

Саветаў А.В. – аўтар шматлікіх прац па сельскай гаспадарцы, надрукаваных у розных часопісах і зборніках. З 1896 года з’яўляўся рэдактарам сельскагаспадарчага аддзела ў “Энциклопедическом словаре Брокгауза и Ефрона”.

У 1964 годзе на тэрыторыі Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі быў устаноўлены помнік А.В.Саветаву.

**І.А.Сцебут** (1833–1923) паступіў у Горыгорацкі земляробчы інстытут у 1850 годзе. Пасля его заканчэння быў пакінуты навуковым Саветам для падрыхтоўкі да выкладчыцкай дзейнасці. Потым працаваў памочнікам упраўляючага вучэбнай фермай, там жа выкладаў курс “Общие понятия о природе”.

“Я должен был, – успамінаў ён, – вставать в 4 часа утра, до 8 обойти поля; в 8 часов, после утреннего чая, я отправлялся в канцелярию фермы, где оставался до 12 часов, когда обедал; с 1,5 часа после обеда до 3 часов я проводил на уроке; с 3 до 8 на полях и по хозяйству, с 8 до 9,5 часов на наряде работ на другой день; потом пил чай и садился писать диссертацию, за которой засыпал только для того, чтобы на другой день снова встать в 4 часа утра. Никогда не забуду того удивления, с которым проснувшись рано утром, нашел свою диссертацию оконченной…”.

У 1858–1860 гг. ён зрабіў аграномічнае падарожжа ў Прыбалтыйскія губерні, вывучаў таксама стан сельскай гаспадаркі ў Германіі, Англіі, Францыі і Шатландыі.

З 1860 года зноў працуе ў Горках, выкладае курс земляробства, укараняе новыя формы выкладання ў выглядзе гутарак і семінараў.

У сувязі з паўстаннем 1863 года інстытут з Горак быў пераведзены ў Санкт-Пецярбург. І.А.Сцебут пераезджае туды і ў 1865 годзе абараняе на Вучоным Савеце Санкт-Пецярбургскага універсітэта магістэрскую дысертацыю “Известкование почвы”. Гэтая праца мела сур'ёзнае тэарэтычнае і практычнае значэнне для сельскай гаспадаркі на працягу шэрагу дзесяцігоддзяў. Высокую ацэнку дысертацыі падчас яе абароны даў на дыспуце А.М. Энгельгарт, а на адным з пасяджэнняў “Вольного экономического общества” – і знакаміты хімік Д.І.Мендзялееў. Аб гэтай дысертацыі ён сказаў: “Всем известно русское сочинение И.А.Стебута “Об известковании почвы”, где рассматривается вопрос с надлежащею полнотою, на которую мне нельзя и решиться в этом кратком отчете. Относительно извести мне почти нечего здесь прибавить к тому, что писал И.А.Стебут”.

У верасні 1865 года І.А.Сцебут быў зацверджаны прафесарам арга-нізаванай у Маскве Пятроўскай земляробчай і лясной акадэміі, у скла-данні праекта і палажэння аб ёй ён прымаў самы чынны ўдзел. У Пят-роўскай акадэміі І.А.Сцебут узначальваў кафедру земляробства на пра-цягу 10 гадоў. Пры гэтай кафедры чытаў курс глебазнаўства, а да 1869 года – і курс батанікі.

У 1898 годзе І.А.Сцебут пагадзіўся на запрашэнне міністра земляробства Расіі заняць пасаду старшыні Вучонага камітэта Міністэрства земляробства. У 1900 годзе ў сувязі з арганізацыяй сусветнай выставы І.АСцебут быў камандзіраваны як прадстаўнік Міністэрства земляробства на міжнародны кангрэс у Парыж.

З імем І.А.Сцебута звязана ўзнікненне ў Расіі жаночай сельскагаспадарчай адукацыі. Ён быў ініцыятарам стварэння Таварыства заахвочвання жаночай сельскагаспадарчай адукацыі. Да 1905 года па ініцыятыве Сцебута было створана 11 жаночых школ сельскай гаспадаркі і дамаводства, 4 школы малочнай гаспадаркі, 5 прытулкаў.

І.А.Сцебут – аўтар больш за 250 навуковых прац па самых разнастайных пытаннях земляробства і раслінаводства.

З працамі І.А. Сцебута ў ходзе работы над кнігай “Развитие капитализма в России” знаёміўся У.І.Ленін. Ён не толькі спасылаўся на аўтара, “якому ў пытаннях фактычных нельга адказаць у аўтарытэтнасці”, але і ў шэрагу выпадкаў цытаваў яго палажэнні.

Прафесар Недакучаеў пісаў: “Крупные работы Стебута по земледелию, в основе своей имевшие западноевропейский опыт, представляют не переводы, не простые компиляции или умело составляемые сводки, нет, каждая из них продумана и как бы претворена в сознании русского исследователя и стала, если так можно выразиться, русской по духу, по назначению и применению”.

У 1964 годзе на тэрыторыі Беларускай дзяржаўнай селькагаспадарчай акадэміі быў установлены помнік І.А.Сцебуту, у 2005 годзе – на тэрыторыі Маскоўскай сельскагаспадарчай акадэміі.

**А.П.Людагоўскі** (1840–1882) скончыў Горыгорацкі земляробчы інстытут у 1861 годзе. Яшчэ студэнтам пачаў актыўна займацца навуковай працай і пад кіраўніцтвам І.А.Сцебута напісаў сваю першую навуковую працу “О костяном удобрении и способах его применения”. Адзначым, што гэта была першая навуковая праца ў Расіі на гэтую тэму.

У 1861–1865 гг. ён працаваў у Маскоўскай земляробчай школе, дзе склаў “Материалы для сельскохозяйственного описания Московской губернии” (1864).

У 1865 годзе быў прыняты на пасаду прафесара кафедры земляробства Санкт-Пецярбурскага земляробчага інстытута, дзе абараніў магістэрскую дысертацыю “Подсолнечник. Принятие, распределение и движение минеральных питательных веществ в связи с образованием органического вещества”. Працаваў там да 1870 года. У гэты час яго ўсё больш пачала цікавіць эканоміка сельскай гаспадаркі. Па гэтай праблеме ён надрукаваў некалькі прац. Менавіта да яго з прапановай заняць месца прафесара па курсу эканомікі звярнуўся яго сябар і настаўнік І.А.Сцебут, які ў лісце пісаў: “Не желали ли бы Вы занять место профессора академии по кафедре сельскохозяйственной экономики, то есть организации хозяйства с оценкой угодий, администрации, контроля или бухгалтерии? Совет желал бы видеть преподавателем сельскохозяйственной экономии, кроме человека, теоретически подготовленного, еще и человека, знакомого на деле с хозяйствами разных стран…, чтобы он был человеком, знакомым с сельским хозяйством настолько, чтобы мог практически упражнять слушателей по преподаваемому им предмету …”.

Прапанова была прынята, і з 1870 па 1876 год ён працуе спачатку прафесарам, а потым загадчыкам кафедры эканомікі Пятроўскай (Маскоўскай) сельскагаспадарчай акадэміі. Цікава, што практычныя заняткі разам з ім вядзе таксама выхаванец Горыгорацкага сельскагаспадарчага інстытута М.В.Неручаў.

У 1873–1874 навучальным годзе І.А.Сцебут падзяліў агульны курс сельскагаспадарчай эканоміі на тры часткі: сельскагаспадарчую эканомію – вучэнне аб умовах, якія вызначаюць месца, час і формы сельскагаспадарчай вытворчасці; арганізацыю гаспадаркі – вучэнне аб арганізацыі маёнтка адпаведна ўмовам, якія вывучаюцца ў сельскагаспадарчай эканоміі; рахункаводства (простае і падвойнае) – вучэнне аб кантролі правільнасці ўліку бюджэту маёнткаў і арганізацыі гаспадаркі.

Такім чынам, у акадэміі ўпершыню сталі выкладаць бухгалтарскі ўлік як самастойную дысцыпліну.

У акадэміі ён напісаў сваю галоўную працу “Основы сельскохозяйственной экономии и сельскохозяйственного счетоводства” (1875). Цікава, што на гэты твор спасылаўся У.І. Ленін, прыводзячы ў прыклад вучонага “… как надо просто и доступно излагать основы устройства капиталистической экономики”.

Удзельнічаў таксама ў стварэнні першай арыгінальнай сельскагаспадарчай энцыклапедыі “Настольная книга для русских сельских хозяев” (1875–1876 гг., Т.1–2).

На жаль, памёр зусім маладым, у 42 гады.

**А.М.Бажанаў** (1820–1889) вучыўся ў Калужскай духоўнай семінарыі, потым паступіў у Горыгорацкі інстытут, які скончыў у 1851 годзе. І стаў выкладаць сельскую гаспадарку ў Маскоўскай семінарыі. Актыўна займаўся навукай і ў 1856 годзе за дысертацыю "О возделывании пшеницы, с описанием пород, разводимых в России" атрымаў ступень магістра сельскай гаспадаркі. Маскоўскае таварыства сельскай гаспадарскі прызначыла яго кіраўніком свайго ўзорнага хутара. У гэты час ім былі надрукаваны: "Опыты земледелия вольнонаемным трудом" (1860, 1861) і падручнік для семінарый "Начальные основания ботаники" (1853).

Ён аспрэчваў распаўсюджанае тлумачэнне гаспадарчай адсталасці Расійскай імперыі яе дрэннымі прыродна-кліматычнымі ўмовамі, даказваў і абгрунтоўваў перавагі вольнанаёмнай працы ў параўнанні з прыгоннай. Лічыў неабходным пераход ад трохпольной сістэмы севазваротаў да шматпольнай, прапагандаваў выкарыстанне машын, распрацаваў методыку разліку эфектыўнасці іх выкарыстання. Выказваўся за арганізацыю дзяржаўнай сістэмы страхавання, за прадастаўленне сялянам крэдытаў.

З 1863 па 1864 год працаваў у Горках. Там ён напісаў кнігу "Что можно заимствовать у иностранцев по части земледелия?" (1863), у якой абагульніў вынікі сваіх назіранняў у час замежнай камадзіроўкі ў 1861 годзе ў Англію, Бельгію, Германію, Францыю і Швейцарыю.

А.М.Бажанаў у артыкуле "Об искусственно возделываемых лугах" (1863) адным з першых у Расіі даказаў геабатанічныя заканамернасці размяшчэння лугавых фітацэнозаў, іх структуру і дынаміку.

Ён таксама першым распрацаваў экалагічныя аспекты падбору травасумесі для лугавой кормавытворчасці, біялагічныя асновы агратэхнікі апрацоўкі лугавых траў.

З 1864 года працуе ў Санкт-Пецярбургу, а затым быў прызначаны дырэктарам Новаалександрыйскага інстытута сельскай гаспадаркі і лесаводства.

У гэтыя гады ён усё больш пачынае цікавіцца жывёлагадоўляй. Напісаў кнігу "Руководство к разведению крупного рогатого скота, применительно к климатическим и сельскохозяйственным условиям России" (1867). Гэтая кніга была адным з першых дапаможнікаў па жывёлагадоўлі ў Расіі.

Добра ведаючы немяцкую мову, пераклаў кнігу В. Баўмейстэра "О разведении, содержании и употреблении домашних животных" (1865,1867) і зрабіў заўвагі да яе.

Потым працаваў намеснікам апякуна Віленскай вучэбнай акругі.

**С.С.Касовіч** (1830–1898) скончыў Горыгорацкі земляробчы інстытут у 1853 годзе і быў пакінуты для выкладчыцкай працы. Вядома, што выкладаў ён у інстытуце геадэзію і чарчэнне, а з 1859 года – матэматыку ў земляробчым вучылішчы.

У Горках працаваў да 1870 года, а затым пераехаў у Маскву, дзе да 1890 года працаваў дырэктарам Маскоўскай земляробчай школы, упраўляючым Бутырскім паказальным хутарам Маскоўскага таварыства сельскай гаспадаркі. Актыўна займаўся навуковай працай.

Цікава, што яго жонка была роднай сястрой прафесара І.А.Сцебута, а сын Пётр, які нарадзіўся ў Горках у 1862 годзе, стаў вядомым у Расіі вучоным-аграхімікам.

**А.М.Казлоўскі** (нар. у 1832 г.) у 1852 годзе скончыў Горыгорацкі земляробчы інстытут. З 1856 года працуе ў Горках, а ў 1860 годзе быў абраны прафесарам сельскагаспадарчай механікі і архітэктуры.

А.М.Казлоўскі дасканала вывучыў вопыт прымянення дрэнажу ў Заходняй Еўропе і Прыбалтыцы. Гэты вопыт ён творча прымяніў пры правядзенні меліярацыйных работ і закладцы закрытага дрэнажу пры Горыгорацкім інстытуце. Гэтыя меліярацыйныя сістэмы атрымалі ў гісторыі навукі назву "первого русского дренажа". Аднак гэта не так. Яшчэ ў 1851 годзе на тэрыторыі Расіі ўжо праводзіліся такія работы.

Гісторыкі гідрамеліярацыйнай навукі лічаць, што гэтыя дрэнажныя работы трэба разглядаць як першыя вялікамаштабныя навуковыя даследаванні па вывучэнні эфектыўнасці дрэнажных сістэм у розных глебамеліярацыйных умовах для мэт сельскай гаспадаркі. Вядома, што вяліся яны на плошчы 200 га.

Ацэньваючы гэтыя работы, А.М.Казлоўскі пісаў: "Дренажные работы при Горыгорецком земледельческом институте в виде опыта в малом масштабе было начато в 1853 году, а с 1856 года уже приобрело большие размеры. Дренирование земель при Горыгорецких земледельческих учреждениях заслуживают внимания со стороны внимательного хозяина и специалиста по дренажу".

За ўдзел у паўстанні 1863 года А.М.Казлоўскі быў сасланы ў Таўрычаскую губерню. Але і там ён актыўна займаўся навуковай дзейнасцю. Вядома, што ў 1867 годзе была надрукавана яго праца "Сведения о количестве и качестве воды в селениях, деревнях и колониях Таври-

ческой губернии” (Симферополь, 1867 г.), дзе ён сабраў матэрыялы пра ўсе крыніцы водазабеспячэння і якасці вады Крыма.

На жаль, яго далейшы лёс невядомы.

**Я.С.Фалькоў** (1836–1865) пасля заканчэння Табольскай семінарыі паступіў у Горыгорацкі інстытут і скончыў яго ў 1856 годзе з сярэбраным медалём. Вядома, што ў час навучання ён, як і яшчэ некаторыя студэнты 4-га курса, “отличающиеся особой способностью к педагогической деятельности”, чытаў у прысутнасці дырэктара і выкладчыкаў інстытута лекцыі па кармленні жывёл для навучэнцаў Горыгорацкага земляробчага вучылішча і вучэбнай фермы.

З 1856 года ён пачынае выкладаць матэматыку ў Казанскай духоўнай акадэміі і адначасова працуе там эканомам. У 1860 годзе быў абраны ад’юнкт-прафесарам сельскай гаспадаркі камеральнага аддзялення юрыдычнага факультэта Казанскага універсітэта. Там жа падрыхтаваў і паспяхова абараніў магістэрскую дысертацыю на тэму “О действии жара на хлебные зёрна”.

У 1860 годзе ён прызначаецца экпертам Усерасійскай выставы сельскай гаспадаркі і лясной прамысловасці ў Маскве. Прымаў таксама ўдзел у рэцэнзаванні Праекта Статута Пятроўскай (Маскоўскай) сельскагаспадарчай земляробчай акадэміі.

Я.С.Фалькоў з’яўляўся аўтарам кніг “О способах распространения в России высшего агрономического образования” (“Записки Казанского экономического общества”, 1859 г.), “Главные начала лесоводства” (1860 г.), “Сельское хозяйство как промышленность и наука” (1860 г.), “Современная научная теория землеведения”.

Ён пераклаў з немецкай мовы кнігі “Химия в применении к сельскому хозяйству и физиологии” (пераклад працы Лібіха, 1863 г.), “Овцеводство и шерстоведение” (пераклад працы К.Шміта, пад. рэд. А.В.Саветава, 1863 г.).

**Ю.Ю.Жабенка** (нар. у 1825 г.) у 1851 годзе скончыў Горыгорацкі земляробчы інстытут і пачаў працаваць у Горацкім земляробчым вучылішчы інспектарам. Праз год быў абраны ад’юнкт-прафесарам лесаводства і пачаў працаваць над магістэрскай дысертацыяй.

У 1860 годзе вывучыў стан некалькіх лясных дач Расіі і ў выніку даследаванняў у 1861–1862 гг. надрукаваў некалькі артыкулаў у “Трудах Вольного экономического общества”: “Помосковская казённая лесная дача, называемая Лосиный погонный остров”, “Лесная дача имения Поречье”, “О лесах и лесном хозяйстве России”.

Апошні артыкул прадстаўляе асаблівую навуковую цікавасць, бо ў ім ён адзін з першых падзяліў тэрыторыю Расіі на “весьма лесные, среднелесные  и безлесные” рэгіёны. Напрыклад, у Беларусі ён да сярэднелясных рэгіёнаў аднёс Віленскую, Мінскую, Віцебскую губерні, малалясных – Гродненскую.

У 1860 годзе ў Горках быў адкрыты студэнцка-прафесарскі клуб, у працы якога ён прымаў актыўны ўдзел. Вядома, што студэнты збіраліся на яго кватэры  і абмяркоўвалі там пытанні вызвалення сялян. А калі адбылося паўстанне 1863 года, ён быў прыцягнуты да адказнасці і асуджаны ў ссылку. І толькі ў 1875 годзе быў амнісціраваны і пачаў працаваць прафесарам лесаводства Пятроўскай (Маскоўскай) земляробчай акадэміі. Там зацікавіўся бібліятэчнай справай і з 1875 года працаваў дырэктарам бібліятэкі акадэміі.

У 1890 годзе, калі адзначалася 50-годдзе адкрыцця  Горыгорацкай земляробчай школы, даслаў у Горкі прывітальную тэлеграму: “Душевно желаю училищу процветать многие пятидесятилетия, и да оправдает оно себя как родоначальник сельскохозяйственного образования в России”.

**М.В.Неручаў** (1831–1878) скончыў Горыгорацкі земляробчы інстытут у 1865 годзе.

У 1866–1867 вучэбным годзе кіраваў кафедрай  сельскагаспадарчай эканомікі  Пятроўскай (Маскоўскай) земляробчай акадэміі. Потым працаваў там разам з прафесарам А.П.Людагоўскім. Адначасова кіраваў у 1867–1869 гг. вучэбнай фермай акадэміі, а затым паказальным Бутырскім хутарам  Маскоўскага таварыства сельскай гаспадаркі. У 1999 годзе ў Маскве   выйшла кніга А.В.Бабушкіна “Исторические прогулки по Отрадному, Сибирево, Медведково и их  окрестностям”, у якой аўтар прыводзіць успаміны М.В.Неручава пра сваю працу ў якасці кіраўніка хутара. Ён піша: “Дом лежал в развалинах, не тронутых со времени пожара, все окружающее пространство было завалено мусором. Один из флигелей был опустошен совершенно – без окон и дверей... Скотный двор был покрыт сгнившим толем и весь тек насквозь, помещение, назначенное для коров, представляло яму с навозною жижею, помещение для лошадей было с разломанным полом и частью обрушившимся потолком… Молотильный сарай разрушился, как и ледник с летней молочной тоже. Каменное строение мастерской имело хорошие стены; внутри было пусто, пол и потолок обвалился; сделанную к нему деревянную пристройку мы нашли уже лежавшей на земле…”.

Пад кіраўніцтвам выхаванца з Горкак ужо ў першы год хутар пачаў даваць прыбытак. А выраблены ў майстэрнях хутара “Гогенгеймский башмаковый плуг” атрымаў у 1872 годзе на Смаленскай выставе вялікі сярэбраны медаль, у 1775 годзе “Гогенгеймский передковый плуг” і “Степной плуг” атрымалі на выставе ў Кастраме залатыя медалі.

У 1877 годзе хутарская гаспадарка давала ўжо больш за 40% чыстага прыбытку. Працуючы на хутары, М.В.Неручаў напісаў некалькі кніг: “Русское землевладение и земледелие”, “Плуг, его выбор, устройство и употребление”, “Выгонная или пастбищная система”.

Потым разам з І.А.Сцебутам прыняў непасрэдны ўдзел у стварэнні часопіса “Русское сельское хозяйство”. Гэты часопіс адыграў важкую ролю ў распаўсюджванні і папулярызацыі дасягненняў сельскагаспадарчай навукі.

Вядома, што толькі за 1874–1876 гг. ён надрукаваў больш за 100 артыкулаў і кніг у выданнях Маскоўскага грамадства сельскай гаспадаркі. У іх Неручаў асвятляў пытанні земляробства і жывёлагадоўлі, механізацыі і эканомікі сельскай гаспадаркі, праблемы развіцця сельскагаспадарчай адукацыі. Так, па прапанове М.В.Неручава на з’езде сельскіх гаспадароў быў разгледжаны праект “О мерах по распространению сельскохозяйственных знаний и улучшению земледелия”, у якім у якасці адной з мер па развіцці сельскагаспадарчай адукацыі предугледжвалася увядзенне пасад губернскіх і павятовых аграномаў.

Аднак у Маскве і акадэміі М.В.Неручаў працаваў нядоўгі час. За тое, што надрукаваў некралог з нагоды смерці А.І.Герцэна, быў звольнены з акадэміі.

Некаторы час працаваў дырэктарам Херсонскага земляробчага вучылішча.

Потым пасяліўся ў Бесарабіі, дзе вёў самастойную гаспадарку і зай-маўся літаратурнай дзейнасцю. Ён быў галоўным рэдактарам “Записок общества сельского хозяйства Южной России”. З яго перакладных прац ў Расіі карысталася попытам кніга нямецкіх прафесароў Ю.Кюна “О кормлении крупного рогатого скота” і І. Коппэ “Земледелие и ското-водство – практические наблюдения по земледелию и руководство к наиболее выгодному ведению хозяйства” (перакладзена разам з І.А.Сце-бутам). Вядома, што ў 1877 годзе К.Маркс, вывучаючы эканамічнае ста-новішча Расіі, вывучаў кнігу М.В.Неручава “Землевладение и земледе-лие в России и других европейских государствах”, Т. 1-2.

Аб жыцці і дзейнасці выхаванца інстытута ў Кішыневе ў 1980 годзе была надруквана кніга “М.В.Неручев. Страницы истории”.

Многія выхаванцы Горыгорацкага земляробчага інстытута і вучылішча дасягнулі вялікіх поспехаў у практычнай працы на ніве сельскай гаспадаркі. Сярод іх былі М.С.Міцуль, В.Я.Краінскі, Л.А.Сыцін і іншыя.

**М.С.Міцуль** (1836–1883) пасля заканчэння Адэскага вучылішча садаводства працаваў садаводам у батанічным садзе Горыгорацкага земляробчага інстытута. І, як заўважыў гісторык С.Г.Цітовіч, Міхаіл быў першым селянінам, якога ў 1860 годзе ў інстытут прынялі як стыпендыята Вольнага эканамічнага таварыства. Вучыўся ў Горках тры гады.

За ўдзел студэнтаў у паўстанні 1863 года інстытут у Горках быў закрыты і пераведзены ў Санкт-Пецярбург. Там Міцуль і скончыў апошні курс са званнем кандыдата аграноміі. У Дзяржаўным гістарычным архіве Расіі захаваўся водгук дырэктара інстытута, у якім ён пісаў: “...Міцуль чалавек вельмі старанны, руплівы і выдатных паводзін”.

Пасля заканчэння інстытута М.С.Міцуль служыў у Дэпартаменце сельскай гаспадаркі Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў. У 1866 годзе яго абралі членам Вольнага эканамічнага таварыства. У гэтыя гады ён актыўна займаўся навуковай дзейнасцю і надрукаваў некалькі прац, сярод якіх “Хозяйственный и плодовый сад”.

У 1870 годзе яму прапанавалі месца агранома ў экспедыцыі на востраў Сахалін і ён, не раздумваючы, мяняе месца міністэрскага чыноўніка на падарожніка. Больш за год, з кастрычніка 1871 года па лістапад 1872 года, правёў у навуковай камандзіроўцы на востраве. Усебакова вывучаў яго раслінны свет, глебу і прыроду. У выніку абагульнення навуковых даследаванняў ім была напісана кніга “Очерки истории Сахалина в сельскохозяйственном отношении”, на якую звярнуў увагу пісьменнік Антон Чэхаў і высока ацаніў яе.

Прыехаўшы на Сахалін у ліпені 1890 года, Чэхаў шмат даведаўся аб дзейнасці выхаванца Горыгорацкага земляробчага інстытута. У сваёй кнізе “Остров Сахалин” ён некалькі разоў узгадвае пра М.С.Міцуля (Чехов А.П. Остров Сахалин. Собр.соч. в 12 т. 1985, Т.11, С.67,103,111,189, 193,268, 269).

У кнізе Чэхаў пісаў: “В экспедиции 1870 года, посланной из Петербурга под начальством Власова, принимал участие также агроном Михаил Семёнович Мицуль, человек редких моральных качеств…, оптимист и идеалист… Ему в то время было 35 лет. К поручению он отнёсся с чрезвычайной добросовестностью. Изучая почву, флору и фауну Саха-

лина, он обошёл пешком Александровский и Тимоновский округи, западное побережье, всю южную часть острова.

Идея сельскохозяйственной колонии поразила и захватила Мицуля. Он отдался ей всей душой, полюбил Сахалин и, как мать, которая не видела в своих любимых детях недостатков, так он и на острове, который сделался его второй родиной, не замечал промерзшей почвы и туманов” (Чехов А.П. Т.11. С.193).

Памяць пра былога студэнта Горыгорацкага земляробчага інстытута і зараз жыве на Сахаліне. Яго імем названы горны хрыбет на захад ад Паўднёва-Сахалінска, перавал, гара і пік, рэчка Міцулёўка ў Анінскім раёне, сёлы Міцулёўка і Міхайлаўка.

Аб жыцці М.С.Міцуля выдадзена кніга Аляксеева А.І. “Вторая Родина” (Южно-Сахалинск, 1986).

**В.Я. Краінскі** скончыў Горыгорацкі інстытут у 1863 годзе. Чатыры гады працаваў на дзяржаўнай пасадзе, а потым кіраваў прыватнымі маёнткамі. Сваю практычную працу ён прааналізаваў у артыкулах, змешчаных у “Земледельческой газете” і ў “Журнале сельского хозяйства и лесоводства”. Найбольш вядомыя яго артыкулы “Технические и экономические основы Шебекинского хозяйства” (1874), “Организация хо-зяйств в связи с сельскохозяйственным счетоводством” (1876), “Новая система скотоводства соответственно условиям русского сельского хо-зяйства” (1877), “Сравнительная организация хозяйств Курской губер-нии Белгородского уезда, Тульской губернии Богородицкого уезда” (1878).

Вядома, што па яго ініцыяціве была створана ў 1875 годзе ў вёсцы Шабекіна пачатковая сельскагаспадарчая школа. На жаль, яго далейшы лёс невядомы.

**Л.А.Сыцін** (1832–1913) нарадзіўся ў сям’і настаўніка Тульскай губернскай гімназіі. У 1855 годзе скончыў Горыгорацкі земляробчы інстытут. Некаторы час працаваў у Міністэрстве земляробства і дзяржаўных маёмасцяў. Працуючы там, зацікавіўся пытаннем захавання лясоў, якія ішлі ў асноўным на паліва. Пачаў вывучаць праблему выкарыстання торфу для гэтай мэты. У 1875 годзе быў прызначаны дырэктарам першага ў Расіі завода па здабычы торфу ў Карачаўскім павеце Бранскай вобласці. Потым займаўся гэтымі пытаннямі ў Падмаскоў’і і на Урале.

Гісторыкі навукі лічаць, што Л.А.Сыцін з’яўляецца заснавальнікам расійскай тарфяной прамысловасці. На жаль, яго далейшы лёс невядомы.

**А.С.Есакоў** скончыў Санкт-Пецярбургскую гіманазію, а ў 1854 годзе – Горыгорацкі земляробчы інстытут. Доўгі час працаваў сакратаром графа П.Д.Кісялёва, які быў міністрам Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў, а потым паслом Расіі ў Парыжы. На жаль, захварэў і памёр зусім маладым. Цікава, што яго бацька, С.С.Есакоў, вучыўся разам з А.С.Пушкіным у Царскасельскім ліцэі, сябраваў з паэтам В.К. Кюхельбекерам.

**53. Якая сувязь была студэнтаў і выкладчыкаў інстытута з расійскімі пісьменнікамі?**

Як мы ўжо адзначалі, “Одай у гонар сахалінскай урадлівасці” назваў працу выпускніка земляробчага інстытута М.С.Міцуля пісьменнік **А.П.Чэхаў**.

Сярод беларускіх літаратуразнаўцаў існуе версія, што студэнт Горыгорацкага земляробчага інстытута з'яўляўся аўтарам славутай беларускай паэмы “Тарас на Парнасе”.

Напісаная, паводле слоў класіка беларускай літаратуры М.Багдановіча, “бойко, хорошим белорусским языком и безукоризненным стихом”, паэма была прынята народам і атрымала шырокае распаўсюджванне ў Беларусі. Большасць даследчыкаў аддае перавагу меркаванню этнографа Е. Раманава, што аўтар паэмы – адзін са студэнтаў Горыгорацкага земляробчага інстытута.

Зараз многія беларускія літаратуразнаўцы лічаць, што аўтарам гэтай паэмы з’яўляецца **К.Вераніцын** (1834–1904), выхаванец Горыгорацкага земляробчага інстытута.

Перспектывы для даследчыкаў адкрыў спіс паэмы з паметай: “К.Вераніцын, 15.4.1855. Гарадок”, які знайшоў гісторык В.Скалабан. Вядома, што ён вучыўся ў Віцебскай гімназіі, Пецярбургскай медыкахірургічнай акадэміі, а затым у Горыгорацкім земляробчым інстытуце.

Зараз на яго радзіме, у горадзе Гарадок Віцебскай вобласці, устаноўлены помнік-валун.

Вядома, што гэтая паэма адыграла вялікую ролю ў станаўленні беларускай літаратурнай мовы, развіцці беларускай літаратуры, перакладзена на многія мовы свету.

Цікава адзначыць, што з 1851 па 1853 год у інстытуце вучыўся П.А.Бахмецьеў, прататып галоўнага героя рамана М.Г.Чарнышэўскага “Что делать?”.

У 1859–1863 гадах у Горкі пісаў лісты І.С.Тургенеў у сувязі з тым, што там вучыўся яго прыгонны селянін Ф.Бізюкін.

“…Будзь заўсёды сумленным і годным”, – такія словы сказаў **І.С.Тургенеў,** адпраўляючы свайго прыгоннага селяніна ў Горыгорац-

кую земляробчую школу. Ф.Бізюкін паступіў у вучылішча, і пісьменнік увесь час вучобы цікавіўся яго лёсам і плаціў за яго вучобу. Земляробчую школу ён паспяхова скончыў і працаваў упраўляючым у панскіх маёнтках. А ў 1885 годзе надрукаваў у часопісе “Русский вестник” успаміны пра узаемаадносіны з пісьменнікам.

У 1856 годзе царская паліцыя перахапіла некалькі лістоў студэнта Горыгорацкага земляробчага інстытута П.А.Зайцэўскага да свайго сябра ў Казань.

Горацкі карэспандэнт вучыўся два гады ў Саратаўскай гімназіі, дзе М.Г.Чарнышэўскі выкладаў рускую славеснасць. Ён не толькі вучыўся ў М.Г.Чарнышэўскага, але і выступаў з дакладамі на літаратурных гутарках. Цікава, што на гэтых лістах упамінанне імя М.Г.Чарнышэўскага было пазначана кіраўніком 3-га аддзела жандармерыі генералам Л.В.Дубельтам словам “Невядомы”. З гэтага літаратуразнаўцы зрабілі вывад: да ліста з Горкак на М.Г.Чарнышэўскага (вясна 1856 года) у палітычнай паліцыі не было кампраментуючых звестак.

Яшчэ ў 1935 годзе ў зборніку “Литературное наследство” былі надрукаваны два лісты **Т.Р.Шаўчэнкі** і канверт да трэцяга ліста, на якім было напісана: “Его высокоблагородию Филиппу Николаевичу Королёву. Профессору Горыгорецкого земледельческого института в местечке Горки Могилевской губернии”. Літаратуразнаўцы адзначалі, што гэтыя лісты маюць вялікае значэнне для даследавання і вывучэння біяграфіі паэта. Так, у іх ён упершыню паведамляе пра паездкі ў Швецыю і Данію, пра дакладную дату напісання паэмы “Гамалия” і пра тое, што пры напісанні гэтай паэмы ён карыстаўся прысланым П.М.Каралёвым зборнікам запарожскіх песень.

У лістах да горацкага прафесара адчуваецца іх глыбокае асабістае сяброўства і прыхільнасць. Так, у першым лісце ён піша: “Дзякуй табе, добры чалавек, за ласкавае слова, за грошы…”. У другім: “Дзякуй табе, мой голуб, што хоць ты мяне не забываеш…”.

У зборніку “Лісти да Т.Г.Шевченко” (Кіев, 1993) ёсць і ліст, напіса-ны П.М.Каралёвым. У ім ён піша: “Браце! (Ці можна цябе так зваць?). Бо я цябе палюбіў, дужа палюбіў, як брата”. Гэтыя лісты сведчаць пра вельмі добрыя сяброўскія адносіны вядомага паэта і прафесара з Горак.

Цікава, што П.М.Каралёў з’яўляецца прадзедам акадэміка АН СССР, галоўнага канструктара касмічных караблёў С.П.Каралёва.

Вось такія цікавыя сустрэчы бываюць на літаратуразнаўчых сцяжынках.

**54. У чым гістарычнае значэнне Горыгорацкага земляробчага інстытута?**

Горыгорацкі земляробчы інстытут існаваў усяго 16 гадоў, але яго дзейнасць паспрыяла развіццю айчыннай сельскагаспадарчай адукацыі і навукі. Інстытут падрыхтаваў 499 аграномаў вышэйшай кваліфікацыі. Немалаважную ролю ў станаўленні адукацыі адыгралі і сярэднія сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы Горак, якія за перыяд з 1840 па 1864 год выпусцілі 604 спецыялісты сярэдняй кваліфікацыі. Больш за 600 чалавек закончылі каморніцка-таксатарскія класы, вучэбную ферму і школу аўчароў.

У сярэдзіне XIX стагоддзя гэта навучальная і навуковая ўстанова была цэнтрам айчыннай доследнай аграноміі, дзе распрацоўваліся навуковыя праблемы развіцця земляробства, даследаваліся і прапаноўваліся метады і шляхі ліквідацыі адсталасці краіны.

“Преподаватели института, – пісаў А.В.Саветаў, першы доктар аграноміі ў Расіі, – можна сказать, положили основание научной разработки некоторых отраслей сельского хозяйства в России...”.

Многія выпускнікі інстытута пакінулі яркі след у гісторыі рускай сельскагаспадарчай навукі. Сярод іх А.В.Саветаў, І.А.Сцебут, А.М.Бажанаў, А.П.Людагоўскі, І.М.Чарнапятаў, Я.С.Фалькоў, С.С.Касовіч, М.С.Міцуль. Па падручніках выкладчыкаў інстытута і яго выхаванцаў С.С.Касовіча (батаніка), К.Д.Шміта (хімія), Э.Ф.Рэго (садаводства і агародніцтва), А.М. Людагоўскага (эканоміка) займаліся цэлыя пакаленні студэнтаў расійскіх сельскагаспадарчых устаноў.

**55. Якія змены адбыліся ў Горках пасля адкрыцця там земляробчай школы і інстытута?**

Стварэнне ў Горках земляробчай школы з двума разрадамі і фермы вельмі спрыяла развіццю мястэчка. Узрасла колькасць насельніцтва, бо прыехала шмат выкладчыкаў і служачых школы. Акрамя гэтага 24 снежня 1841 года Дзяржаўны Савет Расійскай імперыі прыняў пастанову, згодна з якой людзі свабоднага саслоўя, якія перасяляліся ў Горкі, карысталіся льготамі, як і ў іншых гарадах Магілеўскай губерні.

У 1844 годзе Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў прыняло пастанову аб будаўніцтве ў Горках “...ежегодно по 15 новых хат с выдачей для этого селянам взаимообразно строительного леса”. Архіўныя матэрыялы сведчаць, што ў 1844 годзе ў Горках было: цэркваў праваслаўных – 3, касцёл – 1, некалькі яўрэйскіх малітоўных дамоў, хат у свабодна пражываючых – 6, хат у сялян – 308, у яўрэяў – 119, у адстаўных салдат

– 12. У гэты час быў перабудаваны і пашыраны сялянскі лазарэт, дзе працавалі дзве павівальныя бабкі.

У справах горацкай будаўнічай камісіі за 1839 год знаходзіцца прашэнне Франца Кноля аб выдзяленні яму месца для будаўніцтва аптэкі і зямлі пад агарод "для ботанических растений". Праз год аптэка была адкрыта.

У 1841 годзе пачала працаваць у Горках метэастанцыя, якая, як адзначаецца ў кнізе "Очерки истории науки и культуры Беларуси", праводзіла найбольш поўныя і няспынныя назіранні ў Беларусі, якія ўключалі дадзеныя аб атмасферным ціску, тэмпературы і вільготнасці паветра, сіле ветру і колькасці ападкаў.

Як сведчаць архіўныя дакументы Санкт-Пецярбурскага гістарычнага архіва, у маі 1845 года пачалося будаўніцтва новай мураванай царквы Ушэсця на Казіміраўскай слабадзе. Царква пачала працаваць у 1850 годзе.

У 1846 годзе ў горадзе, а ў 1847 годзе ў Казіміраўскай слабадзе адкрыліся пачатковыя народныя школы. Быў капітальна адрамантаваны гасціны двор, адкрылася некалькі новых крам, а ўсяго іх было 44.

Станоўчай з'явай, як адзначана ў архіўных дакументах, было і змяншэнне ў Горках піцейных устаноў.

Быў капітальна адрамантаваны шлях з Оршы ў Горкі, на ім было пабудавана некалькі новых мастоў.

У 1856 годзе быў пабудаваны завод для вытворчасці дрэнажных труб, а ў 1859 годзе – чыгуналіцейны, дзе было занята 27 чалавек і выраблялася ад 700 да 1000 пудоў металу ў год. Пры земляробчым інстытуце дзейнічала механічная майстэрня, якая выпускала невялікія сельскагаспадарчыя машыны.

Значна вырасла і колькасць жыхароў. Так, калі ў 1836 годзе было 2528 чалавек, то ў 1856 годзе – 3830, а ў 1868 годзе – 4908 жыхароў.

У Горках працавалі дзве мураваныя і тры драўляныя царквы, адзін драўляны касцёл, чатыры драўляныя яўрэйскія малітоўныя дамы.

26 снежня 1861 года царскі ўрад прыняў рашэнне казённае мястэчка Горкі перавесці ў стан павятовага горада і ўтварыць з частак Аршанскага, Магілёўскага і скасаванага Копыскага паветаў Горацкі павет. Плошча новаўтворанага павета складала 2487 кв. вёрст, насельніцтва – каля 80 тыс. чалавек.

Для вядзення гарадской гаспадаркі, грамадскіх і судовых спраў у Горках была заснавана гарадская дума. У наступным годзе ў Горкі з Копыся былі пераведзены павятовы суд з дваранскай апекай, павятовае

казначэйства, паштовая кантора, гарадская бальніца, інвалідная каманда, канцылярыя, маршалак дваранства і страпчага, іншыя ўстановы.

У жніўні 1867 года было зацверджана палажэнне аб гербе горада: "…изобразить в сем гербе, как главную эмблему города Горки, три горы, средняя выше других, а чтобы указать на занятие земледелием жителей города – вырастающие из гор колосья, в вольной части щита поместить герб Могилёвской губернии. Щит украсить башней с тремя зубцами".

Такім чынам, Горкі вельмі выйгралі ад таго, што менавіта тут былі адкрыты земляробчыя навучальныя ўстановы.

## "ЗА НАШУ І ВАШУ ВОЛЬНАСЦЬ"



**56. На што разлічваў царскі ўрад, адкрываючы ў маленькім мястэчку земляробчыя навучальныя ўстановы?**

Адкрываючы ў Горках земляробчыя навучальныя ўстановы, царскі ўрад разлічваў, што тут будуць выхоўвацца верныя яму чыноўнікі і кіраўнікі памешчыцкіх маёнткаў. Аднак царызм пралічыўся. Асвета моладзі садзейнічала фарміраванню ў студэнтаў прагрэсіўнага светапогляду.

Ужо ў 1851 годзе з Горак высылаецца студэнт А.Ранбінскі, які, па меркаванні інстытуцкай адміністрацыі, аказваў "шкодны ўплыў на моладзь". Як мы ўжо адзначалі, у 1856 годзе паліцыя перахоплівае ліст студэнта П.Зайцэўскага, былога вучня М.Р.Чарнышэўскага, да свайго сябра ў Казань, дзе ён расказваў пра жыццё ў інстытуце і, у прыватнасці, пісаў: "…сустрэчы нашы маюць свой асаблівы характар: у нас звычайна з'яўляюцца размовы пра свабоду і г.д …, мы ўслаўляем воль-

насць, свабоду, ганьбуем усё і ўсіх бязлітасна, пачынаючы з М.П. (цара)".

У кастрычніку 1857 года студэнты напалі на кватэру і канцылярыю станавога прыстава. Яны знішчылі ўсе справы і разграмілі канцылярыю. Следства па гэтай справе не выявіла вінаватых і было спынена.

У гэтым жа годзе на легальных умовах адкрыўся студэнцка-прафесарскі клуб, у дзейнасці якога бралі ўдзел вядучыя выкладчыкі інстытута. У клубе абмяркоўваліся надзённыя палітычныя пытанні і будучая аграрная рэформа.

У 1861 годзе з інстытута быў выключаны студэнт П.Ульянаўскі за ўдзел у рэвалюцыйных выступленнях у Бялынічах і Оршы. У абарону яго больш за 50 чалавек з'явіліся да дырэктара і заявілі аб сваім намеры пакінуць інстытут.

Расследаванні, праведзеныя паліцыяй, паказалі, што горацкія навучэнцы мелі перапіску са студэнтамі універсітэтаў іншых гарадоў, збіраліся ў асобныя групы і спявалі рэвалюцыйныя песні.

**57. Калі ў Горках была створана падпольная студэнцкая арганізацыя і чым яна займалася?**

У канцы 1862 года ў Горках сфарміравалася падпольная студэнцкая арганізацыя, на чале якой стаяў камітэт з 11 чалавек. У яго ўваходзілі С.Віскоўскі, В.Дамарацкі, В.Антановіч, П.Козел, К.Дзяконскі, Д.Кілдыш, С.Маргулец, Р.Чарвінскі, З.Міткевіч, Ф.Чудоўскі, С.Дымкевіч. Кожны член камітэта меў свае абавязкі і даручэнні. Так, Віскоўскі падтрымліваў сувязь з нелегальнымі арганізацыямі ў Пецярбургу, Маскве і Вільні, В.Антановіч займаўся зброяй, а П.Козел – правіянтам, фуражом і транспартам.

**58. Хто кіраваў арганізацыяй?**

Кіраваў камітэтам **С.Дымкевіч**, вядомы пад мянушкай "Біскуп". Некалькі гадоў ён вучыўся ў інстытуце на правах вольнага слухача, карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод горацкага студэнцтва, кіраваў касай узаемадапамогі, арганізоўваў сталовыя для бедных навучэнцаў. Каб распаўсюдзіць свой уплыў на сялян Горыгорацкага маёнтка, С.Дымкевіч разам з іншымі студэнтамі адкрыў беларускую народную школу, дзе выкладанне вялося на беларускай мове па польскіх букварах і кніжках. Школа працавала на працягу чатырох гадоў, а пра яе існаванне ўлады і не падазравалі.

Пасля смерці С.Дымкевіча ў студзені 1863 года камітэт узначаліў **С.Віскоўскі**. Ён устанавіў сувязь з Літоўскім правінцыяльным камітэтам у Вільні, ездзіў па зброю ў Пецярбург і Маскву. Атрымаўшы

зброю, студэнты выязджалі за горад і трэніраваліся ў стральбе, рыхтаваліся да будучых баёў…

**59. Што нам вядома пра кіраўніка паўстанцаў на Магілёўшчыне Л.Звяждоўскага?**

У сакавіку 1863 года Віленскі камітэт вырашыў пачаць паўстанне на Магілёўшчыне. Кіраўніком яго і ваенным начальнікам Магілёўскага ваяводства быў прызначаны **Л.Звяждоўскі**. Ураджэнец Віленскай губерні, сын калежскага рэгістратара, ён скончыў Мікалаеўскае ваеннае вучылішча, затым Акадэмію генеральнага штаба, удзельнічаў у Крымскай вайне, узнагароджаны двума ордэнамі. У 1860–1862 гадах служыў у Вільні, але выклікаў да сябе “подозрение в неблагонамеренном образе мыслей и участии в сходках с преступной целью” і быў пераведзены ў Маскву, дзе ўзначаліў афіцэрскую падпольную арганізацыю 1-га армейскага корпуса. Будучы перакананым прыхільнікам руска-польскага рэвалюцыйнага саюза, Звяждоўскі на працягу шэрагу гадоў удзельнічаў у рускім рэвалюцыйным руху.

**60. Якія падзеі адбыліся ў час паўстання ў Горках?**

У пачатку красавіка 1863 года Л.Звяждоўскі разам са сваімі баявымі саратнікамі – афіцэрамі царскай арміі Я.Жукоўскім, Будзіловічам, С.Дзержаноўскім, З.Міткевічам – прыбылі ў маёнтак Літвінавічы Аршанскага павета, затым у вёску Зарубы і сталі рыхтавацца да выступлення.

А ў Горках у навучальных земляробчых установах і не падазравалі аб будучым паўстанні. Дырэктар інстытута Р.Э.Траўтфэтэр на запытанне Магілёўскага губернатара заявіў, што “ўласна за навучальныя ўстановы турбавацца няма прычыны, і паўстанне ў Горках будзе толькі тады, калі яно адбудзецца ў Магілёве”.

Каля гадзіны ночы 24 красавіка атрад Л.Звяждоўскага ўвайшоў у горад. На плошчы да яго далучыліся студэнты, а таксама паўстанцы, якія прыбылі з Магілёва.

Кіраўніку Горацкага падпольнага камітэта была ўручана пастанова ад 13 сакавіка 1863 года аб тым, што “нацыянальны ўрад прызначае грамадзяніна Станіслава Віскоўскага начальнікам горада Горы-Горкі”.

Удзельнікі паўстання раздзяліліся на пяць груп і адначасова напалі на кватэру начальніка ўнутранай аховы, казарму, цэхгауз, пошту і казначэйства. Паміж паўстанцамі і салдатамі воінскай каманды завязаўся бой, у якім загінулі В.Дамарацкі і К.Пржэбольскі, трое паўстанцаў атрымалі раненні. У горадзе згарэла некалькі дамоў.

Раніцай 24 красавіка паўстанцы і жыхары горада сабраліся на плошчы і Л.Звяждоўскі выступіў з прамовай, у якой пераконваў, што яны ваююць за мужыкоў і хочуць даць народу свабоду. Ён заклікаў сялян не плаціць падаткі і ўступаць у паўстанцкі атрад. Пацярпеўшым ад пажару была выдзелена грашовая дапамога.

Мітынг прайшоў таксама на вучэбнай ферме. Звяртаючыся да рабочых і навучэнцаў, Д.Кілдыш казаў, што "хопіць жыць пад бізуном…, навучэнцаў і работнікаў збіваюць, абыходзяцца з імі, як са скацінай…, паўстанцы ідуць за справу справядлівасці".

На тэрыторыі дэндрапарка інстытута з воінскімі ўшанаваннямі быў пахаваны загінуўшы студэнт **В.Дамарацкі**. Вядома, што ён нарадзіўся ў лютым 1840 года. Скончыў Валынскую губернскую гімназію і ў 1858 годзе паступіў у Горыгорацкі земляробчы інстытут. Уваходзіў у падпольны камітэт (адказваў за сувязь с мясцовым насельніцтвам).

Быў актыўным членам студэнцка-прафесарскага клуба, дзе абмяркоўвалі будучую рэформу. Вядома, што ён упэўнена пярэчыў сваім сябрам, якія ўскладалі вялікія надзеі на цара і казаў: "Всё это пустое, мираж… Попомните: чиновничество слопает ваш тощий либерализм".

У час паўстання ён кіраваў групай, якая нападала на казарму салдат унутранай аховы. Царскім салдатам прапанавалі здацца без бою. У адказ раздаліся ружэйныя выстралы. Тады з заклікам "За вашу и нашу свабоду!" уперад выйшаў В.Дамарацкі. У час рукапашнага бою ён быў смяротна паранены штыком… Пахавалі яго з вайсковымі ўшанаваннямі.

Днём 24 красавіка паўстанцы, колькасць якіх даходзіла ўжо да 200 чалавек, рэквізаваўшы ў вучэбнай фермы частку коней і ў казначэйстве грошы, спешна накіраваліся ў бок Крычава. Л.Звяждоўскі планаваў падняць паўстанне ва ўсходняй частцы Магілёўскай губерні, затым перайсці на Смаленшчыну і рухацца далей – у Паволжжа.

**61. Чаму паўстанне не падтрымала насельніцтва горада Горкі і павета?**

Горацкім паўстанцам не ўдалося прыцягнуць шырокія масы беларускага сялянства, якое, паддаўшыся на правакацыю царскіх улад, успрымала паўстанне як барацьбу памешчыкаў за вяртанне прыгонніцтва.

Калі паўстанцаў узялі ў акружэнне царскія салдаты, Л.Звяждоўскі 30 красавіка прыняў рашэнне распусціць атрад і прабівацца на захад невялікімі групамі. Зрабіць гэта ўдалося толькі невялікай групе на чале з Л.Звяждоўскім. 145 чалавек былі захоплены і пасаджаны ў магілёўскую турму.

**62. Што стала з арыштаванымі горацкамі паўстанцамі**?

У чэрвені 1863 года пачалося следства па справе паўстанцаў. Да крымінальнай адказнасці былі прыцягнуты 61 навучэнец і 5 выкладчыкаў. Царскі суд, які адбыўся ў сакавіку 1864 года, жорстка расправіўся з арыштаванымі: 26 студэнтаў былі асуджаны на катаргу, 33 адпраўлены ў ссылку. Выкладчыкаў выслалі за межы Беларусі, ва ўсходнія губерні.

Горацкія паўстанцы на судзе трымаліся незалежна і адважна. Так, А.Кушалеўскі не прыняў царскую прысягу і на судзе заявіў: "...Я желаю добра России и Польше как двум соседним народам, в тесной их дружбе…". Прысуд па яго справе абвяшчаў: 12 год катаржных работ.

**63. Ці вядомы лёс горацкіх паўстанцаў?**

Большасць катаржан і ссыльных загінула ў турэмных засценках. Вядомы толькі лёс некаторых. Так, М.Янкоўскі нарадзіўся і вырас у польскай дваранскай сям'і. У 1863 годзе, будучы студэнтам інстытута, прымаў удзел у паўстанні. Ваенны суд прызначыў яму пазбаўленне ўсіх дваранскіх прывілей і 8 год катаржных работ. Адбываў пакаранне М. Янкоўскі на Ленскіх залатых прыісках. Праз тры гады быў адпраўлены ў ссылку на Далёкі Усход. Там ён займаўся конегадоўляй. Праз некалькі гадоў племянной работы ў Прымор'і і Прыамур'і з'явіліся табуны коней, якія падыходзілі для тутэйшага клімату і ландшафту.

У 1908 годзе разам з сынам стварыў вялікі статак аленяў і пачаў сур'ёзна займацца вывучэннем біялогіі іх віду. І невыпадкова эмблемай маёнтка Янкоўскіх стала адлюстраванне галавы аленя, змешчанага ў падкове. Яшчэ адна галіна гаспадаркі, у якой Янкоўскі быў піянерам, – гэта вырошчванне жэньшэню.

М.Янкоўскі пакінуў прыкметны след у гісторыі Прымор'я не толькі дзякуючы сваёй гаспадарчай дзейнасці. Ён унёс значны ўклад у развіццё навукі таго часу як географ, энтамолаг, арыянтолаг, археолаг. У 1908 годзе М.Янкоўскі перанёс моцнае запаленне лёгкіх, пераехаў у Сяміпалацінск. Памёр у 1912 годзе ў г. Сочы.

Імя Янкоўскага носіць некалькі відаў матылькоў і ішых насякомых, раслін, археалагічная культура поўдня Прымор'я і асаблівая, ім створаная, парода коней.

Ім упершыню быў апісаны новы від птушкі аўсянкі. Зараз яна носіць імя "Аўсянка Янкоўскага". Яго імя носіць паўвостраў у заліве Пятра Вялікага і гара на ім. У былым маёнтку Янкоўскага ўстаноўлены пом-нік Міхаілу Івановічу. На ім надпіс: "Он был дворянином в Польше, ка-торжником в Сибири и нашел свой приют и славу в Уссурийском крае. Сделанное им – пример будущим хозяевам земли".

У пасёлку Радава, у прыгарадзе Уладзівастока, яго імя носіць вуліца. Аб ім В. Янкоўскі напісаў аповесць “Нэнуни-четырёхглазый” (Яраслаўль, 1979).

Цікавы лёс яшчэ аднаго былога студэнта інстытута, Ю.Каліноўскага, актыўнага ўдзельніка паўстання. Ён вучыўся ў інстытуце да 1853 года (невядома ці скончыў). У 1863 годзе прыняў актыўны ўдзел у паўстанні і быў прыгавораны да смяротнага пакарання, якое замянілі на 10 гадоў катаргі. З 1899 года – Генеральны вікарый ордэна кармелітаў босых у Галіцыі. Памёр у 1907 годзе.

22.06.1991 года кананізаваны ў Рыме Рымскім Папам Паўлам ІІ.

Кіраўнік горацкага атрада паўстанцаў Л.Звяждоўскі ў лютым 1864 года каля горада Апатава быў узяты ў палон царскімі войскамі і расстраляны.

**64. Як сучасныя гісторыкі ацэньваюць удзел горацкіх студэнтаў у паўстанні?**

Удзел студэнтаў у рэвалюцыйным руху 1863 года, як адзначае гісторык С.Г.Цітовіч, быў “…спачувальным водгукам на польскае нацыянальна-вызваленчае паўстанне, выказваннем салідарнасці з рэвалюцыйна-дэмакратычным бокам гэтага руху …, садзейнічаў таксама збліжэнню палякаў, рускіх, беларусаў і іншых навучэнцаў у сумеснай рэвалюцыйна-дэмакратычнай барацьбе”.

**65. Што адбылося з інстытутам пасля паўстання?**

Царскаму ўраду выступленне вучняў горацкіх навучальных установаў паслужыла прычынай для адмены ў 1863 годзе прыёму ў земляробчы інстытут. Летам 1864 года пытанне аб лёсе гэтай навучальнай установы абмяркоўвалася ў Міністэрстве дзяржаўных маёмасцяў, і 24 ліпеня было прынята рашэнне аб яго пераводзе ў Пецярбург.

Царскія чыноўнікі і жандармы не хавалі сваёй радасці з нагоды разгрому інстытута. Віленскі генерал-губернатар Мураў’ёў, празваны “вешателем”, пісаў царскаму міністру: “Хорошо вы сделали, что покончили с Горыгорецким институтом. Это было скверное гнездо”.

Так адзываўся царскі чыноўнік аб адной з лепшых у Еўропе вышэйшых сельскагаспадарчых навучальных устаноў.

З закрыццём інстытута скончыла ў Горках своё існаванне першая ў Расіі вышэйшая сельскагаспадарчая навучальная ўстанова, а Беларусь наогул страціла адзіную вышэйшую школу.

## ГОРАЦКІЯ НАВУЧАЛЬНЫЯ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫЯ ЎСТАНОВЫ



**66. Якія навучальныя земляробчыя ўстановы засталіся працаваць у Горках?**

Нягледзячы на закрыццё ў 1864 годзе земляробчага інстытута, Горкі як цэнтр сельскагаспадарчай адукацыі Расіі і Беларусі захаваў сваё значэнне. Як вядома, значная частка вучэбнага абсталявання і бібліятэка былі пераведзены ў Санкт-Пецярбург.

Аднак у Горках застаўся комплекс вучэбных будынкаў, ферма, кабінеты, лабараторыі, механічны завод, сад з гадавальнікам, батанічны сад і іншае.

Працавалі земляробчае вучылішча, земляробча-каморніцкія класы і вучэбная ферма.

**67. Якая навучальная ўстанова была галоўнай у Горках у гэты час?**

Галоўнай навучальнай установай у Горках у гэты час стала земляробчае вучылішча. Да 1864 года яно знаходзілася ў падпарадкаванні інстытута і ўзначальвалася яго дырэктарам. Выкладчыкамі вучылішча былі ў асноўным прафесары інстытута.

Пасля закрыцця інстытута ў вучылішчы быў сфарміраваны асобны штат. Былі зацверджаны пасады дырэктара, шасці настаўнікаў, інспектара, законавучыцеля і двух наглядчыкаў.

У вучылішча прымалі юнакоў усіх саслоўяў ва ўзросце 16-20 гадоў, якія вытрымалі ўступныя экзамены. Пры паступленні ў вучылішча так-сама ўлічвалася класавая і рэлігійная прыналежнасць. Перавагай карыс-таліся дзеці, бацькі якіх належалі да маёмных класаў, а таксама правас-лаўнага веравызнання.

Цікава, што да 1863 года амаль 30% навучэнцаў складалі палякі. Аднак пасля паўстання 1863 года царскі ўрад 22 мая 1864 года ўвёў норму для палякаў – 10% ад ліку прыёму. Такая ж норма была і для яўрэяў.

Захаваліся дадзеныя аб сацыяльным паходжанні навучэнцаў за 1864 год: з дваран – 11 навучэнцаў, з обер-афіцэрскіх дзяцей – 7, з духавенства – 4, з купцоў і мяшчан – 29, з сялян – 28, разначынцаў – 6.

Плата за навучанне была высокай – 150 рублёў у год. Гэтую суму складаў сярэдні гадавы заробак кваліфікаванага рабочага. Акрамя гэтага, з кожнага паступаўшага бралі залог у памеры 25 рублёў. Не здзіўляе, што кожны год многія дзеці кідалі вучобу. Некаторым навучэнцам вы-

давалася стыпендыя, але на гэтыя месцы быў вялікі конкурс – да 10-12 чалавек.

Тыя, хто атрымліваў стыпендыю, былі павінны "…прослужить в подведомственных Министерству государственных имуществ учреждениях не менее того числа лет, в течение которого они пользовались казённым содержанием в училище".

Акрамя казённых навучэнцаў, у вучылішчы навучаліся прыватныя. Яны атрымлівалі ад вучылішча кватэру, ежу і адзенне. Іх колькасць у розныя гады вагалася ад 14 да 30 чалавек.

Астатнія навучэнцы былі вольнапрыходзячымі, яны жылі на прыватных кватэрах і навучаліся за свой кошт.

Навучэнцы вучылішча жылі па правілах, зацверджаных Міністэрствам дзяржаўных маёмасцяў: "Ученик должен вставать ото сна летом в пять, а зимой и в праздничные дни – в шесть часов утра; завтракать в 7 часов утра, обедать летом в полдень, а зимой в половине второго часа; полдничать – в пять, ужинать в восемь, ложиться спать в десять часов вечера.

…Утром, вечером, перед обедом и после него вслух одним учеником по очереди читаются положенные молитвы при общем собрании всех учеников…".

Парушэнне раскладу дня і правілаў паводзін строга каралася кіраўніцтвам вучылішча.

Тым не менш вучылішча ў Горках карысталася вялікай папулярнасцю ў Расіі і Беларусі. У 1863–1877 гады тут навучалася ад 69 да 227 навучэнцаў. У гэтыя гады яно было адным з самых буйных у Расіі.

У Беларусі яно было першай сярэдняй спецыяльнай установай аграрнага профілю.

Тэрмін навучання ў вучылішчы быў чатыры гады, а з 1870 года – пяць. Пры пераходзе з аднаго класа ў другі вучні павінны былі здаваць экзамены па ўсіх прадметах, якія вывучалі ў адпаведным класе. Акрамя гэтага, у ліпені і жніўні вучні старэйшых класаў экзаменаваліся ў час праходжання імі сельскагаспадарчай практыкі. У канцы навучання праводзіліся выніковыя экзамены, пасля чаго вучні размяркоўваліся на практыку ў прыватныя маёнткі або казённыя фермы ў розныя губерні Расіі, часцей за ўсё Магілёўскую, Смаленскую, Мінскую, Палтаўскую, Віцебскую, Чарнігаўскую, Пецярбургскую. У канцы практыкі кожны вучань быў павінен зрабіць справаздачу педагагічнаму савету аб сваёй рабоце.

Пасля заканчэння вучылішча вучні атрымлівалі званне “учебного управительского помощника”, а праз шэсць гадоў працы ў сельскай гаспадарцы – атэстат на званне “учёного управителя”. Большасць былых вучняў працавала ў якасці эканомаў у прыватных маёнтках.

Выпускнікі вучылішча з “адзнакай” маглі паступаць адразу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

**68. Якія змены адбыліся ў вучылішчы ў 1878 годзе?**

У 1878 годзе было зацверджана новае “Положение…” і штаты. Згодна з ім быў значна пашыраны курс навук, павышаны патрабаванні да абітурыентаў. Замест пяці з паловай сталі навучацца шэсць гадоў.

Пашыраны былі і правы выхаванцаў, якія скончылі курс у вучылішчы. Тыя, хто атрымліваў атэстат першага разраду, мелі магчымасць атрымаць “…звание личных почётных граждан”. Усе астатнія такое званне маглі атрымаць толькі праз тры гады.

Як і раней, былі казённыя, прыватныя і вольнапрыходзячыя навучэнцы.

У вучылішчы былі і прыватныя імянныя стыпендыі, памер якіх раўняўся ўтрыманню казённакоштнага навучэнца. У Горацкім земляробчым вучылішчы за кошт завешчаных капіталаў былі ўстаноўлены тры стыпендыі: з 1899 года – М.П.Багалюбава (былога дырэктара вучылішча), з 1904 года – Д.П.Маўро (двараніна, былога навучэнца вучылішча) і з 1906 года – М.П.Шастакова (буйнога цукразаводчыка, былога навучэнца вучылішча).

У Нацыянальным гістарычным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваецца справа “О завещательном капитале имени М.П.Шестакова”. Згодна з ім імянная стыпендыя была зацверджана 7 жніўня 1906 года, калі супрацоўнікі заводаў Ф.А.Цярэшчанка да юбілею службы М.П. Шастакова назбіралі 6 тысяч рублёў і палажылі іх у банк для выплаты стыпендыі з працэнтаў на гэтую суму.

Сам М.П.Шастакоў распрацаваў палажэнне аб стыпендыі, згодна з якім яна выплачвалася навучэнцу, бацька якога працаваў на заводах, у маёнтках або ў іншых установах, што належалі нашчадкам Ф.А.Цярэшчанкі, вядомага рускага цукразаводчыка і капіталіста.

У палажэнні агаворвалася, што прадстаўляе стыпендыятаў дырэкцыя вучылішча, а рашэнне аб прызначэнні стыпендыі прымае М.П.Шастакоў. З архіўных дакументаў было выяўлена, што першым стыпендыятам стаў вучань К.Майданнік. Апошняя згода М.П.Шастакова была атрымана ў 1915 годзе.

У 1887 годзе Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў выдала прадпісанне пад назвай “О наблюдении за воспитанниками”, а ў 1892 годзе – “Правила для учащихся”.

Не ўсе навучэнцы маглі іх вытрымаць. Аб гэтым сведчыць факт з біяграфіі вядомага металурга-доменшчыка М.К.Куракі, які ў 1887 годзе збег з вучылішча. Аб гэтым можна дазнацца з кнігі І.Аляксандрава і Р.Грыгор’ева “Курако”, што выйшла ў вядомай серыі “Жизнь замечательных людей”.

А ў кнізе В.Д.Елагіна “Цель жизни”, дзе апавядаецца пра вядомага вучонага акадэміка М.Ф.Іванова, можна даведацца, як некаторыя выкладчыкі вучылішча здзекаваліся з навучэнцаў.

У 1890 годзе Горацкае земляробчае вучылішча адсвяткавала свой 50-гадовы юбілей.

Да юбілею М.А.Гудковым, які некаторы час працаваў загадчыкам фермы вучылішча, была выдадзена брашура “Краткий исторический очерк Горецких учебных заведений” (1890).

На юбілей адгукнуліся былыя выхаванцы земляробчай школы і інстытута. Так, выдатны вучоны-аграрнік А.В.Саветаў, выпускнік Горыгорацкага земляробчага інстытута, прыслаў з Пецярбурга прывітанне ўдзельнікам юбілейных свят са словамі: “Да воскреснет в лице Горецкого училища незабвенный Горыгорецкий институт – моя альма-матер!”

На жаль, гэтым прарочым словам не хутка было наканавана збыцца.

**69. Што адбылося з вучылішчам ў 1911 годзе?**

У 1911 годзе ў вучылішчы адбылася чарговая рэформа. Шасцігадовы курс навучання быў скарочаны да чатырох гадоў. Праўда, выхаванцы цяпер атрымлівалі званне агранома. Яны таксама мелі права працаваць настаўнікамі сельскагаспадарчых школ, павятовымі аграномамі.

Быў прыняты новы вучэбны план, па якому больш увагі ўдзялялася выкладанню спецыяльных дысцыплін. На тэарэтычныя заняткі адводзілася 25 тыдняў, да 20 тыдняў было адведзена на практычныя заняткі, астатні час – на экзамены і канікулы.

У вучылішча пачалі прымаць толькі тых, хто скончыў гарадскія двухкласныя вучылішчы ці паспяхова здаў уступныя экзамены.

Вырасла і аплата за навучанне: з 20 да 30 рублёў у год, а ўтрыманне ў пансіянаце – да 350 рублёў.

Гэта прывяло да таго, што стала менш навучэнцаў з сельскай мясцовасці.

Так, без якіх-небудзь змен працавала гэта навучальная ўстанова да Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года.

І толькі з таго часу пачалі ў вучылішчы выбіраць дырэктара, а навучэнцаў запрашаць да працы у педагагічным Савеце з дарадчым голасам.

**70. Хто працаваў дырэктарам і выкладчыкамі вучылішча?**

Дырэктарамі Горацкага земляробчага вучылішча працавалі П.М.Юрэвіч (1864–1865), М.П.Багалюбаў (1865–1875), М.М.Арнольд (1875–1899), І.І.Барсукоў (1899–1916) і С.С.Мянчынскі (1916–1918).

**М.П.Багалюбаў** (1821–1898) быў унукам А.М.Радзішчава. Скончыў марскі кадэцкі корпус і служыў афіцэрам на флоце, а потым быў на дзяржаўнай службе пры губернатары ў г. Віцебску і Пецярбургу.

Аўтар успамінаў пра яго ў рукапісе “Об виденном, услышанном, испытанном”, напісаным у 1891–1892 гадах і ненадрукаваным, які зараз знаходзіцца ў рукапісным аддзеле Расійскай публічнай дзяржаўнай бібліятэкі. У гэтых успамінах ёсць шмат цікавых фактаў з гісторыі земляробчага вучылішча.

Яму належыць таксама шэраг кніг па гісторыі рускага флоту. Напрыклад, кніга “Волга от Твери до Астрахани” (1862). Некаторыя яго кнігі былі ілюстраваны яго братам А.П. Багалюбавым, вядомым мастаком, прафесарам жывапісу, які бываў у Горках летам 1868 і 1873 гадоў.

Цікава, што пасля адстаўкі ён прыязджае ў Парыж для сустрэчы з братам, і там вядомы мастак І.М. Крамскі намаляваў яго партрэт. Ён зараз знаходзіцца ў Саратаўскім дзяржаўным мастацкім музеі імя А.Радзішчава, які яны разам з братам заснавалі.

**М.М.Арнольд** з'яўляўся аўтарам дапаможніка “Каталог насекомых Могилёвской губернии”(1901), выдадзенага ім пасля пераезду ў Пецярбург.

Пра дзейнасць і лёс астатніх, на жаль, невядома.

Выкладчыкамі ў вучылішчы ў канцы XIX–пач. XX стагоддзя працавалі вядомыя прафесары і выкладчыкі. Мы ўжо апавядалі пра прафесара Э.Ф.Рэго, які застаўся працаваць у Горках.

**А.К.Краўзе** (нар. у 1847 г.) у 1869 годзе скончыў Пецярбургскі земляробчы інстытут і атрымаў ступень кандыдата сельскай гаспадаркі і лесаводства. З 1871 года працаваў старшым настаўнікам у Горацкім вучылішчы.

Вядома, што ў Горках ён займаўся навуковымі даследаваннямі па вывучэнні біяхімічнага складу бульбы, распрацоўваў таксама пытанні лесаводства. З 1876 да 1893 год – дацэнт і прафесар кафедры лесаўпа-

радкавання і лясной таксацыі Новаалександрыйскага інстытута сельскай гаспадаркі.  Вядома, што там ён прадоўжыў даследаванні біяхімічнага складу клубняў бульбы, распрацоўваў пытанні  арганізацыі рацыянальнага выкарыстання лясных пасадак, лугоў і пашаў. Аўтар прац “Критическая оценка лесоустроительного метода Царства Польского” (1881); “Немецко-русский лесной словарь” (1889), “Народохозяйственное значение деятелей лесного производства” (1891). Змяшчаў артыкулы ў “Записках Новоалександрийского института”, “Лесном журнале”. Пад яго рэдакцыяй выйшла кніга  нямецкага вучонага Гангглофа “Лесное опытное дело” (1882).

Вядомым выкладчыкам быў **М.В.Найдзёнаў,** які ў 1911 годзе скончыў Маскоўскі сельскагаспадарчы інстытут. З 1911 да 1919 года працаваў выкладчыкам заалогіі, анатоміі і фізіялогіі жывёл у Горацкім земляробчым вучылішчы. З 1920 па 1938 год выкладаў спачатку ў Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце, а затым у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі.

У Горках ён праводзіў цікавыя доследы па вырошчванні маладняка буйной рагатай жывёлы і коней, выкарыстоўваючы розныя нормы кармлення, вывучаў пашавы спосаб утрымання кароў, праводзіў фізіялагічныя доследы трусаў і іншых жывёл. Шмат часу ён удзяляў распрацоўцы матэматычнага метаду апісання вагавага і лінейнага росту маладняка буйной рагатай жывёлы. Яго ідэі і метады выкарыстоўваюцца і зараз у навуковых даследаваннях. Доктар сельскагаспадарчых навук (1938) і прафесар (1922), М.В.Найдзёнаў у 1940 годзе быў абраны член-карэспандэнтам АН БССР. З 1938 года працаваў загадчыкам кафедры у Смаленскім, Чувашскім і Кішынёўскім сельскагаспадарчых інстытутах. У гонар М.В.Найдзёнава ў 10-м корпусе Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**М.Курдзякоў** працаваў выкладчыкам вучылішча ў 1880–1890 гг. Надрукаваў у “Трудах Вольного экономического общества” (СПб., 1879) апісанне аднаго з найлепшых маёнткаў А.Д.Мянжынскага – узорнай гаспадаркі ў Магілёўскай губерні. Спачатку кіраўніком, а затым гаспадаром гэтага маёнтка быў выпускнік Горыгорацкага земляробчага інстытута І.А.Мянжынскі.

Выкладчыкам рускай мовы  перад рэвалюцыяй 1917 года быў **Я.М.Кцітараў**, аўтар кнігі “Вопросы религии и морали в русской художественной литературе” (1909).

**А.Б.Ман** выкладаў сельскагаспадарчую эканомію і рахункаводства, **М.Е.Паляшчук** – раслінаводства, **Ю.А.Вейс** – курс будаўнічага

мастацтва і вучэння аб сельскагаспадарчых машынах і прыладах, **А.Р.Чэрапаў** вёў заняткі па заалогіі і жывёлагадоўлі.

**71. Што вядома пра самага славутага выкладчыка вучылішча М.В.Рытава?**

**М.В.Рытаў** (1846–1920) у 1861 годзе па патрабаванні бацькі паступае на юрыдычны факультэт Маскоўскага універсітэта, які заканчвае ў 1871 годзе. Вучоба ва універсітэце цягнулася аж дзесяць гадоў у сувязі з тым, што памёр бацька. Прыходзілася спыняць заняткі і працаваць: даваць урокі.

Аднак захапленне прыродазнаўчымі навукамі перамагло юрыспрудэнцыю і праз некалькі гадоў прывяло Міхаіла Васільевіча на прыродазнаўчае аддзяленне фізіка-матэматычнага факультэта таго ж Маскоўскага універсітэта. Ён паспяхова вучыцца і пад кіраўніцтвам К.А.Ціміразева актыўна займаецца даследаваннем фізіялогіі раслін.

У 1878 годзе вучоба была закончана і М.В.Рытаў апынуўся перад выбарам: працаваць на кафедры батанікі ва універсітэце, выкладаць у Пятроўскай (зараз Ціміразеўскай) акадэміі ці ў Горацкіх вучэбных установах. Ён выбірае Горкі.

Пад кіраўніцтвам вядомага рускага вучонага прафесара І.М.Гаражанкіна ён абараніў магістэрскую дысертацыю “Органография цветковых растений”. З 1879 па 1920 год працаваў у Горацкіх сярэдніх навучальных установах і ў Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце. Адзін з заснавальнікаў навуковага агародніцтва і пладаводства ў Беларусі. Арганізаваў першы пладовы гадавальнік, памалагічны сад і доследнае поле для вывучэння агароднінных культур, якое на сённяшні дзень у г. Горкі носіць назву “рытовские огороды”. У 1887 годзе складзеная вучнямі земляробчага вучылішча пад кіраўніцтвам М.В.Рытава калекцыя “Ботанический огород” была адзначана на выставе ў Маскве залатым медалём.

У 1918 годзе М.В.Рытаў быў абраны прафесарам Петраградскага агранамічнага інстытута, а затым і Варонежскага сельскагаспадарчага інстытута, аднак ён застаецца ў Горках і з 1919 года кіруе кафедрай батанікі ў Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце. Аўтар больш за 1000 навуковых прац. Сярод іх такія як “Огородничество”, “Плодоводство”, “Ягодники”, “Русские лекарственные растения” і г.д. Цікава, што тэматычная падборка ўрыўкаў з кніг М.В.Рытава ўвайшла ў “Антологию мировой философии” (Философская и социологическая мысль народов СССР XIX в. М., 1972. Т.4. С. 534–539), побач з ім надрукаваны працы яшчэ трох беларускіх мысліцеляў К.С.Каліноўскага, Ф.К.Багушэвіча і

А.К.Гурыновіча. Рытаў быў таксама аўтарам адзінага ў гісторыі беларускай літаратуры вядомага твора, напісанага ў XIX стагоддзі ў форме навуковай фантастыкі і сацыяльнай утопіі. Гэта раман "Путевые заметки и воспоминания 1889–1898 гг.", рукапіс якога захоўваецца ў фондах бібліятэкі Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі.

М.В.Рытаву ў 1964 годзе каля 4-га корпуса акадэміі быў устаноўлены помнік.

**72. Хто з выхаванцаў земляробчага вучылішча стаў вядомым вучоным?**

**М.Ф.Іваноў** (1871–1935) скончыў Горацкае земляробчае вучылішча ў 1893 годзе. Затым двухгадовую банітэрскую школу ў Дзеркачах пад Харкавым. Потым вучыўся ў Харкаўскім ветэрынарным інстытуце, у якім яшчэ студэнтам чытаў курс лекцый па жывёлагадоўлі.

Праявіў цікавасць да навукова-даследчай працы, і яго студэнцкая праца "Изменение азотистых веществ овса под влиянием плесневения" была ўзнагароджана сярэбраным медалём інстытута.

Сваю практычную дзейнаць ён пачаў з пасады земскага ветэрынарнага ўрача ў горадзе Кромы Арлоўскай губерні.

У 1898 годзе яго накіроўваюць у навуковую камандзіроўку ў Германію, Швейцарыю, Галандыю і Італію. Свае назіранні ён надрукаваў у часопісе "Хозяин" у 1899–1900 гг.

У 1900 годзе ён атрымлівае запрашэнне Харкаўскага інстытута чытаць курс жывёлагадоўлі. Там жа праз тры гады абараніў магістэрскую дысертацыю на тэму "К вопросам об изменении азотистых веществ в плесневых кормах", што паслужыла асновай для зацвярджэння яго загадчыкам кафедры жывёлагадоўлі інстытута.

З 1914 года працаваў у Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі, Маскоўскім заатэхнічным інстытуце і Камуністычным універсітэце.

Ужо пасля Кастрычніка 1917 года ён арганізаваў у дзяржаўным запаведніку "Аскания-Нова" племянную заатэхнічную станцыю (зараз гэта Украінскі навукова-даследчы інстытут жывёлагадоўлі стэпавых раёнаў імя М.Ф.Іванова).

Ён прапанаваў навукова-абгрунтаваную методыку і сістэму мерапрыемстваў для вывядзення новых і ўдасканалення наяўных парод свіней і авечак. Там ён вывеў новую асканійскую пароду авечак і украінскую белую пароду свіней.

У 1929 годзе яму было прысвоена званне заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі РСФСР. У 1934 годзе без абароны дысертацыі прысуджана вучоная ступень доктара сельскагаспадарчых навук.

Быў абраны акадэмікам Усесаюзнай акадэміі сельскагаспадарчых навук, дзе кіраваў секцыяй жывёлагадоўлі. У 1968 годзе гэтая акадэмія заснавала залатую медаль імя М.Ф.Іванова.

Аўтар прац "Каракулеводство на юге России" (1914), "Волошские овцы" (1925), "Сельскохозяйственное птицеводство" (1931), "Каракульские смушки"(1932), "Овцеводство" 1935), "Свиноводство"(1937), "Курс овцеводства" (1950), Полн. собр. соч., т. 1–7 (1963–1965). Некаторыя кнігі вытрымалі па некалькі выданняў.

Памятаюць свайго выхаванца і ў Горках. Яму каля 4-га корпуса Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі ўстаноўлены помнік.

**Э.К.Безайс** – вядомы рускі даследчык флоры і фауны Камчаткі і Сахаліна. Пасля заканчэння вучылішча выкладаў у школах Чарапаўца, а затым больш за 10 гадоў працаваў на Сахаліне аграномам турэмнага ведамства і кіраваў устройствам ссыльных пасяленцаў.

У перыяд акупацыі Сахаліна японцамі быў прыгавораны да расстрэлу, аднак прыгавор не быў выкананы. Замест гэтага ён быў вывезены ў Японію.

Пасля вяртання ў Расію скончыў Пецярбургскі універсітэт і ажыццявіў шэраг паездак і экспедыцый па пабярэжжы Белага мора і Камчаткі. З 1911 года жыў у Амурскай губерні і кіраваў доследным полем Гош.

Аўтар шэрагу навуковых прац па клімаце, флоры і вырошчванні сельскагаспадарчых культур у розных раёнах Камчаткі і Сахаліна: "О водном режиме участков Гош  и Стан в Амурскай губернии" (1918), "Новый способ определения объёмной влажности и запаса воды в почве" ("Болотоведение", 1917, вып.1) і інш.

**М.І.Кічуноў** скончыў вучылішча ў 1887 годзе, а затым да 1892 года працаваў выкладчыкам у Бабруйскай школе садаводства. Доктар сельскагаспадарчых навук (1934), заслужаны дзеяч навук РСФСР (1936), аўтар значнай колькасці кніг, манаграфій і падручнікаў па садаводству, агародніцтву і дэкаратыўнаму садаводству: "Культура розы в открытом грунте" (1910), "Альбом 300 лучших сортов роз" (1911).

**73. Як у гэты час працавалі земляробча-каморніцкія классы?**

Другой па значэнні навучальнай установай Горак былі земляробча-каморніцкія класы, якія былі адкрыты ў 1859 годзе. Яны рыхтавалі каморнікаў. Як і земляробчае вучылішча, яны пасля закрыцця інстытута былі пакінуты ў Горках і працавалі па старых вучэбных планах. І толькі ў 1876 годзе іх пачалі змяняць. Сталі выкладаць матэматыку, фізіку, хімію і рускую мову.

Прымалі ў класы 20-30 навучэнцаў. І толькі ў сувязі з правядзеннем Сталыпінскай аграрнай рэфомы колькасць навучэнцаў рэзка ўзрасла. Так, у 1906–1907 навучальным годзе вучылася ўжо 108 чалавек.

Ёсць сведчанне аб сацыяльным складзе навучэнцаў. Напрыклад, у 1908 годзе з дваран вучылася 14 чалавек, дзяцей чыноўнікаў – 5, духоўнага звання – 2, купцоў – 2, асабістых ганаровых грамадзян –1, мяшчан – 32, сялян – 39.

Вучыліся ў класах усяго два гады. Зімой вывучалі тэарэтычныя прадметы, а летам групамі па 7–8 чалавек займаліся геадэзічнымі здымкамі.

Усе вучні жылі на прыватных кватэрах і вучыліся за свой кошт. Лепшым навучэнцам дазвалялася выдаваць стыпендыю ў памеры 120 рублёў у год.

Выхаванцы класаў атрымлівалі атэстат на званне прыватнага каморніка.

**74. Што адбылося з класамі ў 1909 годзе?**

У красавіку 1909 года класы былі пераўтвораны ў каморніцка-аграномічнае вучылішча з шасцігадовым тэрмінам навучання.

У новым “Положении…” было запісана: “Горецкое землемерно-агрономическое училище есть среднее учебное заведение, имеющее целью образования межевых техников, сведущих в сельском хозяйстве и умеющих производить несложные работы по таксации и коренным улучшениям земельных угодий…”.

Згодна з “Положением…”, “…лица, окончившие полный курс училища, при поступлении на государственную службу пользуются правом окончивших курс в средних общеобразовательных учебных заведениях…

…Лица, окончившие полный курс училища, получают звание частного землемера-агронома и в отношении отбывания воинской повинности пользуются правом окончивших курс в учебном заведении 1-го разряда”.

Была ўстаноўлена плата за навучанне: ад 10 да 30 рублёў у год. Праўда, было і 60 казённых стыпендый. На гэтыя месцы быў вялікі конкурс.

Вучань вучылішча Максім Гарэцкі (у далейшым класік беларускай літаратуры) расказваў у газеце “Наша ніва”: “Можна сказаць, што вучні з'язджаюцца з усіх куткоў Расіі, бо бедакоў прымушае шукаць асветы тое, што вучылішча мае шэсцьдзесят 180-рублёвых стыпендый”.

Вучні, якія карысталіся гэтымі стыпендыямі, павінны былі адпрацаваць у “Ведомстве главного управления землеустройства и земледелия” па аднаму году за кожны год карыстання стыпендыяй.

Так, вышэйназваны намі М.Гарэцкі ў чэрвені 1913 года закончыў вучылішча. І перад ім паўстала пытанне аб накіраванні на працу. У яго асабістай справе, якая знаходзіцца ў абласным архіве Магілёўскай вобласці, ёсць ліст загадчыка каморніцкай часткі землеўпарадкавальнай камісіі Магілёўскай губерні аб накіраванні яго на працу ў Магілёў. У лісце была ўказана і сума гадавой зарабатнай платы – 900 рублёў у год.

Аднак ён атрымаў адказ, што будзе накіраваны ў Вільню і павінен адпрацаваць “…число лет, равное времени пользованию казенной стипендией”.

Цікава, што навучаліся ў Горках амаль з усіх куткоў Расіі, але найбольш усяго навучэнцаў было з Магілёўскай, Ліфляндскай, Смаленскай, Мінскай, Віцебскай і Кіеўскай губерняў.

Вучэбны план вучылішча па новаму “Положению…” уключаў 26 прадметаў. Сярод іх, акрамя спецыяльных, былі і такія, як руская мова, гісторыя, геаграфія, сельскагаспадарчая эканоміка і інш.

**75. Хто кіраваў каморніцка-агранамічным вучылішчам і што вядома пра яго настаўнікаў?**

З кіраўнікоў вучылішча вядома толькі пра **Л.У.Горскага.** Ён скончыў Маскоўскі межавы інстытут і акрамя таго, што быў дырэктарам вучылішча, выкладаў геадэзію, алгебру і геаметрыю. Выхаванец вучылішча Дз.Р.Новікаў успамінаў, што ён разам з сябрамі пад яго кіраўніцтвам “за шесть лет учебы исходил с теодолитом, мензулой и нивелиром все поля фермы и окрестных деревень”.

Пасля таго як быў узноўлены Горацкі інстытут, працаваў прафесарам, загадваў кафедрай тапаграфічнага чарчэння і малявання.

Выкладчыкамі вучылішча працавалі **І.І.Красікаў** (хімія), **С.Г.Цітовіч** (руская мова, гісторыя і геаграфія), **М.В.Рытаў** (прыродазнаўства), **І.І.Хрысценка (**будаўнічая справа, архітэктура і чарчэнне), **М.М.Высоцкі** (мінералогія) і інш.

**І.І.Красікаў** (1875–1943) нарадзіўся ў Томску. З 1896 года вучыўся ў Пецярбургскім лясным інстытуце, але быў выключаны за ўдзел у рэвалюцыйным руху. У 1909 годзе скончыў Томскі тэхналагічны інстытут. З 1910 года працаваў у Горацкіх навучальных установах, а затым у Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце. Прымаў актыўны ўдзел у адраджэнні Горацкага сельскагаспадарчага інстытута, стаў прафесарам.

З 1925 па 1940 год – загадчык кафедры неарганічнай і аналітычнай хіміі. Аўтар шматлікіх навуковых прац па хіміі і хімічнай тэхналогіі.

**С.Г.Цітовіч** на працягу ўсяго жыцця вывучаў гісторыю Горыгорацкага земляробчага інстытута, стаў кандыдатам педагагічных навук і выдаў фундаментальную працу “Горыгорецкий земледельческий институт” (1960).

**І.І.Хрысценка** выкладаў у вучылішчы будаўнічую справу, архітэктуру і чарчэнне. Паводле ўспамінаў выхаванцаў, быў вельмі добрым настаўнікам. Пасля 1919 года працаваў у Горацкім сельскагаспадарчым інстытуце, а затым у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі на землеўпарадкавальным факультэце (кафедра планіроўкі сельскіх населеных месц). Выкладаў прадмет “Дарожная справа і сельскагаспадарчыя пабудовы”. У 1930 годзе атрымаў званне дацэнта. На жаль, далейшы лёс яго невядомы.

**76. Ці захаваліся ўспаміны пра гады навучання ў вучылішчы былых выхаванцаў?**

Так, былы выхаванец М.М.Ганчарык, які потым стаў доктарам біялагічных навук, прафесарам, член-карэспандэнтам АН БССР, заслужаным дзеячам навукі БССР, у сваёй кнізе “Шлях ад пачатку стагоддзя” пра ўражанне, якое пакідала тэрыторыя школы ў вучняў, што ўпершыню прыязджалі ў Горкі, пісаў: “А сама школа мяне проста зачаравала. Дзівосны стары парк, сярод якога раскінуты трохпавярховыя будынкі школы, далей будынкі каморніцка-агранамічнай школы, а затым рамесніцкай школы – усё гэта разам з рознымі службамі хавалася ў зяляніне прысад, кветнікаў, паркаў. Усе гэтыя школы мясціліся збоку самога гарадка, схаваныя ў глыбіні цудоўнага парка – новага і старога, бярозавага гаю, у аздобах зараслі бэзу, язміну, іншых хмызнякоў і дрэў. Гэтае, нібы нейкае царства ў гарадку, насіла назву “будаванні”, што захавалася на працягу амаль ста гадоў...”.

Аб арганізацыі навучальнага працэсу ў вучылішчы ён успамінаў: “Жыць вучням на прыватных кватэрах у горадзе ці на Слабадзе і Зарэччы не дазвалялася і ў выключных выпадках магло быць толькі з дазволу Дэпартамента Міністэрства земляробства...

Пасля пад’ёму ў 7 гадзін да 8 гадзін мы павінны быць у сталоўцы – гэта на першым паверсе гэтага ж будынка, і пасля агульнай малітвы снедалі, заняўшы кожны вызначанае месца за сталом. У 9 гадзін павінны былі быць у класе на занятках згодна з раскладам. Пасля трох урокаў, у 12 гадзін, у сталовай давалася невялікая закуска, з 1-й гадзіны да 3-й зноў заняткі ў класе, і ў 4 гадзіны полудзень, пасля якога даваўся адпа-

чынак да 18 гадзін. Два разы на тыдзень з 18 да 20 гадзін праводзіліся практычныя заняткі ў лабараторыях па хіміі, мінералогіі і інш. У 20 гадзін адбывалася вячэра, пасля якой да 22 гадзін ішла падрыхтоўка ўрокаў у сваім жа класе пад пільнай увагай наглядчыка... З 22 гадзін давалася падрыхтоўка да сну. Можна было крыху прайсціся па сядзібе ці парку, а ў 23 гадзіны ўсе павінны былі быць у пасцелі.

Кожную суботу на ложках мянялася бялізна і клаліся чыстыя кашулі і парткі, каб з імі ісці ў лазню. Верхняе адзенне, як і рознае другое, у тым ліку пасцельная і нацельная бялізна, замацоўваліся за вучнямі.

Лазні меліся дзве. Адна, цагельная, знаходзілася недалёка за жылымі будынкамі і прызначалася для настаўніцкага персаналу і іншых працаўнікоў, якія абслугоўвалі школу. Для вучняў мелася другая, драўляная, лазня, якая знаходзілася крыху ніжэй за першую...

Склад вучняў майго класа быў вельмі пярэсты. Каго толькі тут не было! З Прыбалтыкі – латышы і эстонцы, палякі, украінцы, адзін данскі казак, яўрэй, адзін карэл, беларусы і рускія...”.

**77. Хто з выхаванцаў каморніцка-агранамічнага вучылішча стаў вядомым вучоным?**

Гэта Г.І.Гарэцкі, І.І.Агроскін, С.Г.Коляснеў, А.Г.Мядзведзеў, К.А.Сакс і М.М.Ганчарык.

**Г.І.Гарэцкі** (1900–1988), родны брат М.Гарэцкага, скончыў вучылішча ў 1918 годзе. Працаваў ва Уфе і Маскве, а потым з 1920 года вучыўся на эканамічным факультэце Маскоўскай сельскагаспадарчай акадэміі. Там стварыў “Белорусскую культурно-научную ассоциацию студентов”, пачаў займацца навуковай дзейнасцю і напісаў працу “Изучение Белоруссии как фактор ее возрождения”.

Вучыўся ў аспірантуры акадэміі, а з канца 1925 па пачатак 1927 года працаваў загадчыкам кафедры сельскагаспадарчай эканомікі і эканамічнай геаграфіі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Актыўна займаўся навуковымі даследаваннямі і ў выніку надрукаваў працы “Национальный доход Беларуси” (1926), “Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы (нацыянальны склад насельніцтва Заходняй Беларусі)” (1928).

У 1927–1930 гг. быў дырэктарам Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі пры Саўнаркаме БССР. Абіраўся членам ЦВК БССР, а калі была створана Акадэмія навук БССР, быў

абраны акадэмікам. Гэта быў самы малады акадэмік за ўсю гісторыю акадэміі.

У 1930 годзе па інсперыраваных АДПУ справах Саюз вызвалення Беларусі (СВБ) і Беларускі філіял Працоўнай сялянскай партыі (ПСП) Гарэцкі Г.І. быў асуджаны да расстрэлу. Гэта пакаранне замянілі зняволеннем у канцлагер тэрмінам на 10 годоў. Ён быў сасланы ў Салаўкі, але затым трапіў на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала ў Карэлію.

У 1937 годзе Г.І.Гарэцкага зноў арыштавалі і ў другі раз прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання. Але зноў яму пашанцавала – не расстралялі.

У гады Вялікай Айчыннай вайны працаваў на будаўніцтве абарончых збудаванняў, пасля вайны ўдзельнічаў у будаўніцтве Волжскай, Саратаўскай, Кахоўскай ГЭС, Волга-Данскога, Азоўскага і іншых будоўлях.

За час працы Г.І.Гарэцкі сабраў вялікі матэрыял і абагульніў яго ў кандыдатскай (1945), а потым у доктарскай (1946) дысертацыях.

У 1958 годзе быў рэабілітаваны, а “дело за отсутствием состава преступления прекращено”. У 1965 годзе Г.І.Гарэцкі быў адноўлены ў званні акадэміка АН БССР.

Надрукаваў кнігі: “Аллювий великих антропогеновых прарек Русской равнины. Прареки Камского бассейна” (1964) и “Формирование долины р. Волги в раннем и среднем антропогене. Аллювий Пра-Волги” (1966), “Аллювиальная летопись великого Пра-Днепра” (1971). За гэтыя працы атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР (1971).

Гэтымі манаграфіямі ён заклаў аснову новага накірунку геалагічнай навукі – палеапатамалогіі. І на гэтую тэму надрукаў дзве кнігі: “Особенности палеопотамологии ледниковых областей (на примере Белорусского Понемонья)” (1980) и “Палеопотамологические эскизы Палео-Дона и Пра-Дона” (1982).

У 1966 годзе пераязджае ў Мінск і працуе ў Інстутуце геахіміі і геафізікі АН БССР. Больш за 60 вучоных лічаць яго сваім настаўнікам, а 12 з іх абаранілі кандыдацкія дысертацыі.

У 1986 годзе яму была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР “За разработку и внедрение научных основ геологии антропогена и геоморфологии в практику геологоразведочных работ в республике”.

Г.І.Гарэцкі быў членам многіх міжнародных, усесаюзных і рэспубліканскіх навуковых таварыств, членам рэдкалегій многіх навуковых часопісаў.

Узнагароджаны 14 ордэнамі і медалямі. З 1990 годзе ў інстытуце, дзе ён працаваў (зараз Інстытут геалагічных навук Акадэміі навук Беларусі), праводзяцца навуковыя чытанні памяці вучонага, а на будынку інстытута ўстаноўлена мемарыяльная дошка з яго імем.

**І.І.Агроскін** (1900–1968) скончыў вычылішча ў 1918 годзе. Удзельнічаў у грамадзянскай вайне. Пасля паступіў на гідрамеліярацыйны факультэт Горацкага сельскагаспадарчага інстытута і быў пакінуты для падрыхтоўкі да выкладчыцкай дзейнасці. У пачатку 1927 года быў абраны выкладчыкам кафедры гідраўлікі Сібірскага інстытута сельскай гаспадаркі і лесаводства (г.Омск). За 11 гадоў працы прайшоў шлях ад асістэнта да прафесара і загадчыка кафедры. У 1938 годзе абараніў доктарскую дысертацыю. Працаваў намеснікам дырэктара і дырэктарам Омскага сельскагаспадарчага інстытута.

У 1939 годзе быў прызначаны намеснікам старшыні Усесаюзнага камітэта па справах Вышэйшай школы пры СНК СССР, адначасова працаваў у Маскоўскім гідрамеліярацыйным інстытуце. З 1948 па 1955 год – дырэктар гэтага інстытута.

Стварыў навуковую школу, і 49 яго навучэнцаў абаранілі кандыдатскія дысертацыі, а трое – доктарскія.

Ён надрукаваў звыш 50 навуковых прац, а падручнік “Гидравлика” (у сааўтарстве і пад яго рэдакцыяй) вытрымаў некалькі выданняў і быў перакладзены на многія замежныя мовы.

**С.Г.Коляснеў** (1900–1970) скончыў вучылішча ў 1918 годзе. Ён успамінаў: “…*Я сохранил об этом замечательном учебном заведении тёплые воспоминания и добрую память. Эта замечательная школа дала стране ряд крупных деятелей не только в области землеустройства, но и в области сельского хозяйства*”.

Потым вучыўся ў Маскоўскім межавым інстытуце (зараз універсітэт геадэзіі і картаграфіі). У 1924–1924 гг. працаваў выкладчыкам, дацэнтам, прафесарам і дэканам факультэта.

У 1928–1936 гг. быў дырэктарам Сібірскага інстытута сельскай гаспадаркі і лесаводства (г.Омск), потым працаваў начальнікам Галоўнага ўпраўлення вышэйшых навучальных устаноў Наркамзема СССР, дырэктарам Маскоўскай сельскагаспадарчай акадэміі.

У часы вайны ўзначаліў полк народнага апалчэння, які абараняў Маскву. Але ў 1942 годзе быў дэмабілізаваны і ўзначаліў Самаркандскі філіял МСГА.

З 1943 па 1970 год працаваў загадчыкам кафедры эканомікі акадэміі.

Ён першым у краіне прапанаваў новую методыку абследавання, вывучэння і камбінаванай групоўкі сялянскіх гаспадарак. З'яўляецца адным з распрацоўшчыкаў пытанняў адводу і асваення зямель пры масавай арганізацыі саўгасаў у раёнах Казахстана, сістэмы аплаты працы ў калгасах у адпаведнасці з вынікамі працы.

У 1956 годзе абараніў доктарскую дысертацыю. А ў 1958 годзе яму было прысвоена званне заслужанага дзеяча навукі СССР, і ён быў абраны акадэмікам УАСГНІЛ.

Яшчэ ў 1947 годзе С.Г.Коляснеў выдае падручнік “Организация социалистических сельскохозяйственных предприятий” (ён перавыдаваўся ў 1960 і 1968 гг.). З’яўляўся аўтарам шматлікіх прац, у тым ліку 27 кніг і брашур. Узнагароджаны 9 ордэнамі і медалямі.

**М.М.Ганчарык** (1899–1986) у верасні 1917 года паступае на вучобу ў Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча. “У восень 1917 г., – успамінаў М.М.Ганчарык, – з’явіўся гурток “Беларуская секцыя вучняў горацкіх сельскагаспадарчых школ”. Гурток меў статут, які быў зацверджаны Горацкім выканкамам… З самага пачатку дзейнасці гурток праяўляў вялікую актыўнасць у розных напрамках. Вучнёўскі клуб быў забяспечаны беларускай літаратурай, для чытання лекцый запрашаліся маскоўскія прафесары. Была арганізавана тэатральная група… За перыяд з 1917 па 1925 год вучнямі, а затым студэнтамі ў Горках было пастаўлена каля 26 спектакляў на беларускай мове” (Памяць. Горацкі раён. Мн., 1996. С. 148).

У 1919 годзе Горацкія сярэднія сельскагаспадарчыя ўстановы былі рэарганізаваны ў Горацкі сельскагаспадарчы інстытут і навучэнцы 3-га курса Горацкіх вучылішчаў сталі студэнтамі інстытута. М.М.Ганчарык пачаў вучыцца на сельскагаспадарчым факультэце.

Пасля заканчэння сельскагаспадарчага інстытута быў накіраваны на працу ў Оршу, дзе са студзеня 1925 года загадваў аддзелам народнай асветы.

У 1926 годзе яго запрасілі на працу асістэнтам кафедры фізіялогіі раслін Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі.

У 1929 годзе М.М.Ганчарык пераехаў у Мінск, працаваў загадчыкам кафедры батанікі інстытута біялогіі АН БССР. Праз два гады быў прызначаны намеснікам дырэктара інстытута і выконваў абавязкі дырэктара. У 1933 годзе яму прысвоілі званне прафесара (ён выкладаў і загадваў кафедрай батанікі і фізіялогіі Беларускага садова-агародніцкага інстытута ў Лошыцах).

Восенню 1933 года органамі ДПУ ён быў арыштаваны і прыцягнуты па справе Беларускага нацыянальнага цэнтра.

У 1956 годзе ў лісце, які накіраваў М.М.Ганчарык на імя М.С.Хрушчова, пісалася: "…Восенню 1933 года органамі НКУС БССР ... я быў арыштаваны, не маючы за сабой ніякай віны …Мяне зрабілі во-рагам народа, заставілі пад дыктоўку следчага пісаць ілжывыя паказан-ні на сябе і многіх іншых знаёмых..." (У.Адамушка. Запозненае прыз-нанне //Беларуская мінуўшчына. 1995. №2. С. 29–30).

У студзені 1934 года яго асудзілі на 7 год знаходжання ў лагерах. Гэты тэрмін расцягнуўся аж да 1947 года.

У 1947–1949 гадах працаваў старэйшым навуковым супрацоўнікам Арлоўскай бульбяной доследнай станцыі.

У 1949 годзе зноў арышт. Да ранейшага абвінавачвання як "ворага народа" следчыя дабавілі нешта фантастычнае – маўляў, М.М.Ганчарык пры закладцы батанічнага сада ў Мінску невыпадкова зрабіў так, каб алеі ад цэнтра разыходзіліся сіметрычна. Гэта для таго, каб фашысцкім лётчыкам было лепей бамбіць Мінск. (А.Марціновіч. Выходзіў на ніву Сявец…// ЛіМ. 1990. 7 студзеня).

І новы прыгавор – дзесяць гадоў ссылкі. Да 1956 года працаваў на Поўначы ў г. Ігарка Краснаярскага краю. Праўда, і там займаўся навуковай працай, вывучаў магчымасць вырошчвання гародніны на Поўначы.

У ліпені 1954 года ён быў вызвалены, а ў 1956 годзе рэабілітаваны.

З 1956 года пачаў працаваць старэйшым выкладчыкам кафедры агароднiцтва БСГА, а з верасня 1958 года пераязджае ў Мінск і працуе старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута біялогіі АН БССР, затым загадчыкам аддзела фотасінтэзу, а з 1967 года – дырэктарам Інстытута эксперыментальнай батанікі АН БССР.

Вядома, што М.Ганчарык унёс значны ўклад у распрацоўку фізіялогіі раслін, падрыхтаваў 16 кандыдатаў і 3 дактары навук.

Толькі ў 70 год яго, вядомага вучонага, доктара навук, прафесара, выбралі член-карэспандэнтам АН БССР, а ганаровае званне заслужанага дзеяча навукі БССР прысвоілі ў 73 гады.

Ён аўтар прац "Уплыў ультрафіялетавых праменняў на ўтварэнне антацыяніну ў раслінах (1932); "Влияние экологических условий на физиологию культурных растений" (1962), "Перенос ионов мембранами растительных клеток" (1977), "Фізіялогія і біяхімія бульбы" 1979 (у сааўт.).

**Л.М.Лайкоў** (1897–1971) скончыў Горацкае каморніцка-землеробчае вучылішча ў 1918 годзе. Потым вучыўся ў Маскоўскай сельскагас-

падарчай акадэміі, прычым адразу на двух факультэтах – агранамічным і эканамічным. Пасля заканчэння працаваў у Мінску, а з 1925 па 1927 год – у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі.

У 1931–1934 гг. – загадчык адзела Навукова-даследчага інстытута эфірамасляных культур у Маскве. У 1935 годзе быў арыштаваны, знаходзіўся ў заключэнні ў Марыінску. Пакаранне адбываў аж да 1955 года. У 1956 годзе быў рэабілітаваны і працаваў старшым выкладчыкам, дацэнтам кафедры раслінаводства Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Там жа абараніў кандыдатскую дысертацыю. Узнагароджаны медалямі.

**У.І.Кіркор** (1886–1938) родам з Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губерні. Скончыў Горацкае каморніцка-земляробчае вучылішча, потым матэматычны факультэт Санкт-Пецярбургскага універсітэта. У 1909 годзе абараніў магістэрскую дысертацыю і з 1910 па 1919 год працаваў у каморніцка-земляробчым вучылішчы.

У 1919–1920 гг. прымаў актыўны ўдзел у аднаўленні Горацкага сельскагаспадарчага інстытута і быў абраны першым яго дырэктарам. У Горках ён выдаў кнігі: "Математические методы землеустроительного проектирования", "Землеустроительное проектирование". Яму належаць дзве арыгінальныя працы: "Проектирование полос формы трапеции аналитическим методом" і "К вопросу о проектировании полос", выдадзеныя ў "Записках Белорусской государственной академии сельского и лесного хозяйства".

Потым працаваў прафесарам у Сібірскім інстытуце сельскай гаспадаркі і лесаводства (г.Омск). У 1928–1929 гг. быў там загадчыкам кафедры землеўпарадкавання і праектавання.

Як адзначаў доктар эканамічных навук С.М.Волкаў у артыкуле "Понятие землеустройства, его место и роль в общественном производстве", У.І.Кіркорам і іншымі вучонымі было закладзена тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне сутнасці землеўпарадкавання. Гэтыя вучоныя лічылі, што ў аснове землеўпарадкавання ляжаць тэхнічныя дзеянні па прыстасаванні зямельных плошчаў да сацыяльна-вытворчых мэт і задач.

У 1937 годзе ён быў рэпрэсіраваны. Загінуў у 1938 годзе.

Выхаванцам вучылішча быў **Дз.Р.Новікаў**, заслужаны дзеяч культуры БССР. З 1919 па 1976 год ён працаваў дырэктарам бібліятэкі акадэміі (аб ім падрабязны нарыс будзе надрукаваны ў другой частцы кнігі).

**78. Што вядома пра выхаванца вучылішча Максіма Гарэцкага, які стаў класікам беларускай літаратуры?**

**Максім Гарэцкі** (1893–1938) нарадзіўся ў вёсцы Малая Багацькаўка на Магілёўшчыне ў сялянскай сям'і. Брат пісьменніка, Гаўрыла, вядомы беларускі вучоны-геолаг, прыгадвае дзіцячыя гады ў сям'і Гарэцкіх: “Жылі мы бедна, кожная луста хлеба, кожная лыжка былі на ўліку…”.

У 1908 годзе ён паступае ў каморніцка-агранамічнае вучылішча. Вясковага юнака вабіла не столькі будучая прафесія, колькі магчымасць без асаблівых грашовых затрат працягваць адукацыю.

У фондзе Горацкіх вучэбных устаноў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі мы знайшлі “Дело о присвоении звания землемера-агронома Горецкому Максиму Ивановичу” (Фонд 2260, вопіс 2, справа 1734). У ім прашэнне Максіма “... допустить меня к испытательному экзамену”. Яно датуецца 19 чэрвеня 1909 года.

На жаль, у архіўнай справе адсутнічаюць матэрыялы аб тым, як праходзіла вучоба М.І.Гарэцкага ў вучылішчы. Праўда, у справе №543 таго ж фонда ў “Ведомостях о переводных экзаменах учеников землемерно-агрономического училища в 1912 г.” мы знайшлі, што Гарэцкі М.І. меў “выдатна” па 23 прадметах і па практыцы і 4,5 (была і такая адзнака) па глебазнаўству.

За гады вучобы ён не толькі атрымлівае спецыяльнасць, але і далучаецца да літаратуры. Як успамінае брат пісьменніка, акадэмік АН Беларусі Гаўрыла Іванавіч, у вучылішчы пад кіраўніцтвам Максіма было створана “невялікае таварыства аматараў беларускай літаратуры”. У Горках юнак займаўся чатыры гады, якія сталі асаблівымі ў плане фарміравання светапоглядных прынцыпаў пісьменніка, вызначэння яго-ных літаратурна-эстэтычных прыхільнасцяў.

Менавіта ў вучылішчы Максім пазнаёміўся з дэмакратычнымі публікацыямі “нашаніўскіх” аўтараў, усур'ёз захапіўся вывучэннем фальклору, творчасцю беларускіх пісьменнікаў.

З Горак ён пасылае ў газету “Наша ніва” у 1912–1913 гг. спачатку карэспандэнцыі, а потым фельетоны і першыя апавяданні за подпісам “Максім Беларус”.

Большасць апавяданняў, апублікаваных у газеце, неўзабаве і склала змест першай кнігі М.Гарэцкага – зборніка “Рунь” (1914).

Яго творы былі заўважаны крытыкай. М.Багдановіч адзначыў М.Гарэцкага як таленавітага мастака слова.

Пасля заканчэння вучылішча малады пісьменнік едзе па размеркаванні на Віленшчыну, дзе працуе каморнікам. Там завязалася сяброўства з Я.Купалам і З.Бядулем. У віленскі перыяд М.Гарэцкім былі напіса-

ны драматычная аповесць “Антон”, а таксама артыкулы “Наш тэатр” і “Развагі і думкі”.

Адбыванне вайсковай павіннасці ў якасці “вальнапісанага” царскай арміі супала з пачаткам Першай сусветнай вайны. М.Гарэцкі ўдзельнічаў у кровапралітных баях ва Усходняй Прусіі, дзе быў цяжка паранены. Падлячыўшыся ў Вільні, вучыўся ў Паўлаўскім ваенным вучылішчы. Атрымаўшы чын прапаршчыка, праходзіў службу спачатку ў Іркуцку, а потым у Гжацку.

У час вайны пісьменнік стварыў шэраг апавяданняў пераважна ваеннай тэматыкі: “На этапе”, “Генерал”, “Прысяга”, напісаў дакументальна-мастацкую аповесць “На імперыялістычнай вайне”. Як лічаць гісторыкі літаратуры, ён адзін з пачынальнікаў ваеннай дакументалістыкі ў беларускай літаратуры.

Кастрычнік 1917 года пісьменнік сустрэў у Смаленску. М.Гарэцкі захапіўся журналістыкай: спачатку працаваў у газеце “Известия Смоленского Совета рабочих, солдатских и крестьянских депутатов”, а потым – у “Звезде”, рэдакцыя якой пасля абвяшчэння Беларускай рэспублікі пераехала з Мінска ў Вільню.

У час польскай акупацыі пісьменнік шмат працуе, займаецца грамадскай дзейнасцю і плённа піша.

М.Гарэцкі быў выкладчыкам Віленскай беларускай гімназіі, чытаў лекцыі на беларускіх настаўніцкіх курсах, рэдагаваў газеты “Наша думка” і “Беларускія ведамасці”. На працягу 1919–1923 гг. ён напісаў больш за 20 твораў: апавяданні, аповесць “Дзве душы”, крытычныя артыкулы, першы падручнік “Гісторыя беларускай літаратуры” і “Хрэстаматыю беларускай літаратуры: XI ст. – 1905 г. ”. У 1922 годзе за антыўрадавую дзейнасць М.Гарэцкі быў арыштаваны польскімі ўладамі. У 1923 годзе пісьменнік пераязджае ў Мінск. Займаўся пераважна выкладчыцкай і навуковай дзейнасцю, чытаў лекцыі на рабфаку БДУ.

Зноў ён прыязджае ў Горкі ў 1926 годзе ўжо вядомым пісьменнікам і вучоным. Працуе ў сельскагаспадарчай акадэміі загадчыкам кафедры беларускай мовы, літаратуры і гісторыі. Да гэтага часу на тэрыторыі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі захаваўся дом, дзе жыла сям'я Гарэцкіх. На гэтым доме зараз усталявана мемарыяльная дошка.

А.С.Вечар (затым акадэмік АН Беларусі) – адзін са шматлікіх студэнтаў акадэміі, што вучыліся ў Гарэцкага. Ён успамінаў: “… Лекцыі Максіма Іванавіча вызначаліся глыбокім зместам, вялікай эрудыцыяй, народным гумарам, папулярнасцю. Праз некаторы час на яго лекцыі пачалі прыходзіць студэнты з іншых курсаў і факультэтаў. Як ніхто

іншы, ён прывіваў нам любоў да беларускай літаратуры, якую я пранёс праз усё жыццё...” (Э.Іофе. Штрыхі да партрэта //Маладосць. 1973. №2.С.152.).

З 1928 года ён пачынае працаваць у Інбелкульце і ў Акадэміі навук БССР.

У 1930 годзе пісьменнік быў рэпрэсіраваны на падставе несправядлівага абвінавачвання ў “контррэвалюцыйнай” дзейнасці і высланы ў Вятку. У ссылцы М.Гарэцкаму давялося папрацаваць чарцёжнікам, далакопам і тэхнікам-калькулятаршчыкам. У гэты час ён апрацоўваў матэрыялы да дакументальна-мастацкага твора “Камароўская хроніка”, працаваў над раманам “Віленскія камунары”, які завяршыў у пасёлку Пясочня (цяпер знаходзіцца ў Калужскай вобласці, Расія), дзе яму пашчасціла ўладкавацца на працу настаўнікам.

4.11.1937 г. быў зноў арыштаваны і 5.1.1938 г. прыгавораны да расстрэлу (расстраляны ў Вязьме). Рэабілітаваны 15.11.1957 г.

Яго апошнім творам сталі незавершаныя “Скарбы жыцця”, дзе пісьменнік паказаў трагізм становішча мастака ў таталітарнай дзяржаве.

Нягледзячы на кароткі жыццёвы шлях, ён спаўна выявіў свой талент і ў іншых галінах творчай, інтэлектуальнай дзейнасці: у літаратуры і мовазнаўстве, публіцыстыцы, фалькларыстыцы, педагогіцы і грамадскай дзейнасці.

Невыпадкова ў 1993 годзе па рашэнні сусветна вядомай арганізацыі ЮНЭСКА святкавалася стагоддзе з дня нараджэння славутага выхаванца Горацкага каморніцка-агранамічнага вучылішча.

У вёсцы Малая Багацькаўка створаны музей-сядзіба пісьменніка, яго імя прысвоена Горацкай раённай бібліятэцы, а ў Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі дзейнічае кабінет-музей імя М.Гарэцкага.

У Мінску, Горках і Мціслаўі названы ў яго гонар вуліцы. У Мінску і Горках усталяваны мемарыяльныя дошкі, у Мінску ўстаноўлены помнік.

**79. Калі было адкрыта рамеснае вучылішча і каго яно рыхтавала?**

Неабходнасць падрыхтоўкі майстроў па вырабу, абслугоўванні, рамонту сельскагаспадарчых машын і прылад абумовіла адкрыццё пры Горацкім земляробчым вучылішчы на базе механічнага завода рамеснага вучылішча. Палажэнне аб рамесным вучылішчы было зацверджана 18 лютага 1872 года, а заняткі пачаліся з першага верасня гэтага ж года.

У гэта вучылішча прымалі юнакоў ва ўзросце 16 гадоў, моцнага целаскладу, якія маглі пісаць, чытаць, ведалі тры дзеянні арыфметыкі. Курс навучання ў вучылішчы працягваўся пяць гадоў. Два дні ў тыдзень вучні праходзілі тэарэтычны курс, чатыры дні – практычныя заняткі па 8-10 гадзін у дзень.

У пачатку XX ст. Горацкае рамеснае вучылішча мела вялікае значэнне ў сістэме сельскагаспадарчай адукацыі Расіі, бо было першай і адзінай спецыяльнай навучальнай установай для сельскагаспадарчага машынабудавання.

Аднак у пачатку стагоддзя ўзнікла неабходнасць прывесці навучанне ў вучылішчы ў большую адпаведнасць з патрабаваннямі тэхнічнай адукацыі таго часу. У сувязі з гэтым 12 сакавіка 1901 года Дзяржаўны савет прыняў рашэнне аб пераўтварэнні рамеснага вучылішча, згодна з якім былі дакладна акрэслены ўмовы прыёму вучняў, тэрмін і аб'ём навучання, правы і абавязкі асоб, якія скончылі вучылішча, зацверджаны штат вучылішча, нададзены поўныя правы яго служачым.

Была павялічана колькасць гадзін на вывучэнне агульнаадукацыйных і спецыяльных прадметаў.  Сталі вывучаць тэхналогію металаў і дрэва, земляробчую механіку, праекцыйнае і тэхнічнае чарчэнне, а таксама рамёствы: сталярнае, слясарна-такарнае, кавальскае і іншыя.

У той жа год вучылішча наведаў адказны чыноўнік Дэпартамента земляробства В.Эндэр, які ў дакладной запісцы адзначаў: "Мне было особенно отрадно воочию убедиться, что расширение в 1900–1901 гг. мастерских училища и преподавание в нём улучшило подготовку мастеров. Приятно было видеть, как кипела работа на заводе. Более сотни учеников принимали непосредственное участие под наблюдением мастеров в разнообразных столярных, слесарных, литейных, кузнечных работах, направленных исключительно к изготовлению машин или сельскохозяйственных орудий или частей к ним, а также установку станков для собственных мастерских".

У вучылішчы стала абавязковым патрабаванне, каб кожны вучань папрацаваў практычна ў кожным аддзеле па ўсіх відах рамёстваў і работ. Кожны месяц праца вучняў ацэньвалася спецыяльнай камісіяй у складзе кіраўніка вучылішча, старшага механіка і майстра адпаведнай спецыяльнасці, які праводзіў вучэбную практыку. Для больш дэталёвага вывучэння спецыфікі сваёй спецыяльнасці лепшыя вучні накіроўваліся на буйныя машынабудаўнічыя заводы Расіі.

Вучэбны курс навучання ў вучылішчы быў разлічаны на 5 гадоў.

Паводле "Положения…" 1901 года, праводзіліся перавадныя і выпускныя экзамены. Перавадныя экзамены здавалі толькі тыя вучні, якія мелі за год нездавальняючыя адзнакі. Калі ў вучняў былі нездавальняючыя адзнакі больш чым па двух прадметах, то яны не дапускаліся да экзаменаў і рашэннем педагагічнага савета выключаліся з вучылішча або заставаліся на паўторны курс у тым жа класе.

Вучні, якія паспяхова скончылі поўны курс навучання, атрымлівалі званне сельскага майстра-механіка і пасля выканання воінскай павіннасці карысталіся правамі выпускнікоў навучальных устаноў другога разраду.

У 1911 годзе Горацкае рамеснае вучылішча было пераўтворана ў сельскагаспадарчае рамеснае вучылішча. Тэрмін навучання быў скарочаны да трох гадоў. У 1912–1917 гг. у вучылішчы набывалі веды ад 66 да 92 чалавек у год.

Першыя два гады, калі вучні раней вывучалі агульнаадукацыйныя прадметы, былі скарочаны. Таму сталі ў яго прымаць толькі тых, хто скончыў двухкласныя вучылішчы Міністэрства народнай адукацыі, а таксама тых, хто паспяхова здаваў уступныя экзамены.

**80. Хто быў дырэктарам і выкладчыкамі рамеснага вучылішча?**

Рамесным вучылішчам с 1899 па 1906 год кіравалі **А.Т.Барклеўскі, Дз.Дз.Арцыбашаў**, **П.С.Ларыёнаў.**

**Дз.Дз.Арцыбашаў** (1873–1942) скончыў Маскоўскую сельскагаспадарчую акадэмію.

У вучылішчы ён не толькі быў дырэктарам, але і выкладаў курсы батанікі і сельскагаспадарчых машын.

Таксама актыўна займаўся навуковай дзейнасцю, пачаўшы сваю плённую працу па акліматызацыі драўнінных культур і дэкаратыўнаму садоўніцтву, напісаў шмат прац па прыкладной батаніцы і сельскагаспадарчаму машыназнаўству.

Пасля Горак працаваў інспектарам Дэпартамента земляробства Харкаўскай губерні, потым у сельскагаспадарчым Вучоным камітэце Міністэрства земляробства і дзяржаўных маёмасцяў (загадваў Бюро па сельскагаспадарчай механіцы), а з 1906 года выкладаў на вышэйшых жаночых агранамічных Сцебутаўскіх курсах у Пецярбургу.

У гэты час ён у сваім маёнтку каля вёскі Мяшчэрка (зараз Станаўлянскі раён Ліпецкай вобласці) на плошчы ў 4 гектары заклаў парк, які налічваў да 70 іншаземных парод дрэў і кустоў. У 1924 годзе тут была арганізавана лесастэпавая доследная станцыя, якая існуе і ў наш час.

З 1920 года – прафесар кафедры сельскагаспадарчага машыназнаўства Таўрычаскага універсітэта. У 1925–1928 гадах быў навуковым супрацоўнікам Усесаюзнага інстытута прыкладной батанікі і новых культур. Выкладаў курс лекцый сельскагаспадарчага машынабудавання ў Харкаўскім тэхналагічным інстытуце (1929).

З 1930 года – прафесар Харкаўскага сельскагаспадарчага інстытута. З 1935 года – намеснік дырэктара Усесаюзнага інстытута раслінаводства па навуковай частцы. У 1937 годзе рэпрэсіраваны, але хутка быў вызвалены.

Аўтар прац: "Сельскохозяйственные машины и орудия на Минской юбилейной выставке" (1901), "Отчет по испытанию рядовых сеялок крестьянского типа, устроенному в 1906 году на средства Департамента земледелия инспектором сельского хозяйства в Харьковской губернии" (1906), "Колосоуборки (стripперы и хедеры)" (1908), "Сельскохозяйственное машиностроение в Соединенных Штатах Северной Америки и в Канаде" (1909), "Орудия и машины сельского хозяйства (1915), "Комбайны. Их современные конструкции и значение" (1930).

Калі выйшаў на пенсію, працягваў эксперыментальныя даследаванні ў сваім асабістым садзе. Свой 40-гадовы вопыт у галіне прыкладной батанікі, пачатак якога быў пакладзены яшчэ ў Горках, ён абагульніў у кнізе "Декоративное садоводство" (1941).

**Ю.А.Вейс** скончыў у 1899 годзе Новаалександрыйскі інстытут сельскай і лясной гаспадаркі, дзе потым працаваў некаторы час выкладчыкам. Будучы студэнтам, падрыхтаваў і выдаў у 1900 годзе кнігу "Описание устройства косилок, жаток и сноповязалок". Потым працаваў выкладчыкам у Горацкім рамесным вучылішчы. З 1909 года – у Бюро сельскагаспадарчай механікі Вучонага камітэта Дэпартамента земля-робства Расіі і адначасова выкладаў на Сцебутаўскіх курсах. З 1920 да 1941 года – загадчык кафедры механізацыі сельскай гаспадаркі, дэкан факультэта меліярацыі і машынабудавання, прарэктар Горацкага сельс-кагаспадарчага інстытута і Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Тут ён кіраваў таксама аддзелам машынавыпрабавання доследнай стан-цыі. Пад яго кіраўніцтвам праводзіліся выпрабаванні розных тыпаў плу-гоў, сеялак, вывучалася дэфармацыя зямлі пад уплывам розных плуж-ных адвалаў. У Горках былі выдадзены працы: "Установка плугов", "Орудия послеплужной обработки почвы", "Курс сельскохозяйствен-ного машиноведения", "Обращение и уход за двухтактными двигателя-ми". Акадэмік АН БССР з 1940 года, доктар тэхнічных навук (1937), прафесар (1909), заслужаны дзеяч навукі

БССР (1940). У 1946 –1947 гадах узначальваў аддзяленне прыродазнаўчых і сельскагаспадарчых на-вук АН БССР, а затым працаваў загадчыкам лабараторыі па вывучэнні фізіка-механічных уласцівасцей раслін Інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі АН БССР.

Ю.А.Вейс з'яўляецца адным з асноўных ініцыятараў адкрыцця Мінскай машына-выпрабавальнай станцыі, якая была пераўтворана ў ЦНДІМЭСГ Нечарназёмнай зоны СССР (зараз БНДІ механізацыі сельскай гаспадаркі).

Выкладчыкамі ў вучылішчы працавалі таксама **М.Т.Жукаў** (тэхналогія металаў), **М.М.Высоцкі** (земляробства), **М.В.Бяліннікаў** (тэхналогія дрэва, арыфметыка, пачатковая алгебра), **П.Г.Азараў** (агульная механіка, геаметрыя, чарчэнне), **І.І.Красікаў** (пачатак фізікі і хіміі), **А.Я.Скрыпчынскі** (Закон Божы).

**81. Ці працягваліся ў Горацкіх сярэдніх навучальных установах традыцыі ўдзельнічаць ў міжнародных і ўсерасійскіх выставах?**

Вядома, што Горацкія навучальныя ўстановы ўдзельнічалі ў Парыжскай сусветнай выставе 1900 года і атрымалі залаты медаль, а дырэктар вучылішча І.І.Барсукоў асабіста даваў у Парыжы тлумачэнні каля дэманстрацыйнага стэнда ў аддзеле сельскагаспадарчых навучальных устаноў.

Удзельнічалі вучылішчы ва ўсерасійскіх выставах 1882, 1887 і 1896 гадоў у Харкаве. Экспанаты на апошняй выставе ўдзельнічалі па-за конкурсам. Аднак вядома, што на аукцыёне бык “Славный” шаралезскай пароды быў прададзены за 288 руб. – самую вялікую суму, заплачаную на гэтым аукцыёне за галаву буйной рагатай жывёлы.

Без удзелу Горацкіх навучальных устаноў не абыходзілася ні адна выстава і ў Магілёўскай губерні. Так, на сельскагаспадарчай кустарна-прамысловай выставе ў 1896 годзе ў Магілёве выстаўлялі некалькі дзесяткаў экспанатаў, а двое навучэнцаў старэйшых класаў давалі тлумачэнні наведвальнікам.

Вядома, што выкладчык вучылішча А.Р.Чэрапаў прачытаў там дзве лекцыі: “Научные основы практического животноводства” і “Зависимость сельского хозяйства от современных путей сообщения и рынков”.

Выкладчыкі горацкіх вучылішчаў на выставах актыўна працавалі ў якасці экспертаў. Вядома, што М.В.Рытаў на выставе ў Харкаве (1887) быў сакратаром экспертнай камісіі па аддзелу пладаводства і дэкаратыўнага садоўніцтва, а на Кіеўскай сельскагаспадарчай і прамысловай

выставе 1897 года – старшынёй у трох з пяці экспертных камісій. Там жа выкладчыкі Г.А.Глінскі і В.Я.Краінскі ўвайшлі ў склад экспертных камісій конкурсу сельскагаспадарчых машын. А ўпраўляючы вучэбнай фермай І.А.Гудкоў быў экспертам па аддзелу буйной рагатай жывёлы.

**82. Што адбылося з вучэбнай фермай пасля 1863 года?**

Вучэбная ферма, адкрытая яшчэ ў 1844 годзе, у 1876 годзе была перайменавана ў сельскагаспадарчую. Гэта значыла, што вучняў ужо больш не набіралі.

Паводле новага “Положения…”, яе мэтай было “служить примером правильного ведения хозяйства, способствовать распространению лучших сортов семян, пород скота и сельскохозяйственных машин”.

Яна ўключала два фальваркі – Горкі і Іванова. Агульная плошча яе складала больш за 656 дзесяцін зямлі.

Асноўныя накірункі працы – гэта паляводства і лугаводства, малочная жывёлагадоўля і вырошчванне племянных жывёл, свінагадоўля, авечкагадоўля, птушкагадоўля і конегадоўля.

Агульнае кіраўніцтва фермай ажыццяўляў дырэктар земляробчага вучылішча, а непасрэднае – упраўляючы. У розны час упраўляючымі працавалі В.Неручаў, М.Гудкоў, М.Падабед, І.Зотаў, П.Панкоў і інш.

Актыўнае выкарыстанне фермы ў навучальным працэсе спрыяла замацаванню практычных навыкаў навучэнцаў. Выпускнікі Горацкага земляробчага вучылішча адрозніваліся добрай падрыхтоўкай і з поспехам маглі прымяняць атрыманыя веды на практыцы. Акрамя таго, вучэбная ферма была цэнтрам правядзення навуковых даследаванняў у сельскай гаспадарцы для Магілёўскай і Віцебскай губерняў. Тут апрабоўваліся новыя севазвароты, гатункі раслін і пароды жывёлы. Так, у 1886 годзе быў праведзены параўнальны дослед па ўплыву прымянення гною і суперфасфатаў (якія толькі што з'явіліся ў земляробаў Расіі) на ўраджайнасць і якасць збожжа азімай пшаніцы і жыта. У 1889 годзе такі ж дослед быў праведзены з ячменем і бульбай. У 1893 годзе пад кіраўніцтвам загадчыка фермы М.М.Падабеда было праведзена 9 такіх доследаў.

Вынікі гэтых доследаў былі надрукаваны ў зборніку Дэпартамента земляробства “Ежегодник русских сельскохозяйственных опытных учреждений” (1901) і атрымалі высокую ацэнку навуковай грамадскасці Расіі.

Ферма працавала эфектыўна. Вядома, што сярэдні ўраджай азімай пшаніцы з адной дзесяціны за 1901–1910 гады на ферме быў 113,8 пу-

доў, тады як у памешчыкаў Горацкага павета – 53,4, а ў сялян – 44,7; аўса адпаведна: 107,0; 49,0; 45,4; бульбы – 688,5; 552,5; 467,0.

Важна адзначыць, што ферма значную частку свайго насення прадавала сялянам Магілёўскай губерні. Так, толькі ў 1902 годзе прадалі азімай пшаніцы 298 пудоў, жыта – 490, аўса – 251, ячменю – 260, кармавых траў –117 пудоў.

Эфектыўна працавалі таксама фермы буйной рагатай жывёлы, дзе разводзілі “швицкую и ангельскую” пароды буйной рагатай жывёлы, свінаферма, дзе разводзілі “йоркширскую и беркширскую породу”, авечкаферма, дзе вырошчвалі авечак “оксфордширдской пароды”.

Конны завод займаўся развядзеннем коней. Вядома, што к канцу XIX ст. у Горацкім павеце было шмат коней, якія былі падобны да пароды нарвежскіх коней.

**83. Ці працягвала сваю дзейнасць у Горках першае ў Еўропе навукова-доследнае поле**?

З закрыццём Горыгорацкага земляробчага інстытута ў 1864 годзе спыніла існаванне доследнае поле гэтай навучальнай установы.

У 1866 годзе дырэктар Горацкіх навучальных устаноў М.Барсукоў хадайнічаў перад Дэпартаментам зямляробства Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў аб адкрыцці на месцы былога доследнага поля земляробчага інстытута “практычнага поля” “… для обучения на практике воспитанников первых трех классов земледельческого училища действиям с земледельческими орудиями и с посевом разных культур”.

Дэпартамент Міністэрства дзяржаўных маёмасцяў 26 мая 1866 года прыняў рашэнне аб адкрыцці такога поля. Пры земляробчым вучылішчы ў 1866 годзе было адкрыта доследнае поле на 5 дзесяцін зямлі. Усе работы на ім выконваліся вучнямі пад кіраўніцтвам выкладчыкаў.

Сельскагаспадарчая прадукцыя, вырашчаная на практычным поле, служыла аб'ектам для практычных заняткаў, а таксама выкарыстоўвалася для харчавання навучэнцаў. Пры гэтым яе лішкі прадаваліся, а на выручаныя грошы закупляліся патрэбныя для вучылішча матэрыялы, у тым ліку падручнікі і кнігі.

Вядома, што дзякуючы доследнаму полю пачалося шырокае распаўсюджванне ў Магілёўскай губерні сеялак, якія выраблялiся на Горацкім заводзе сельскагаспадарчых машын.

У 1868 годзе пры земляробчым вучылішчы была адкрыта школа садовых рабочых. Ёй кіраваў М.В.Рытаў. У школу залічвалася сялянская моладзь ва ўзросце да 16 гадоў. Вучыліся там тры гады. Але бралі на вучобу ўсяго 2–6 вучняў.

